ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

4 ЖНІЎНЯ 1995 г. № 31 (3803) Кошт 2 000 руб.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# ЛЮДСКАЕ ЖЫЦЦЁ САМО НЕ ПРЫЙДЗЕ

**ПРАМОВА НА МІТЫНГУ ГРАМАДСКАСЦІ МІНСКА, ПРЫСВЕЧАНЫМ 5-Й ГАДАВІНЕ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

Шаноўная грамада! У гісторыі — свая логіка, свая мудрасць, свае законы, па якіх яна развіваецца, і таму яе развою не спыніць і не адмяніць, хіба што можна на нейкі час прытармазіць і запаволіць. Паводле яе мудрай логікі, а можна сказаць — па найвышняй Божай справядлівасці, — заканамерна і непазбежна адбыўся гістарычны акт 25 сакавіка 1918 года — абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, а праз семдзесят два гады, на новым вітку гістарычнага развою, гэтак жа заканамерна і непазбежна здзейсніўся акт 27 ліпеня 1990 года — абвяшчэнне Беларусі суверэннай незалежнай дзяржавай. Тое, што зрабілі нашы вялікія папярэднікі ў сакавіку 1918-га, хоць і апынулася ў цісках трагічнага лёсу, аднак жа не было дарэмным: зерні ўпалі не на камень і далі ўсходы. Семдзесят два гады мы чакалі іх вялікага плёну, чакалі цярпліва, пакутліва, часам чуліся на мяжы роспачы і безнадзейнасці, але веры ўсё ж не трацілі, і ішлі наперад, і што маглі — рабілі, каб выжыць, вытрываць і ўтрымацца, каб не пагасла канчаткова наша памяць, каб не змарнела і не счэзла наша культура, каб не абарвалася на паўслове, як тое зязюльчына ку-ку, і не замоўкла назаўсёды наша родная мова. Калі б і ў тых жахлівых умовах таталітарнага рэжыму мы не рабілі тое, што рабілі, — мы напэўна не святкавалі б сёння гэтае свята Незалежнасці. Гэта трэба разумець і помніць, а то некаторыя думаюць, што ўсё пачалося зусім нядаўна, у самыя апошнія гады. На шчасце, і сорак, і трыццаць, і дваццаць гадоў назад былі людзі вялікай мэты і вялікай мужнасці, якія, пры ўсіх неабходных агаворках, былі палымянымі патрыётамі сваёй зямлі і свайго народа. Былі Ларыса Геніюш і Пімен Панчанка, Іван Мележ і Уладзімір Караткевіч, Аляксей Пысін і Лявон Баразна і многія іншыя, хай сабе і менш вядомыя і амаль зусім невядомыя, якія, аднак жа, рабілі — кожны на сваім месцы — адну вялікую справу.

Учора і сёння Дзень Незалежнасці Беларусі, па фарысейска-крывадушнай звычцы, святкуюць і тыя, хто нашу дзяржаўную незалежнасць хацеў бы бачыць на ражне, хто гатоў утапіць яе ў лыжцы вады, хто зрываў і рваў на кавалкі, таптаў і дратаваў Сцяг і Герб незалежнай Рэспублікі Беларусь. Няхай нікога з нас не ўвядзе ў зман гэтае іх афіцыйнае святкаванне — гэтая іх крывадушнасць. Яны віталі Дзень Незалежнасці і пяць гадоў назад. А пасля? А пасля — “пявун не прапяяў трыкраты, як адракліся супастаты”. 13 красавіка г. г. дэпутаты Вярхоўнага Савета на сесіі прадалі нашу мову, нашу дзяржаўную сімволіку, наша імкненне жыць незалежна, а ўрэшце — і сваю дэпутацкую годнасць. А 14 траўня, стаўшы ахвярамі грубага палітыканства і бессаромных маніпуляцый, многія нашы людзі пайшлі за “ворагамі беларушчыны” і прагаласавалі за ганебны і подлы пераварот ва ўнутранай і вонкавай палітыцы нашай суверэннай дзяржавы. Чаго варта святочная радасць гэтых надзеленых уладай дзяржаўных чыноў, калі яны на справе робяць усё, каб свабоду і незалежнасць Беларусі ліквідаваць і пахаваць?

Шаноўная грамада! Што мы мусім рабіць каб Свята Незалежнасці Беларусі мела рэальны змест і не перастала быць святам? Трэба ўсюды і скрозь, колькі ёсць змогі, тлумачыць згубнасць той дзяржаўнай палітыкі, якую праводзіць сённяшняе кіраўніцтва рэспублікі, тлумачыць, што калі мы не будзем поўнымі гаспадарамі ў сваім уласным доме — мы ніколі не дасягнем жаданага дабрабыту і не забяспечым сабе і нашым нашчадкам прыстойнага людскага жыцця. Нам, і гэта трэба ведаць, будзе нялёгка, будзе нават вельмі цяжка, бо сілы, што процістаяць нам, шматлікія і магутныя. І яны не толькі тут, у Беларусі. Яны і там, на Усходзе. Учора вечарам па расійскім тэлеба-

*(Працяг на стар. 2)*



# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Друк паведаміў аб тым, што ў час апошняй прысягі ў часцях унутраных войск Беларусі навабранцы прысягалі на вернасць не дзяржаве, а яе кіраўніку: "Служу Прэзідэнту і Айчыне!" У армейскіх часцях, падпарадкаваных Міністэрству абароны, салдаты па-ранейшаму прамаўлялі: "Служу Рэспубліцы Беларусь!" Атрымалася, што краіна быццам адна, а прысягі дзве. Дзіўна? У дадатак міжволі напрошваецца і думка аб тым, што формула "Служу Прэзідэнту і Айчыне", асабліва ў рускім вымаўленні ("Служу Президенту и Отечеству!"), вельмі ж нагадвае... Але, але, даўнейшую, дарэвалюцыйную салдацкую клятву верна служыць "царю и отечеству". Цікава: ці ёсць дзе ў свеце другая дзяржава, дзе б салдаты розных родаў войск прысягалі б розным "інстанцыям"?***

## "ЮР'ЕЎ ДЗЕНЬ" ТЫДНЯ

Канцэрн "Белнафтапрадукт" і Камітэт па цэнах Беларусі прапаноўваюць падвысіць цэны на клірынгавую нафту з Расіі і нафтапрадукты. Цяпер адна тона нафты, мяркуецца, будзе каштаваць 75 долараў (апошняя цана — 66,9 долара). Адпаведна 10—12 працэнтаў падвысіцца цана на нафтапрадукты, найперш — на бензін. А хто гэта напярэдадні выбараў абяцаў заліць Беларусь таннай расійскай нафтай?

## ПАГРОЗА ТЫДНЯ

Аўтапарк мінскай службы "03" складаецца ў асноўным з машын, якія "выхадзілі" эксплуатацыйны тэрмін, але па-ранейшаму выязджаюць па выкліках. У дзяржавы няма грошай на абнаўленне аўтапарку, але тым, для каго "хуткая" — апошняя надзея, ад гэтага не лягчэй. Страшна ўявіць, што будзе, калі "хуткая дапамога" ўвогуле спыніць існаванне. А гэта падаецца даволі верагодным. Вадзіцелі мінскай службы "03" ужо аднойчы страйкавалі, патрабуючы... не, не падвышку заробку, а запчастак для машын "хуткай дапамогі"!

## ЗАДОЎЖАНАСЦЬ ТЫДНЯ

І. Ціцянкоў даў інтэрв'ю карэспандэнту "Інтэрфакса" па выніках гадавіны свайго знаходжання на пасадзе прэзідэнцкага "заўхоза". У інтэрв'ю ён, у прыватнасці, згадаў, што на фінансавым стане выдавецтва "Беларускі Дом Друку" кепска адбілася тое, што выкананы, але не запатрабаваны заказ Міністэрства ўнутраных спраў на надрукаванне бланкаў пашпартоў грамадзян Рэспублікі Беларусь з "дарэферэндумнай" сімволікай. А гэта — 1,5 мільярда рублёў, і доўг ніхто не збіраецца аплачваць. Дык што, па-ранейшаму спадар прэзідэнт будзе сцвярджаць, што змена сімволікі нічога не каштуе?

## ПОДЗВІГ ТЫДНЯ

Напярэдадні Дня Незалежнасці невядомы жыхар Лёзна, падняўшыся без усялякай страхоўкі па ржавых скробах на 40-метровы комін мясцовага райбыткамбіната, замацаваў на самым версе бел-чырвона-белы сцяг. Пасля таго, як спроба расстраляць сцяг не мела поспеху, на комін палез міліцыянер. Сарваўшы сцяг, ён знайшоў побач з ім запіску: "Вярніце народу гістарычную памяць. Мірон." Абодва верхалазы — жывыя. Дзеля чаго рызыкаваў жыццём Мірон — зразумела, а вось міліцыянер...

## БЕЗЗАКОННЕ ТЫДНЯ

Таварыства беларускай мовы мае звесткі аб выпадках адмовы пэўных работнікаў адукацыі прымаць заявы аб навучанні дзяцей па-беларуску і нават аб спробах запалохаць бацькоў. Гэта — грубае парушэнне законнасці, як і любыя спасылкі адміністрацыі школ на тое, што ў беларускі клас не набіраецца дзяцей. Школа павінна вучыць на беларускай мове і аднаго вучня! ТБМ раіць бацькам патрабаваць пісьмовае абгрунтаванне адмовы навучаць школьніка па-беларуску з подпісамі ўсіх адказных асоб.

## НАБЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Міністэрства культуры і друку павінна перадаць недабудаваны Палац культуры рэспублікі ў Мінску (цяпер ужо — проста Палац рэспублікі) кіраўніцтву справамі прэзідэнта РБ. Расце гаспадарка тав. Ціцянкова!

## "КОЛЛЕКТИВ" ТЫДНЯ

Рыхтуецца да выдання газета так званага "Белорусского патриотического движения". Яна будзе называцца "Отечество". Якое? Ці не тое, што "навеки сплотила великая Русь"? У складзе рэдкалегіі новага выдання — усім вядомыя Іван Антановіч, Юрый Азаронак, Міхаіл Савіцкі, Іван Чыгрынаў... Птушкі аднолькавага апярэння збіраюцца ў чараду.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

**"— У мяне апошнім часам складваецца ўражанне, што хтосьці старанна і мэтанакіравана працуе над стварэннем міфа пра дабрадушнага, нязлоснага, марудлівага, нехлямяжага беларуса. Ці не ўзнікае такое пачуццё і ў вас?**

— Вядома ж, гэта робіцца спецыяльна, як шоры каню на вочы надзяваюць: "вы спакойныя, вы добрыя і ціхія, мы вас любім, мы будзем вас прадстаўляць, за вас гаварыць і думаць, а вы — працуйце". Для таго, каб зразумець, што сёння з намі адбываецца, трэба проста згадаць гісторыю. 200 гадоў пад Расійскай імперыяй, 70 — пад савецкай. Колькі за гэты час было загублена беларусаў у паўстаннях, рэвалюцыях, рэпрэсіях, у ваенны час, на будоўлях камунізму? Планамерна і мэтанакіравана знішчаўся мозг нацыі, яе інтэлектуальны патэнцыял, а вольнае месца запаўнялася летунамі з Расіі, тымі нялепшымі прадстаўнікамі нацыі, якім дома не сядзіцца. Ведаеце, каштоўны метал, ён заўсёды на дне ляжыць, а смецце і гной — зверху плаваюць... У нашай гісторыі быў закладзены і вынік рэферэндуму, і тое, што мы зараз пад мусульманскім сцягам жывём."

*(З інтэрв'ю Р. Барадуліна газеце "Имя", 2 жніўня г.г.)*

## ІДЫЯТЫЗМ ТЫДНЯ

Нехта Аляксандр Мартулеў, які называе сябе "литератором", надрукаваў у газеце "Добры вечар" (2 жніўня г.г.) філалагічна-тапанімічныя нататкі, у якіх даводзіць, што "большинство фамилий белорусов... и названий населенных пунктов... образовано от слов общих для русского и белорусского языков", а, значыць, робіцца высновa, "когда мы сегодня говорим, пишем и думаем на русском языке, то говорим и думаем на языке своих предков — К. Туровского, Ф. Скорины..." Наўрад ці трэба прыводзіць аргументацыю аўтара тыпу: прозвішча Кудравец паходзіць ад рускага "кудрявый", бо па-беларуску — "кучаравы"; Сваяк — ад рускага "свояк", "своячениця", бо па-беларуску "свояк" — "швагер", "швагерка"; назвы Узда — ад "узда", бо па-беларуску "аброць", Пагост — ад "погост", бо па-беларуску — "банкет", "бяседа"... Тут, як кажуць, хоць стой, хоць падай.










*Фота А. МАЦЮША і Віт. АМІНАВА.*

# ЛЮДСКАЕ ЖЫЦЦЁ САМО НЕ ПРЫЙДЗЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

чанні выказваўся просты рускі чалавек, здаецца, звычайны рабочы, і сказаў: "Нет, Белоруссию мы не должны уступить, нет, Белоруссия должна быть нашей!" Удумайцеся толькі: рускаму брату нашаму і ў галаву не прыходзіць спытаць у нас, беларусаў: а чаго мы хочам самі? А якое наша жаданне і якая наша воля?

Думаю, што ў вялікай працы, якая нас чакае наперадзе, выключна адказная роля будзе належаць інтэлігенцыі. Кепска і ганебна, калі нашы не вельмі адукаваныя грамадзяне выступаюць супраць незалежнасці сваёй дзяржавы, сваіх гістарычных сімвалаў, сваёй роднай мовы, але тройчы ганебна — калі гэта робіць інтэлігенцыя. Інтэлігенцыя павінна даваць прыклад змагання за Беларусь. Асабліва — для моладзі. Таму што лёс Беларусі будзе залежаць ад таго, якою вырасце і ўздымецца беларуская моладзь. Не даць ашукаць моладзь, не дапусціць, каб яна пайшла гібельным шляхам, як ужо неаднойчы было ў нашай гісторыі, — вось задача задач для ўсіх, хто сёння адчувае адказнасць за лёс Бацькаўшчыны.

Шаноўныя ўдзельнікі мітынгу!

Дазвольце мне закончыць гэтае прывітальнае слова васьмірадковым вершам, напісаным у пачатку верасня 1991-га, тады ж апублікаваным у "Народнай газеце", а ў канцы года — у маім зборніку паэзіі "Незалежнасць". На вялікі жаль, ён не страціў актуальнасці і сёння. Верш называецца "Цяпер!":

**Цяпер! Цяпер! Цяпер — і толькі!**
**Або — або, народзе мой!**
**Або — цяпер, нязломна-стойкі,**
**У рукі лёс ты возьмеш свой,**
**Абo — і ў далі найдалёкай,**
**З ярмом, уздзетым на каўнер,**
**Ты будзеш жыць, як раб і лёкай...**
**Таму — цяпер! Цяпер! Цяпер!**

З вялікім Святам вас, дарагія людзі! Са Святам, якое сёння, якое будзе заўтра і якое будзе ў вяках! Жыве незалежная Беларусь!

# А ЛЮБОЎ СПЛАЧВАЕ ГРАХІ...

## АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА ЗАВЯРШЫЎ СЕЗОН СПЕКТАКЛЕМ "СТРАСЦІ" ("РАГНЕДА")



Адкрытая для публікі генеральная рэпетыцыя (а па сутнасці, паўнавартасны спектакль), два прэм'ерныя паказы (на другім прысутнічаў прэзідэнт краіны) — гэтага аказалася дастаткова, каб назваць новы спектакль падзеяй.

Зрэшты, грамадская думка ўжо выспела для таго, каб увасобіцца менавіта ў такое вызначэнне: "Падзея!" А хіба магло быць інакш, калі публіка — і фанаты Беларускага балета, і яго не сказаць каб зычліўцы — занудзілася ў трохгадовым чаканні гэтай прэм'еры? Дзіва што: чакалі нацыянальнага беларускага твора, якога з гадамі ўсё больш адчувальна бракавала сярод мастацкіх набыткаў, дасягненняў і адкрыццяў балетмайстра Валянціна Елізар'ева. Чакалі другога ўзыходжання на музычную сцэну Рагнеды — другога па ліку, але першага папраўдзе, пасля вядомай з гісторыі аднайменнай оперы рускага класіка мінулага стагоддзя Аляксандра Сярова. Чакалі спавядальнага эпасу і драматычнай дынамікі ў новай працы кампазітара Андрэя Мдзівані, які зусім нядаўна, услед за ўражлівымі сімфанічна-харавымі палотнамі "Памяць зямлі" ды "Полацкія пісьмёны", выправіў у свет яшчэ адну самабытную сімфонію з хорам — "Паўночныя кветкі".

Чаканне змянілася першымі ўражаннямі: адбылася прэм'ера, вартая трох гадоў мазольнай ратайскай працы на гэтым творчым цаліку. Спектакль, які яшчэ да нараджэння атрымаў імя "Рагнеда" (нейкі час у рабочы перыяд зваўся "Анафемай") набыў больш абагульненую, існасную і метафарычную назву: "Страсці". Лібрэта належыць пастаноўшчыку — Валянціну Елізар'еву, музычнае кіраўніцтва ажыццявіў выдатны дырыжор Генадзь Праватораў, сцэнаграфія — знанага мастака Вячаслава Окунева, з хорам працавала маэстра Ніна Ламановіч. У гэтым шматнаселеным сцэнічным творы ззяюць і "зоркі" Беларускага балета Інеса Душкевіч, Таццяна Шаметавец, Веніямін Захараў, Уладзімір Далгіх...

Паведамленне пра падзею сезона, якой наканавана ўвайсці ў гісторыю беларускага музычнага тэатра дый усёй нацыянальнай культуры, можа засмуціць чытачоў сваёй лаканічнасцю. Таму звяртаемся да цярплівасці фанатаў балета — цярплівасці, праверанай трыма гадамі чакання гэтай прэм'еры, і абяцаем: праз нейкі час у "ЛіМе" будзе грунтоўны аповяд пра новы спектакль. А гэты "цудадзейны творчы сплаў" вымагае разгорнутага аповяду, бо ў ім — і Грэх, і Вера, і невідушчая страсць, і празорлівая святасць, і ўсёпераможная Любоў. І чалавек. І — Бог...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

## А Ў НЕБЕ КРЫЛЯЛІ БУСЛЫ...

**27 ліпеня ў Дзень Незалежнасці нашай краіны ў Ракуцёўшчыне, дзе знаходзіцца філія музея Максіма Багдановіча, адбылося рэспубліканскае свята паэзіі. А пачалося яно з адкрыцця клеці, у якой сабраны экспанаты, прысвечаныя жыццю і побыту мясцовых жыхароў пачатку 20-га стагоддзя. На свяце паэзіі, якое праходзіла ля Максімавай крыніцы, выступілі прадстаўнікі мясцовай улады, дырэктар музея Максіма Багдановіча Алесь Бяляцкі, паэты Людміла Рублеўская, Эдуард Акулін, Віктар Шніп, а таксама маладыя літаратары Маладзечаншчыны. У выкананні фальклорных гуртоў прагучалі народныя песні. Не абышлося свята без вершаў самога Максіма Багдановіча. І, як сімвал таго, што жыве Беларусь, на ўзгорку, над галовамі моладзі, горда развяваліся бел-чырвона-белыя сцягі, а ў небе крылялі буслы.**

## КОЛЕРЫ "ПЕРШАЦВЕТА"

**25 ліпеня ў Доме літаратара адбылася вечарына маладых літаратараў, што групуюцца вакол часопіса "Першацвет". Імпрэза была прымеркавана да Дня Незалежнасці. Так здарылася, што ў ёй, у афіцыйнай, так бы мовіць, частцы, узялі ўдзел прадстаўнікі палітычных сіл, што дзвюма гадзінамі раней падпісалі ў будынку І з'езда РСДРП дэкларацыю аб стварэнні Сацыял-дэмакратычнага саюза.**

**На маю думку, прывязка літаратурнай імпрэзы да дзяржаўнага свята была штучнай, бо ў вершах тэма Незалежнасці прысутнічала ўскосна. Звычайны паэтычны вечар, на якім было ўсё: ад вершаў традыцыйнага ладу да "прыколаў" у стылі Анатоля Сыса. Для многіх удзельнікаў гэта ўвогуле быў першы выхад на сцэну, першая сустрэча з публікай.**

## ВЫПЛАТА ГРАНТАЎ АДНОЎЛЕНА

**Як паведамлялася ў друку, кіраўніцтва Беларускага фонду Сораса вымушана было прыняць рашэнне аб спыненні выплаты грантаў на здзяйсненне розных праграм у галіне культуры, адукацыі, навукі і г. д. На такую вымушаную меру фонд пайшоў пасля таго, як яго прымусілі выплачваць падаткі, зборы і іншыя абавязковыя плацяжы, не прымаючы пад увагу, што фонд з'яўляецца дабрачыннай арганізацыяй. Нарэшце Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь вырашыў, як кажуць, аднавіць справядлівасць. Сваёй пастановай ад 21 ліпеня ён зацвердзіў льготнае падаткаабкладанне сродкаў, якія атрымліваюць грамадзяне ад Беларускага фонду Сораса.**

**Служба грамадскіх сувязей і інфармацыі фонду распаўсюдзіла заяву аб тым, што выплата грантаў аднаўляецца. Значыць, мільёны долараў, выдзеленых на дабрачынныя мэты, трапяць па прызначэнні.**

## КОЖНАМУ, ХТО ШАНУЕ...

**сваю родную, беларускую мову, карысна будзе пазнаёміцца з кнігай М. Цікоцкага "Стылістыка беларускай мовы". Хоць выдавецтва "Універсітэцкае" і выпусціла яе ў якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў факультэта журналістыкі, яна, думаецца, прыдасца многім. І студэнтам-філолагам універсітэтаў і педагагічных інстытутаў, і настаўнікам сярэдніх школ. І ўвогуле — мала мову любіць, яе неабходна ведаць. М. Цікоцкі разглядае пытанні тэарэтычнага і практычнага характару, што тычацца спецыфікі стыляў і асаблівасці выкарыстання сродкаў лексікі, марфалогіі і сінтаксісу беларускай літаратурнай мовы. Не абыдзены ўвагай і мова, стыль сродкаў масавай інфармацыі. Не лішне нагадаць, што аўтар згаданымі праблемамі цікавіцца даўно, а гэтае выданне дапаможніка — другое, выпраўленае і дапоўненае.**

## БАГДАНОВІЧ ЁСЦЬ БАГДАНОВІЧ

**Класік нашай літаратуры Максім Багдановіч пакінуў пасля сябе не так і шмат твораў, адрасаваных спецыяльна дзеткам. Асаблівае месца сярод іх займае паэма "Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык", напісаная займальна, дасціпна. Нядаўна выдавецтва "Юнацтва" парупілася, каб маленькія маглі пазнаёміцца з гэтым цікавым творам. Паэма выпушчана асобнай кніжкай. А выдадзена яна так, што з паэмай-казкай М. Багдановіча з задавальненнем змогуць пазнаёміцца як тыя, хто добра ведае родную мову, так і хлопчыкі і дзяўчынкі, у якіх з засваеннем яе ўзнікаюць пэўныя цяжкасці: тэкст пададзены не толькі ў арыгінале, а і ў перакладзе на рускую мову, зробленым І. Бурсавым.**

Пошта

# ШАНУЙ, ЯК ІМЯ ЎЛАСНАЕ!

Пацягнула так усклікнуць у сувязі з тым, што нядаўняе святкаванне 600-годдзя Мíра́ і 500-годдзя мірскóга замка паказала, як настойліва замацоўваюцца ў афіцыйным ужытку тапанімічныя "набыткі" каланіяльнага мінулага Беларусі. А гэта шкодна для фарміравання правільнага светапогляду, нацыянальнай свядомасці маладога пакалення беларусаў, бо аддаляе ад гістарычнай першаасновы, ад родных каранёў. А яны ж, нашы карані, таксама і ў назвах нашых гарадоў і вёсак, вуліц і ўрочышчаў, рэчак і азёр. Назвы з'яўляюцца састаўным элементам гістарычнай памяці. А каланізатары ўсіх часоў імкнуліся на захопленых імі тэрыторыях сціраць гэтую памяць у насельніцтва, мадыфікаваць або мяняць мясцовыя назвы. Так, напрыклад, славуты Канстанцінопаль стаў Стамбулам, польскі горад Крулевец у немцаў іменаваўся Кёнігсбергам. Вельмі вялікім скажэнням падвергліся тапонімы Беларусі ў выніку многавекавога панавання тут польскіх і расійскіх асімілятараў. Не захавалася першапачатковай назвы ні адной нашай сталіцы. Навагародак стаў Навагрудкам, Вільню палякі называлі Вільно, а цяпер яна ўжо Вільнюс, а Менск стаў Мінскам. Перамены дасталі нават глухія вёскі. І працэс не спыняецца нават цяпер, нягледзячы на тое, што народ яшчэ захоўвае спрадвечныя назвы. Замест замацавання ў дакументах і сродках інфармацыі нашых сапраўдных назваў у адпаведнасці з мясцовым вымаўленнем сустракаем масавае ўжыванне знявечаных тапонімаў.

Сведчаннем гэтага якраз і з'яўляецца наша Міршчына. А напомніў пра гэта 600-гадовы юбілей. Па радыё і тэлебачанні гучалі скалечаныя назвы. Яны насялілі і прэсу. А выдадзены да юбілею мястэчка на пяці мовах "Мір. Турысцкі план горада" (Мн. 1994) з картаў усёй тэрыторыі былога Мірскага раёна не толькі выстаўляе свету (на пяці ж мовах!) напаказ многа тапанімічных плям каланіяльнасці Беларусі, але і ў пэўным сэнсе сцвярджае іх афіцыйны статус, замацоўвае для гісторыі, бо вядучая мова тут беларуская, што прыдае назвам характар аўтэнтычнасці. А між тым з 88 назваў, якія нанесены на карту "Ваколіцы Міра", аж 18 не адпавядаюць іх мясцоваму, беларускаму вымаўленню. На іх добра бачны ўсе спосабы, якімі нявечацца беларускія тапонімы. Гэта і проста замена спецыфічнага беларускага гука на іншы, у выніку чаго замест нашых *Даўгі́нава, Даўмáтаўшчына, Жаўнéркавічы, Ярэ́мічы* нам прапануюць *Далгінава, Далматаўшчына, Жалнеркавічы, Яромічы*. Гэта і перанос націску з адпаведнай заменай фанетычнага вобліку нашай назвы. На карце маем не *Баўцю́чы*, а *Бóлцічы*, не *Бярóзавец*, а *Беразавéц*, не *Вýша*, а *Ушá*, не *Крышылóўшчына*, а *Крышылáўшчына*, не *Мéдзвядка*, а *Мядзвя́дка*, не *Рап'ёва*, а *Рáп'ява*. Парушаны і словаўтваральны воблік некаторых тапонімаў. З *Вóзярска* зроблена *Азёрскае*, а з *Трашчы́ч* — *Трóшчыцы*. У некаторых назвах заменена нават этымалогія асновы, у выніку чаго маем нейкую *Абры́ну* замест нашай *Вóбрыны*, *Аю́цавічы* замест *Авіцевіч*, *Бы́кавічы* замест *Букóвіч*, *Вялéтава* замест *Валéтава*. Калі для некаторых назваў слаба праглядваецца сутнасць замены, як, напрыклад, *Авіцевічы* (верагодна, ад літоўскага *avitis* — ягня) на *Аюцавічы* (аюц — выклічнік для праганяння парасят), то *бук* з *быком* не зблытае нават непісьменны чалавек, і, зразумела, жыхары вёскі Буковічы не называюць яе *Быкавічамі*.

Такія перакручванні прыносяць не толькі гістарычна-культурную шкоду, але і практычную, бо ўскладняюць камунікатыўную сувязь паміж людзьмі. Прыезджаму чалавеку мясцовы жыхар можа не паказаць дарогі на Абрыну, бо ён не зразумее, пра што пытаюцца. Ці, прачытаўшы "у в. *Буковічы* арганізавалі своеасаблівы шпіталь" ("Спадчына", N 2, 1995), чытач не знойдзе гэтай вёскі на памянёнай турыстычнай карце, бо там — *Быкавічы*.

Што ж датычыць назвы самога мястэчка-юбіляра, то гісторыя злітавалася над ім, не замяніла літару *і* на *у* ці *о*. Але пашэнціла толькі часткова, бо мор тут усё ж прайшоўся: не захавалася ні адной старажытнай назвы вуліцы. У самым *Міры́* і, адпаведна, на плане гарадка вы не знойдзеце вуліц *Міранскай, Віленскай, Высокай, Жухавіцкай, Завальнай, Ігуменскай, Касцельнай, Падольнай, Татарскай.* У савецкі час яны перайменаваны ў 17-е *Сентября, Красноармейскую, Кирова, 1-е Мая, Ленинградскую, Советскую, Пионерскую, Московскую, Танкистов.* Дадаліся яшчэ *Октябрьская, Комсомольская, Звездная, Дружная.*

А сама назва *Мір*, абмежаваная для скажэнняў у зыходнай форме, ва ўскосных склонах і прыметнік ад яе ў эфіры і прэсе ідзе ў форме не адпаведнай мясцоваму вымаўленню, з пераносам націску. Замест прыродных жывых формаў, якімі карыстаецца мясцовае насельніцтва (ля *Мірá*, у *Міры́*, за *Мірóм*, *мірскí* замак, *мірскóга* замка), чуем па радыё, тэлебачанні і чытаем у газетах *Міра, Мірам, мірскага* замка і г. д. Такое "абкультурванне" мясцовых назваў у прынцыпе недапушчальна, бо для многіх тапонімаў яно можа быць смяротным, як, напрыклад, сталася з *Рáдашкавічамі* ці *Алехнавічамі*, як ужыванне саветызму *Стаўбцы́* замест сапраўднай назвы *Стóўбцы*. *Мір* і *Міршчына* толькі наглядны прыклад. Усю Беларусь даўняя і новая гісторыя гэтаксама "апрацавала".

Прычына такога становішча вядомая: асімілятарская палітыка тых, хто гаспадарыў на гэтай зямлі. Мэта — ізаляцыя малодшых пакаленняў ад гістарычнага грунту, манкуртызацыя насельніцтва.

Таму натуральна, што адраджэнскія сілы, як гэта было і ў іншых народаў, ставячы задачу вяртання беларускага народа да яго гістарычных каранёў, павінны клапаціцца і пра ачышчэнне нашай тапанімікі, як і анамастыкі ў цэлым, ад каланіяльнага бруду. На сённяшні дзень першачарговай павінна быць задача, каб тое, што ўцалела, у афіцыйных дакументах зафіксаваць у аўтэнтычнай форме, так, як само насельніцтва на месцах вымаўляе. Для гэтага неабходна, каб функцыянавала Дзяржаўная тапанімічная (ці анамастычная) камісія. А як настануць крыху лепшыя часы ў гаспадарцы рэспублікі, варта будзе ставіць і пытанне аб вяртанні многіх гістарычных назваў, як, скажам, для Міра тых жа старажытных назваў вуліц, бо што ж гэта за гістарычнае мястэчка са старажытным замкам без Міранскай, Віленскай і іншых першапачатковых назваў вуліц.

**І. КРАМКО,**
**старшы навуковы супрацоўнік АН Беларусі**

Меркаванне

*Напярэдадні правядзення выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і рэферэндуму прыхільнікі і працiўнікі беларускай адраджэнскай ідэі апынуліся ў далёка не роўным становішчы. Калі першым з-за нявыхаду газет дэмакратычнага накірунку быў цалкам перакрыты шлях да сэрца і розуму народа, дык другія, наадварот, такою магчымасцю карысталіся на поўную сілу.*

*У гэтай неспрыяльнай сітуацыі многія адраджэнцы падаліся ў рэдакцыі афіцыйных, урадавых газет, адпаведным чынам дастасоўваючы да іх патрабаванняў змест сваіх матэрыялаў, у надзеі хоць збольшага паўплываць на стаўленне людзей да выбараў і рэферэндуму. І аўтар гэтых радкоў звярнуўся ў адну з газет з рукапісам гэтага артыкула і быў прыхільна сустрэты. За пяць дзён да выбараў мне паведамілі, што артыкул у скарочаным выглядзе (з 8-і старонак — 4) падрыхтаваны да друку. Не хацелася пагаджацца, але іншага выйсця не было. Падумаў: усё ж нейкія слушныя парады да выбаршчыкаў захаваліся. Мой артыкул трапіў у паласу апошняга перадвыбарнага нумара газеты, але, як паведамілі з рэдакцыі, не ўтрымаўся на ёй з-за неабходнасці змясціць нейкі важны афіцыйны матэрыял. Супакоілі тым, што надрукуюць напярэдадні выбараў у абласныя, раённыя (гарадскія) Саветы дэпутатаў. Ды — ізноў не атрымалася.*

*Вось і звяртаюся ў шаноўны "ЛіМ". Калі не сённяшнія, дык будучыя пакаленні павінны ведаць, як цяжка было сказаць народу праўду пра выбары і рэферэндум у афіцыйных СМІ. Да таго ж, узнятая ў маім артыкуле праблема і зараз актуальная, бо наперадзе — новыя выбары дэпутатаў. Па маёй просьбе скарочаныя абзацы і радкі рукапісу друкуюцца ў "ЛіМе" адметным шрыфтам.*

**АЎТАР**

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук, прафесар

# МОЙ ПОГЛЯД НА ДЭПУТАТА

Беларусь напярэдадні вялікай падзеі — выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі. **Самыя лепшыя і далёка не лепшыя людзі кінуліся ў вір змагання за заняцце высокага ганаровага месца ў гэтым прэстыжным органе. А якія ж людзі яму патрэбныя? Хто ў ім можа прынесці найбольшую карысць беларускаму народу, які ў зусім нязручны час у чарговы раз стаў на шлях нацыянальнага Адраджэння?**

Цяжкасці сённяшняга дня патрабуюць, каб наш дэпутат спаўна валодаў такой высакароднай чалавечай якасцю, як беларуская нацыянальная самасвядомасць. Прычым зусім неабавязкова, каб носьбітам яе быў толькі беларус. На шчасце, у нашым краі ёсць рускія, якія гатовыя абараняць яго інтарэсы ва ўзаемадачыненнях з Расіяй, палякі — з Польшчай; украінцы — з Украінай, татары — з мусульманскімі краінамі, літоўцы... **Таму ж карэннаму жыхару ці завітаўшаму да нас прадстаўніку іншага народа, якія пазбаўлены пачуцця беларускай нацыянальнай самасвядомасці, жывуць наднацыянальнымі, агульнапланетарнымі ці славянафільскімі інтарэсамііі, у якіх ні грама беларускага, павінны перакрывацца ўсялякія шляхі ў дэпутаты, бо такія людзі не ў стане прынесці хоць якую-небудзь карысць нашай маладой, занадта кволай дзяржаве.**

Нацыянальна свядомыя ў беларускасці людзі вельмі патрэбныя для Вярхоўнага Савета, таму што для іх ва ўсіх жыццёвых сітуацыях агульнанацыянальны інтарэс даражэй за прыватны, асабісты. **Яны ніколі не выкарыстаюць сваіх дэпутацкіх правоў дзеля ўласнай нажывы, не пагодзяцца з тым, каб аплата іх працы была ў некалькі разоў вышэй, чым у самых прэстыжных катэгорый інтэлігенцыі.**

**Людзей з належным узроўнем беларускай нацыянальнай самасвядомасці і раней і цяпер вызначае вялікая адданасць ідэі дзяржаўнага суверэнітэту. Для іх не было і няма большай здрады, большага злачынства, як нават самая нязначная спроба запрадаць суверэнітэт уласнай дзяржавы якой-небудзь краіне.** У цывілізаваным свеце заканадаўчы орган, яго дэпутаты — гэта самыя стойкія абаронцы нацыянальнага суверэнітэту. **І чым больш тая ці іншая краіна з багатымі незалежніцкімі традыцыямі зведвае эканамічных цяжкасцей, тым больш пільна ахоўвае яна свой нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт, ведаючы, што страціўшы яго, ужо ніколі не выйдзеш з заняпаду. Таму той, хто ў такой сітуацыі імкнецца ратавацца толькі з дапамогай суседзяў і нават згодны за дапамогу ахвяраваць часткай, а не дык і цалкам сваёй дзяржаўнай суверэннасцю, той вельмі нікчэмны палітык, небяспечны чалавек, які не мае права насіць высокае званне дэпутата.** Не сакрэт, што ў папярэднім складзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета было нямала палітыкаў, якія глядзелі на дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, як на нейкую непатрэбшчыну, **якія зусім не верылі ў магчымасць нашай краіны самастойна выйсці з эканамічнага крызісу** і таму не толькі нічога не рабілі дзеля яго пераадолення, а, наадварот, чакалі, калі не сказаць садзейнічалі пагаршэнню становішча ў надзеі, што гэта непазбежна прывядзе да змяншэння колькасці прыхільнікаў беларускай незалежніцкай ідэі. Істотна прайграюць наша эканоміка, дзяржаўны суверэнітэт, калі і на гэты раз у дэпутацкі корпус трапіць шмат людзей, якія не вераць у рэальнасць **дзесяцімільённай** Беларусі самой выйсці з тупіка, **у якi завялі яе слаба дасведчаныя ў пытаннях эканамічнага развіцця ці абыякавыя да яе лёсу палітыкі.** Сусветная практыка дае шмат пераканаўчых прыкладаў, калі меншыя па тэрыторыі і колькасці насельніцтва, бяднейшыя на карысныя выкапні за Беларусь, але па-сапраўднаму нацыянальна незалежныя краіны выходзілі яшчэ з больш цяжкага становішча **на шырокі шлях эканамічнага і духоўнага прагрэсу, трымаліся як роўныя з роўнымі ў сваіх узаемадачыненнях з іншымі дзяржавамі, у тым ліку і развітымі ў індустрыяльных адносінах.**

**І раней, і цяпер, і яшчэ больш у будучым на людзях з багатай беларускай нацыянальнай самасвядомасцю трымаліся, трымаюцца і будуць трымацца наша культура і мова, якія адыгралі вырашальную ролю ў фармаванні беларускай народнасці, беларускай нацыі.** Цяпер, як ужо не раз здаралася ў мінулым, гэтыя этнаўтваральныя кампаненты знаходзяцца пад пагрозай поўнай дэфармацыі. Апошнім часам зроблены толькі пэўныя захады па адраджэнні, узбагачэнні фальклорных пластоў беларускай нацыянальнай культуры. Што ж датычыць яе прафесійных слаёў, у іх па-ранейшаму вельмі мала чаго нацыянальна беларускага. **Сёння прафесійная культура Беларусі, за выключэннем мо толькі мастацкай літаратуры — гэта з'ява пераважна руская. Мала дзе знойдзеш такую краіну, як Беларусь, дзе б суадносіны паміж нацыянальным і іншанацыянальным у культуры так выразна складваліся і працягваюць складвацца на карысць апошняга. Хто не разумее небяспекі такой з'явы, той, стаўшы дэпутатам, не будзе рабіць аніякіх практычных захадаў па выратаванні беларускай нацыянальнай культуры.**

Мяне **страшэнна** непакоіць, што абсалютная большасць кандыдатаў, выступленні якіх удалося пачуць па радыё, не карыстаюцца адзінай дзяржаўнай на сёння мовай — беларускай. Калі гэта звязана з якімі-небудзь перадвыбарнымі тактычнымі прыёмамі, дык такое можна даравадь. Калі ж гэта выклікана няведаннем беларускай мовы, нежаданнем забеспячэння ёй рэальнага статуса адзінай дзяржаўнай, дык тут ёсць важкая падстава для глыбокага роздуму. Мы ж можам ізноў навыбіраць у Вярхоўны Савет зусім "непісьменных" у беларускай мове людзей, якія замест абароны, прыняцця канкрэтных захадаў па пашырэнні сацыяльных функцый роднага слова беларусаў будуць варагаваць з ім. Няцяжка спрагназаваць, у якім напрамку будзе весціся гэтае змаганне: калі дэпутаты папярэдняга склікання пад самую заслону сваёй дзейнасці выказаліся за дзяржаўнае беларуска-рускае двухмоўе, дык іх наступнікі абавязкова пойдуць далей і зробяць усё, каб узаконіць у якасці дзяржаўнай толькі адну рускую мову. Спаслаўшыся на тое, што выкарыстанне ў даных мэтах дзвюх моў у рангу дзяржаўных запатрабуе ад грамадска-палітычных дзеячаў, кірнікоў вытворчасці, спецыялістаў вялікіх высілкаў дзеля адпаведнай моўнай падрыхтоўкі, звязана з дадатковымі матэрыяльнымі і фінансавымі выдаткамі на вядзенне двухмоўнага службовага справаводства. **Прыняцце Вярхоўным Саветам рашэння аб наданні рускай мове статуса адзінай дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі з'явіцца зусім дробязнай справай, калі ў ім будуць пераважаць рускамоўныя дэпутаты.**

Затое зусім не дробязнай справай гэта будзе для сапраўдных змагароў за нацыянальнае Адраджэнне, **для стойкіх носьбітаў беларускай мовы. Не сакрэт, што зараз іх намнога менш, чым гэта патрэбна для нармальнага функцыянавання ў грамадскім жыцці краіны. Але ўсё ж будучае за людзьмі, якія не прызнаюць дзяржаўнага беларуска-рускага двухмоўя, а яшчэ больш — поўнага выключэння беларускай мовы з ужытку ў афіцыйных сферах, як гэта рабілася на працягу 45 пасляваенных гадоў. Змаганне за беларускую мову могуць толькі прыпыніць, але не цалкам спыніць жорсткія, крывавыя рэпрэсіі, аналагічныя тым, што чынілі ў 30-я гады сталінска-ягодаўскія-яжоўскія-берыеўскія апрычнікі. Але такое не можа паўтарыцца і галоўным чынам таму, што цяпер ужо не тое ў нас грамадства, хаця хтосьці і сціскае кулакі, калі чуе беларускае слова.**

Сучасная беларуская нацыя — гэта нацыя даволі разумных, удумлівых, інтэлектуальных людзей. Мы стаім напярэдадні таго часу, калі вось-вось у ёй набярэцца тая крытычная маса адраджэнцаў, за якімі абавязкова пойдуць не дзесяткі тысяч, а мільёны людзей. **Цяпер ужо нельга, як да вайны ці ў першыя пасля яе гады правесці беларусаў на мякіне.** Радуе і абнадзейвае, што сёння многія беларусы глыбока задумваюцца над пытаннямі, чаму ў Расіі, Польшчы, Літве, Латвіі і на Украіне дзяржаўная мова адна, а ў нас павінны быць дзве, чаму ў іх ва ўсіх тыпах навучальных устаноў пануе родная мова карэннага насельніцтва, а ў нас мова суседняй краіны — руская, чаму ў іх дзяржава найперш клапоцца аб развіцці ўласнай нацыянальнай культуры, а ў нас яна знаходзіцца на заднім плане, з'яўляецца прычапным вагонам да рускай. **З ганебным беларускім феноменам: выступаць у ролі белай вароны ў цывілізаваным свеце ўжо не пагаджаюцца сотні тысяч беларусаў. А заўтра іх, несумненна, будуць мільёны. І вельмі недарэчна, калі такой заканамернай тэндэнцыі ў развіцці, сталенні беларускай нацыі не разумеюць змагары за дэпутацкае крэсла ў Вярхоўным Савеце.**

Сёння беларуская мова — люстэрка дачыненняў кожнага жыхара нашага краю да яго лёсу. Не ведаць, не любіць, не карыстацца ёю кандыдатам у дэпутаты — гэта абраза для дзесяткаў пакаленняў беларусаў, **што праз велізарныя пакуты і здзекі данеслі да нашых дзён мілагучнае матчынае слова. Я проста не сустракаў людзей, якія, добра валодаючы ім, былі б дрэнна падрыхтаванымі спецыялістамі ў сферы сваёй прафесійнай дзейнасці ці абыякавымі, варожымі да нацыянальнага суверэнітэту Беларусі. У гэтым мяне моцна пераканалі і слушныя выступленні беларускамоўных дэпутатаў папярэдняга складу Вярхоўнага Савета.**

Цяжкасці сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння абумоўліваюць неабходнасць абрання ў вышэйшы заканадаўчы орган асоб беларускай нацыянальнасці, ураджэнцаў нашага краю з абавязковай беларускай нацыянальнай самасвядомасцю. Бо толькі яны ў стане вырашыць гэтую велізарнай гістарычнай важнасці задачу. **Выбаршчыкі не памыляцца і тады, калі выкажуць свой давер такім кандыдатам у дэпутаты, з ліку рускіх, як рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Леанід Ціханаў, навуковец Алег Трусаў, дый наогул прадстаўнікам іншых нацыянальнасцей нашай краіны, якія з вялікім разуменнем ставяцца да беларускай Адраджэнскай ідэі, не цураюцца роднага слова карэннага насельніцтва. Такім людзям у нас не раз давалі магчымасць вырашаць лёс беларускага народа. Нашто ўжо бальшавікі моцна прытрымліваліся класавага прынцыпу пры ўкамплектаванні наменклатурных пасад, але і тыя павінны былі адысці ад яго пад напорам беларусізацыі. Сам першы сакратар ЦК КП(б)Б Вільгельм Кнорын нічога не бачыў заганнага ў тым, што, шукаючы чалавека на кіруючую пасаду, "які ведаў бы мову (маецца на ўвазе беларуская. — Л. Л.), прыходзіцца выпушчаць з-пад увагі яго сацыяльнае становішча" (Кнорын В. За культурную рэвалюцыю. Мн., 1928, С. 76). Дык чаму ж сёння мы не павінны аддаваць перавагу тым кандыдатам у дэпутаты, якія добра ведаюць беларускую мову? Яе ж стан у дзесяткі разоў горшы, чым у часы В. Кнорына.**

За такое падкрэсліванне ролі беларускасці для будучых дэпутатаў мне могуць запярэчыць спасылкамі адваротнага парадку з практыкі многіх дэмакратычных, цывілізаваных краін, дзе і сапраўды часам у вярхоўны заканадаўчы орган абіралі шмат прадстаўнікоў некарэннай нацыянальнасці, і яны вельмі плённа папрацавалі дзеля росквіту сваёй другой радзімы. Згодзен, такія факты мелі месца ў сусветнай практыцы. Але ж то былі краіны не толькі дэмакратычныя і цывілізаваныя. Яны вызначаліся яшчэ і высокім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці асноўнага этнасу, адсутнасцю ўсялякіх пагроз для існавання і развіцця яго роднай культуры і мовы. Вось калі б і ў нас існавала такая спрыяльная, спакойная сітуацыя, можна было б і не ўздымаць пытання аб неабходнасці насычэння складу дэпутатаў Вярхоўнага Савета сапраўднымі абаронцамі беларускага ідэалу. **Цалкам падзяляю выказаную народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам думку ў адным са сваіх інтэрв'ю, што "ўсе дзяржаўныя мужы, кіраўнікі дзяржавы, і самыя высокія, і ўсіх іншых узроўняў і рангаў, павінны быць нацыянальна свядомымі людзьмі". Гэтай высакароднай якасцю яшчэ ў большай ступені павінны быць надзелены дэпутаты Вярхоўнага Савета, заслугі якіх будуць ацэнены нашчадкамі толькі па тым, што імі ка[illegible]нага зроблена для ажыццяўлення не якойсьці аморфнай агульначалавечай, агульнаславянскай, а звычайнай, прыземленай беларускай ідэі.**

Як і ў кожнага выбаршчыка, у мяне, вядома, ёсць і іншыя меркаванні адносна таго, каго трэба пасылаць у парламент нашай краіны. З найбольшай асцярогай,

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЛЕЎ САПЕГА — ШЫЛЕРАЎСКІ ГЕРОЙ

**Менавіта гэтае сцвярджэнне Л. Баршчэўскага найперш прыцягвае ўвагу ў трэцім нумары часопіса "Спадчына". Аказваецца, "калі 9 траўня 1805 года вялікі нямецкі паэт, драматург і мысляр Фрыдрых Шылер назаўсёды стуліў вочы, на ягоным стале засталіся ляжаць фрагменты з новай, няскончанай гістарычнай драмы, што мелася стаць працягам цыкла гістарычных драм, распачатага ў 1782 годзе..." Гэта драма "Дзмітрый". Былі напісаны толькі першая дзея ды некалькі сцэн другой... Акурат у першай дзеі і з'яўляецца Сапега — выдатны беларускі нацыянальны дзеяч. Урыўкі з гэтай няскончанай драмы ў перакладзе Л. Баршчэўскага і прапануе ўвазе чытача "Спадчына". Дарэчы, Л. Баршчэўскі пры гэтым выказвае, думаецца, слушную думку: "Мяркую, што няскончаная драма вялікага нямецкага пісьменніка магла б увайсці ў праграмы вывучэння літаратуры ў сярэдніх школах і ВНУ — так, як гэта ўжо зроблена ў Беларускім гуманітарным ліцэі".**

**Сярод іншых матэрыялаў — "Яшчэ да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвінаў" П. Урбана, "Пра Аляксандра Уласава" В. Ніжанкоўскай, "Беларуская прыватная геральдыка" А. Цітова, "Адроджаны касцёл" А. Глябовіча, "Функцыі хору: вопыт практычнага асэнсавання ў беларускім тэатры" В. Ракіцкага, "Успаміны" Я. Кіпеля, "Станіслаў Булак-Балаховіч" А. Чобата, "Судовы працэс Антонія Тызенгаўза" С. Паўловіч і іншыя.**

## ДРУГІ ЗБОРНІК НЯСВІЖСКІХ АЎТАРАЎ

**Год назад у Нясвіжскай узбуйненай друкарні пабачыў свет літаратурны альманах "Пяром і сэрцам з Нясвіжам", падрыхтаваны аддзелам культуры райвыканкама і раённай арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. А сёлета аматары мастацкага слова атрымалі магчымасць набыць новы зборнік "Нясвіжскія вытокі", у якім змешчаны паэтычныя творы дзевяці мясцовых аўтараў.**

**Уступны артыкул да выдання напісаў лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Мікола Маляўка, які, дарэчы, некаторы час працаваў на Нясвіжчыне. З цікавасцю чытаюцца вершы Міхася Сазончыка, Міхася Валасевіча, Івана Пракарыны, Міхася Валько, Віталя Барадзіна. Хочацца верыць, што ўсе яны знойдуць свайго чытача.**

**Шкада, што ў зборніку няма вершаў Наталлі Валочнік, Галіны Макаўчык, Аксаны Шкрэд, Людмілы Гасцілы і іншых аўтараў папярэдняга зборніка. Няўжо яны па ўласнай ініцыятыве сышлі з паэтычнай дыстанцыі?**

**Уладзімір КОБРЫН**

## РАЗДЗЕЛАМ "ФІЛАЛОГІЯ"

**адкрываецца шосты нумар часопіса "Роднае слова". У артыкуле "Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы..." В. Максімовіч разглядае верш П. Броўкі "Пахне чабор". Да творчасці В. Зуёнка звяртаецца У. Гніламёдаў — "І ўсіх працягаў я — пачатак". У цэнтры ўвагі В. Шымановіч аповесць-казка З. Бядулі "Сярэбраная табакерка" — "Мы з табою вечна жыць будзем..." Як у беларускай паэзіі адлюстравана тэма лета, разважае ў артыкуле "Гарыць зямля ад фарбаў летніх..." А.Бельскі. Змешчана заканчэнне артыкула Г.Няфагінай "Каб людзьмі звацца...", артыкулы В. Маісеенкі "Дзе сіла не зможа — трава дапаможа. Міфалагічная аснова некаторых батанічных назваў", Ж. Селюжыцкай "Як буду жаніцца, то паслы прышлю да цябе... З назіранняў над вясельнай тэрміналогіяй".**

**Васіль Быкаў у творчасці беларускіх мастакоў — тэма артыкула Л. Царовай "У трывозе чалавецтва". Гэты матэрыял, а таксама публікацыі Н.Бунцэвіч "Плыла радзіма над вачыма..." (пра песню "Еўфрасіння" Л.Дранько-Майсюка і А.Балотніка), Т.Шамякінай "Міфалагічныя формы шлюбу", А. Хатэнкі "Русалкі, уладарніцы расы... Духоўны сэнс вясновалетніх звычаяў і абрадаў", Т. Габрусь "Залатое колца сталіцы" аб'яднаны ў раздзеле "Культура Беларусі".**

**У раздзеле "На ростанях" Л. Давідоўская расказвае пра выстаўку "Янка Купала — Прарок Адраджэння", М. Пратасевіч — пра песні паводле твораў П. Броўкі, В. Міцкевіч знаёміць з маці Якуба Коласа.**

***Не так і багата ў нас пісьменнікаў, якія паспяхова спалучаюць у сабе не адзін, а некалькі літаратурных талентаў. Вядомасць і аўтарытэт у пісьменніцкіх колах Уладзіміра Паўлава шмат у чым базуецца якраз на гэтай характэрнай асаблівасці. Ён — знаны паэт, арыгінальны празаік, цікавы перакладчык. Да таго ж з'яўляецца сакратаром Саюза пісьменнікаў, а гэта пасада, як вядома, вымагае і іншых талентаў...***

***Гэтая размова адбылася пэўны час таму; тычылася яна не толькі аспектаў уласна літаратурнай творчасці, але і праблем духоўна-мастацкага жыцця, грамадскага развіцця Беларусі.***

**М. М.**

# "ГАСПАДАРЫЦЬ У СВАЁЙ ХАЦЕ"

## ГУТАРКА З УЛАДЗІМІРАМ ПАЎЛАВЫМ

**— Уладзімір Андрэевіч, калі ласка, колькі слоў пра свой прыход у літаратуру. Я ведаю, ён досыць тыповы для прадстаўнікоў вашага пакалення, тым не менш, шматлікім чытачам, прыхільнікам вашага таленту цікава і карысна будзе ведаць, як вы сталіся пісьменнікам, якія фактары паспрыялі вашаму творчаму станаўленню.**

— Так прынята, што творцы, вялікія ці малыя, на сябе не спасылаюцца. Не буду і я, хоць вымушаны паўтарыць тое, пра што пісаў у аўтабіяграфіі "Бяру свой род". Я — дзіця ваеннага часу. Пасталенне і разуменне свету ў тыя гады ішло вельмі шпарка. Тым, хто ваяваў, залічваўся год за тры. Калі прымяняць такі каэфіцыент да нас, дзяцей, то я не ведаю, колькі гадоў трэба было б даваць. Ды і ніхто не скажа. Мы не маглі (па ўзросце) абараніць самі сябе, але кожны раз маглі быць спалены, кінуты з плоскага нямецкага штыка праз акно ў палаючую хату, падарвацца на міне, памерці ад тыфу, згінуць у блакадзе, задыхнуцца ў абваленай зямлянцы... Нашымі цацкамі былі дэталі са збітага нямецкага самалёта, баявыя патроны, "макароніны" артылерыйскага пораху, процівагазы, магніевыя шарыкі і шмат чаго іншага з ваеннага рыштунку. Самай распаўсюджанай гульнёй — гульня ў вайну. Мне расказваў Уладзімір Содаль, што ў іх у Мормалі, дзе фронт стаяў дзевяць месяцаў і ішлі так званыя баі мясцовага значэння, было столькі набіта танкаў — нашых і нямецкіх, што, як адкацілася вайна далей на захад і яшчэ не пасцягвалі металалом, у гульнях у вайну кожны хлапчук меў свой танк.

Услед за дарослымі мы адчувалі страх небяспекі, і, я сказаў бы, адчуванне наша было вастрэйшае. Зноў жа таму, што самі не маглі абараніцца. Абаронай былі добрая схованка, маскіроўка, здольнасць абхітрыць ворага. Бацька мой, Андрэй Максімавіч, маладым чалавекам раскулачваў, быў камуністам, старшынёй калгаса "Ударнік" у Замошшы. Асуджаны на два гады, капаў Волгаканал у Рыбінску, потым працаваў старшынёй Дарасінскага сельсавета. Першыя год-два вайны хаваліся мы па чужых зямлянках, не начавалі дома. Мы — гэта мама, у недалёкім мінулым круглая сірата, і яе дзеці: тры сястры і я. Большай восем гадоў, меншай паўтара... Але я захапіўся пераказам таго, пра што напісаў у аповесці "Яжэліха". Пытанне было трохі інакшым.

Дык вось, нас, дзяцей вайны, здаецца, нічым здзівіць было нельга. Кожную раніцу мы чулі пра навіны: там спалена вёска, у Слуцку на базары была аблава і некага з замошцаў схапілі, на Урэччы расстралялі нашых Ігната і Данілу за тое, што іх аднафамілец і наш жа замошац Іван, выпіўшы графін самагонкі з былым аднакурснікам, а цяпер начальнікам урэцкай паліцыі, па заданні партызан стукнуў яго між вачэй малатком; недзе пад Загаллем у блакаду маці задушыла сваё дзіця, каб не плакала і плачам не выдала людзей; начальнік Старобінскай паліцыі Логвін які не забіўшы чалавека не мог сесці есці, разадраны партызанамі на дзвюх сагнутых і адпушчаных бярэзінах; партызаны ў Застарынні расстралялі на могілках маці і дачку, спачатку паздзекаваўшыся з іх... Здзіўляла — і, відаць, не толькі мяне, — што на зямлі, акрамя вайны, было іншае жыццё...

У 44-45 навучальным годзе, як і мае равеснікі-парасткі, я скончыў першыя два класы. І вось былы партызан Іван Трахімавіч Новік чытае нам пасля ўрокаў кнігу Даніэля Дэфо "Рабінзон Круза". Што там тыя танкі або макарончаты ці пласцінчаты артылерыйскі порах, падпеканка з кулі ці высечаны з нямецкай каскі ножык!? Во дзе жыццё, прыгоды, найцікавейшы свет! Слухаеш з разяўленым ротам, чутно, як у класе ляціць муха, і шкада, вельмі шкада, што працяг пачуеш толькі заўтра. Бо кніга адна, як і адзін буквар на клас, і сшытак, зроблены з газеты, і торбачка, пашытая з палатна. І над усім неадольнае: вось бы вырасці і самому напісаць падобную кнігу! З таго часу і жыве такое жаданне, і я ніколі яму не здраджваў. Яно, гэтае жаданне, мабыць, ад вялікага кантрасту паміж смерцю і казачным светам, паміж рэальнасцю і нечым загадкавым, амаль міфічным. Ёсць, ёсць свет і не такі, у якім мы жывём! Пагледзець бы на яго, дакрануцца, самому расказаць пра яго іншым!..

**— Мяне даўно не адпускае наступнае пытанне. Згадзіцеся, Уладзімір Андрэевіч, наша мясцовасць — сучасныя Любаншчына, Глушчына — як гэта ні крыўдна, не такая й багатая на літаратурныя таленты. Ва ўсякім выпадку — у параўнанні з некаторымі іншымі рэгіёнамі, якія далі нацыянальнай літаратуры шэраг выдатных імёнаў, — той жа Ушаччынай, Уздзеншчынай. Як вы думаеце, з чым гэта звязана? Тут ёсць нейкая заканамернасць?**

— Да згаданых Ушаччыны і Уздзеншчыны дадаў бы даваенную Случчыну, цяперашнюю Давыдгарадоччыну. Або вазьміце няДаўнюю Ганцавіччыну. Бог паслаў туды пасля вайны віцябчаніна Васіля Праскурава. Васіль Праскураў, дэмабілізаваны воін, стаў рэдактарам раённай газеты, пры якой працавала літаб'яднанне. Услед за Праскуравым сталі членамі Саюза пісьменнікаў Віктар Гардзей, Міхась Дубянецкі, Уладзімір Марук, Алесь Каско, Іван Кірэйчык. Або вазьміце Стаўбцоўскі раён. Адтуль Генрых Далідовіч, Алесь Рыбак, Аляксей Пяткевіч, Казімір Камейша, Яўген Хвалей, Іван Рубін, Уладзімір Мархель, з самой Коласавай Мікалаеўшчыны — Мікола Маляўка, Алесь Камароўскі, Ніна Загарэўская. Так што, думаю, заканамернасць ёсць. Гэта як у вялікай сям'і, калі большыя дзеці памагаюць гадаваць меншых.

Маё Замошша на памежжы стэпавай Случчыны і першых пералескаў Любаншчыны, яшчэ, можна сказаць, у нашай мясцовасці не дужа палескай. Мы таксама можам сяго-таго назваць, і не з апошніх. Напрыклад, Фёдара Янкоўскага, Аркадзя Марціновіча, Сяргея Грахоўскага, Івана Муравейку, Ніну Маеўскую. І ўсё ж, і ўсё ж трэба з вамі згадзіцца. Любанскі раён больш вядомы Героямі Савецкага Саюза — даваенным (за вайну з Фінляндыяй) Паўлам Алейнікавым і героем Айчыннай Захарам Лышчэнем, а таксама Міхаілам Рагоўскім, поўным кавалерам ордэна Славы. Акрамя таго, Любаншчына вядома добрым дзесяткам Герояў Сацыялістычнай Працы, найбольш — нашымі бацькамі, у якіх ад працы паскручваны пальцы, хоць яны не маюць ніякіх узнагарод. Нямала вайскоўцаў высокіх званняў, вучоных, мастакоў, дактароў і іншых знакамітых людзей. Мае равеснікі таксама імкнуліся ў свет, у людзі, цягнуліся да працы і ведаў, каб, мажліва, сцвердзіць сябе менавіта там. Мой бацька, напрыклад, гаварыў мне: "Ідзі працаваць плугавіком, бо з твае пісаніны я хлеба есці не буду". Ці не так думалі і астатнія?

Акрамя таго, "літаратурныя" рэгіёны там, дзе гаспадарыць у сваёй хаце свая гаспадыня — беларуская мова. У тым і галоўная заканамернасць, не здымаючы з

# ПАЯДНАЦЬ ДЗВЕ СТЫХІІ

Спасціжэнне прыгажосці адбываецца праз пачуццё і думку, але толькі паэт здатны паяднаць гэтыя дзве стыхіі, увасобіць у словах і паэтычных вобразах. Кніга вершаў Ніны Гарагляд "Матчына песня", выдадзеная сёлета Брэсцкім упраўленнем інфармацыі, атрымалася светлая, часам па-юнацку задзірыстая.

Ніну Гарагляд я помню яшчэ студэнткай педінстытута, калі яе ўважліва апекаваў Уладзімір Андрэевіч Калеснік. Згадваю перадачы з яе ўдзелам на радыё і тэлебачанні. У 1979 годзе нізка вершаў паэткі была змешчана ў калектыўным зборніку "Нашчадкі". А потым, пакуль землякі-паэты выдавалі зборнік за зборнікам, Ніна Гарагляд маўчала, толькі зрэдку вершы з'яўляліся ў друку. Аднак першая самастойная кніжка "Матчына песня" паказала, што творчасць не спынялася. Паралельна з журналісцкаю працаю ў газеце "Навіны Камянеччыны" паэтка вяла вершаваны жыццяпіс, дзе яскрава бачны праблемы і трывогі сучасных беларусаў з іхнім памкненнем сцвердзіць сябе ў свеце і часе.

**Заспявала на вяселлі песню маці.**
**Нейкі хлюст мне крыкнуў:**
**— Может, хватит?**
**Пацягнула за рукаў суседка:**
**— Хопіць...**
**Песню маёй вёскі хто падхопіць?**

Мне даводзілася чуць, як хораша спявае Ніна Гарагляд, які па-вясковаму магутны, адкрыты і чысты яе голас. Такія галасы, бадай, толькі на Палессі, дзе вядуць песню з падгукваннем, каб рэха далёка разносіла галасы над лясною ды балотнаю прасторою.

Паэтка жыве ў райцэнтры вельмі блізка да нягодаў сяла, таму шчымлівым смуткам і любоўю напоўнены яе вершы, прысвечаныя вяскоўцам: "Раніца", "Неперспектыўная вёска", "Сустрэча з домам", "Хутарок" і іншыя. Ніну Гарагляд вельмі турбуе тое, што моладзь страчвае даўнейшыя традыцыі і лепшыя духоўныя якасці, уласцівыя беларусам, а гэта азначае страту нацыянальнай адметнасці, душы, светапогляду. А калі адвечная сялянская праца робіцца абыякава, дык і вынікі яе не могуць радаваць.

**Песень ужо не чуваць ля ракі.**
**Змеркне — хаты ўсе на замкі.**
**Калі усхліпне ў вёсцы баян,**
**Кажуць, п'яны іграе Іван...**

Праўдзіва і прачула гучаць радкі пра дзетдомаўскае маленства аўтаркі:

**Строем ішлі у кіно інтэрнатаўцы.**
**Кпіла з нас дзятва: "Інкубатарцы!"**
**Сапраўды, паліто і абутак —**
**Усё аднолькавае. Нават смутак,**
**Што рэжа нажом нас іржавым.**
**Дзеці мы не сям'і, а дзяржавы.**

З перажытага ў маленстве вынікае душэўны боль за немаўлят, ад якіх адмаўляюцца маладыя жанчыны. Верш "Падкідыш" — гэта не заклік да маральнасці, а ціхі плач Берагіні над

рахунку папярэднія нашы заўвагі.

**— Мастацка-творчы акт, святая святых... Несумненна, у кожнага ці амаль кожнага з пісьменнікаў ён мае сваю спецыфіку. Як вы пішаце свае творы? З чаго ўсё пачынаецца, якія этапы праходзіць і г. д.?**

— У маладзейшыя гады пісаў пераважна тады, калі прыходзіла натхненне. Асабліва вершы. Не мог сесці вось так сабе, нібы запраграмаваны, напісаць верш пра тое і тое. Калі душа спявала, калі некаму была неабходнасць адкрыць душу. Яно і цяпер гэтак. Але ўжо з-за таго, што ёсць неабходнасць адкрыць душу, калі яна не можа маўчаць не ад радасці, а ад болю. За тую ж мову, за несправядлівасць, патаптаны край, амаль памёрлую вёску, з-за непавагі да старога чалавека, з-за недалёкага мяшчанскага выслоўя: "каб нас перамаглі немцы, то мы жылі б цяпер, як у Германіі". У свой час глядзеў у кінатэатры "Октябрь" (можа, калі стане іншай назва?) кінафільм Тэнгіза Абуладзе "Пакаянне". Выдатны фільм, публіцыстычны, вобразны, балючы. Вось гаворыць чырвоны "прарок", і тут прабівае водаправод і фантаны вады ўздымаюцца ўгару. Вось на доўгай-доўгай платформе сабраны людзі — старыя і малыя, жанчыны і мужчыны. Ці не сваны гэта, якіх Сталін намерыўся вынішчыць? Вось у храм заязджае бонза на кані. Вось тартак манатонна і доўга пілуе бярвенне. Яно прыйшло з далёкай тайгі. На зрэзе бярвення імёны, імёны, імёны... Іх трушчыць піларама, толькі сыплецца безупынна пілавінне. Ляціць, быццам патрушчаныя косці. І то там, то сям у асветленай мільганнем экрана зале падымаюцца са сваіх месцаў маладыя людзі і выходзяць. Хто раней, хто пазней — хто колькі выседзеў. Няўжо вы не разумееце, няўжо вам не баліць? Паглядзіце і зразумейце: у такіх умовах мы жылі, гэта пра нас, вашых бацькоў, дзядоў. А наперадзе была яшчэ ж вайна і амаль дзесяць гадоў зноў такога ж пасля вайны. Глухія... Тут і наш пралік, чаму не навучылі? Баяліся паўтарэння і стараліся агарадзіць сваіх дзяцей: мы нагараваліся, — няхай яны пажывуць. І зрабілі горай, і сабе і ім.

Дык вось, цяпер саджуся пісаць, каб сказаць майму чытачу — калі ён ёсць? — пра гэты боль. А нараджаецца верш неабавязкова з першай страфы, нават радка. Хутчэй наадварот, з канца, ад той думкі, якую хочаш давесці. Так, прынамсі, у мяне. З прозай больш складана. Трэба ўсё прадумаць *і тады толькі брацца за пяро.* А там іншы раз (гэта падкрэсліваў і Мележ) ужо герой вядзе пісьменніка і часта невядома, куды выведзе.

**— На вашу думку: якія якасці павінны заключаць у сабе творчасць буйнога пісьменніка? З якімі прынцыпамі і крытэрыямі трэба падыходзіць да яе асэнсавання?**

— Буйны пісьменнік ад нас астатніх вылучаецца, па-першае, буйным талентам. Каму больш дадзена, з таго больш і спытаецца. Яму — дарэчы, як і кожнаму самастойнаму пісьменніку — нельга некаму прыслужваць, іначай вялікі талент загіне, не *падазраючы, што такім нарадзіўся.* Боль народны павінен стаць ягоным болем. Прыкладам тут служыць творчасць і грамадзянская неабыякавасць Васіля Быкава. Калі іначай, то вялікі пісьменнік не адбудзецца, колькі б кніг ён ні напісаў. У іх не будзе праўды. Трэба мець талент распарадзіцца талентам. І яшчэ. Кожны пісьменнік павінен хоць на крок ісці наперадзе часу. Геній жа, кажуць, павінен быць прарокам.

**— У якім напрамку ці напрамках, на ваш погляд, пойдзе развіццё беларускай паэзіі ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі?**

— У кожнай справе, асабліва ў творчасці, прагназаваць складана. У творчасці, мабыць, наогул немагчыма. І ўсё ж бачыцца мне развіццё беларускай паэзіі ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі (прынамсі, адно-два) пад знакам узмоцненай беларускасці. Чаму? Ды таму, што будзе выплёсквацца, нібы вада, якую доўга стрымлівала плаціна, наша набалелае, абражанае і зняважанае, занядбанае і стаптанае нацыянальнае пачуццё. Працягваючы руку на сяброўства ўсім, хто без зброі і прыхаванай пятлі, мы будзем адраджаць сваё, каб паказаць перад светам, хто мы і чаго варты, якая наша зямля, якія цудоўныя людзі нашы. Гэта нельга гаварыць абыякава, праз зубы, а на ўвесь голас, узнёсла і без фальшу. Спадзяюся, што і сказаць будзе каму, хоць і сёння ў нас шмат цудоўных паэтаў.

**— Уладзімір Андрэевіч, як вы ставіцеся да тых працэсаў, якія адбываюцца зараз у нашым грамадстве?**

— У асноўным, балюча. Нельга шкадаваць таго, што будавалася на крыві і касцях, падмане, непавазе да думкі і жыцця чалавека. Хіба ж мог "звышчалавек", якім лічыў сябе партыйны бонза, шанаваць пазіцыю іншага? Не, бо бачыў у гэтым канец свайго панавання.

Камуністычная партыя мела ў аснове сваёй хрысціянскія пастулаты. На паперы — у праграме і статуце. А на справе хлусіла ад нізу да верху. А на хлусні нічога не трымаецца...

Балюча, што цяпер, як і раней, шмат вакол злодзеяў, якія гавораць адно, а робяць другое. Балюча, што як не ўмелі толкам дамагацца свайго, так і не ўмеем. Баліць за прысвоеную працу людзей. Маю на ўвазе абмен грошай, увядзенне купюр новага ўзору былым урадам былога СССР. Баліць за тых "тутэйшых", што на паўсагнутых каленях паўзуць падставіць не толькі сваю шыю, а шыю цэлага народа, цэлай краіны пад чужое ярмо. Баліць, што, умеючы рабіць, не робім, а спекулюем, перапрадаём чужое. Баліць за неабароненасць літаратараў і наогул за культуру, якая, як і раней, фінансуецца ў апошнюю чаргу. Баліць, што грамадства бяссільна супраць бандытаў, а яны ёсць нават у дзяржаўных структурах. Адным словам, баліць за Беларусь, за абыякавасць беларуса, які дасюль не пачуваецца гаспадаром у сваёй хаце. Пабудзі сярэдначы літоўца, эстонца, грузіна, француза, немца — каго хочаш, і спытай, хто ён, і кожны назаве сябе тым, хто ён ёсць. Ці скажаш так пра беларуса?!

**— З якімі праблемамі сутыкнуліся вы на пасадзе сакратара Саюза пісьменнікаў?**

— Праца з людзьмі няпростая заўсёды, а з людзьмі творчымі тым больш. Праблем, вялікіх і малых, хапала і раней, а цяпер іх увогуле не пералічыць. А каб быць кароткім у адказе, нагадаю: нашым папярэднікам (па прынцыпе — калі густа, калі пуста) даводзілася дзяліць тое, што выдзялялася дзяржавай. Цяпер спачатку трэба зарабіць, каб нешта падзяліць.

**— Што б вы маглі сказаць пра нашу маладую літаратуру?**

— Больш менш роўная, у цікавых пошуках сучасных форм, асваенні гарадской тэматыкі, у непрымальнасці фальшу. Хацеў бы засцерагчы некаторых маладых творцаў ад паспешнай пераацэнкі зробленага ў літаратуры пісьменнікамі ранейшых пакаленняў. Бо гэта прывядзе да формулы "Я і Купала". У тупік, да самавыраджэння. Мы гэта праходзілі...

**Гутарку вёў Мікола МІКУЛІЧ**

# НАЎСЛЕД І НАПЯРЭЙМЫ СОНЦУ

***Уранку я выйшаў з дому***
***і ўвесь дзень ішоў***
***у кірунку да сонца.***
***Якім супярэчлівым аказаўся***
***мой шлях!..***

***А. РАЗАНАЎ***

Цень сонца? — недверліва пацісне плячамі чытач. Маўляў, не нова гэта — назвыаксюмараны накшталт гарачага снегу, чужой бацькаўшчыны ці свята пчалы. Звычайнае паэтычнае красамоўства, чарговая выдумка мастака-летуценніка. Паводле вядомай мадэлі гэткія арыгінальныя словазлучэнні можна ўтвараць бясконца, усё *залежыць ад фантазіі* аўтара: халодны агонь, квадратнае кола, храм без бога і г. д.

У выпадку з сонечным ценем, здаецца, не ўсё так проста. Паводле тэорыі Аўраама Мікаэля Айванхава "святло — дух жывы", звыклае для нас сонечнае святло не ёсць тое святло, пра якое гаворыцца ў Евангеллі. На пэўнай адлегласці ад бачнага сонца знаходзіцца сонца нябачнае, якое й пасылае сваю энергію нашаму сонцу як бы на перапрацоўку. Апошняе з нябачнай энергіі ўтварае знаёмае нам усім святло й выпраменьвае яго на зямлю. У балгарскай мове ёсць нават два азначэнні святла (духоўнае, нябачнае — виделина, і фізічнае, бачнае — светлина). Выходзіць, наша роднае сонца, адным бокам убіраючы, назапашваючы святло, другім адкідвае ў прастору самы звычайны цень, які на грубым, матэрыяльным узроўні перакрываецца святлом іншага гатунку.

Магчыма, Алесь Бадак не пагодзіцца з гэткім адвольным тлумачэннем назвы ягонай паэтычнай кнігі. Але шматзначнасць, асацыятыўнасць у паэзіі — ці так гэта дрэнна? Слова павінна працаваць напоўніцу. Тым болей слова-напачатку, слова-загаловак, слова-прыдзвернік.

Вершы Алеся Бадака прагаворваюцца напаўголасу, іх можна чытаць без рызыкіператаміць галасавыя звязкі. Аматары барабаннабарацьбітных хваласпеваў мусяць лакатарна настаўляць свае аглушаныя вушы, каб вычуць паэзію паўтонаў. Вочы, прыцьмелыя ад штодзённых ура-святочных салютаў, разгублена перадаверацца рукам, хоць рызыкоўная справа — шукаць паэзію навобмацак. Пальцы, нават самыя чуйныя, запатрабуюць выпуклых аб'ёмаў. І тут вершам А. Бадака можа сапраўды не хапіць рэльефнасці, каб без памылак счытваўся код.

Творам А. Бадака ўласцівы мяккі лірызм, даверальны тон. Паэт умее высачыць і да *месца ўжыць трапную метафару, нечаканы* вобраз. Але шмат якія творы адметныя менавіта адсутнасцю выкшталцоных тропаў, іх прыцягальнасць, іх паэзія ўзнікае як быццам з нічога:

**Я з вуснаў тваіх залатое віно,**
**Заплюшчыўшы вочы, да дна выпіваю.**
**Яшчэ ты са мною, а я ўжо даўно**
**Назад цябе зноўку чакаю.**

"Когда б вы знали, из какого сора растут стихи..." У вершах А. Бадака прыстутнічае дамінанта менавіта росту — як паступальнага руху ўгору. Паводле згаданага ўжо вучэння Айванхава, ёсць істоты, якія сілкуюцца энергіяй святла. Усё жывое імкнецца на спрадвечны маяк — сонца. Якой бы моцнай ні была сіла зямной гравітацыі, дрэвы ўпарта, на працягу ўсяго жыцця стараюцца пераадолець яе.

**Зялёныя аблокі дрэў**
**Застылі стомлена над намі.**
**У іх жыве птушыны спеў,**
**Бяздомны вецер спіць начамі.**
**. . . . . . . . . . . .**
**Тут, дзе і тлум, і смерць, і грэх,**
**Што іх трымае ў дні цяжкія —**
**Зялёныя аблокі дрэў,**
**Цнатлівыя і маладыя?**

**О, так! Яны вось-вось, відаць,**
**Карэнне выцягнуўшы з глебы,**
**Спакойна, ціха паляцяць**
**У неба, ласкавае неба!**

Шлях паэта "ў кірунку да сонца" — не сцяжына нацянькі праз лес, наўпрост да пэўна *вызначанай мэты. Напралом ходзяць ваяры,* без дарог, уподбежку скача па затоенай лугавіне дождж. Як сонца няспынна рухаецца па нябесным бальшаку, так і паэт павінен нястомна йсці наўслед і напярэймы сонцу. Хвіліна таптання на месцы — і наступіць збой у гэтым супольным зладжаным рушанні, і спіралепадобны паступальны рух абернецца кружляннем па лабірынце. А ненадзейнае "прыцягненне нябёсаў" наўрад ці зможа замяніць арыяднавую нітку й падказаць разгубленаму вандроўніку, у якім баку села зняможанае сонца.

Як пазначана ў выдавецкай анатацыі, "у новай кнізе з рэаліямі сённяшніх дзён цесна пераплятаюцца фальклорныя матывы". І ўсё ж *лаўры В. Аколавай,* якой сярод беларускіх паэтаў у наследаванні народнай творчасці належыць бясспрэчнае першынство, думаецца, не перашкаджаюць спаць А. Бадаку. Некалькі вершаў-прыпавесцяў, якія ўмоўна можна было б падзагаловіць "з народнага", не нясуць у кнізе асаблівай нагрузкі, ды й па мастацкім узроўні прыкметна саступаюць сваім арыгінальным пабрацімам. Радкі сур'ёзнага паводле задумы верша "конь бяжыць ды спатыкаецца, а Радзіма не канчаецца" гучаць гулліва, не пераканальна. (Падаецца, што плённае супрацоўніцтва з кампазітарамі ў некаторых выпадках далося А. Бадаку ў знакі — паэт-песеннік у ім самім дае ўрокі спеваў паэту.) Наўрад ці варта было ўключаць у кнігу й нізку песенных тэкстаў, якія жывуць сваім жыццём на сцэне. Але калі адкінуць музычныя хадулі...

Не зашкодзіла б паэту больш абачліва аднесціся да ўвесьчаснага выкарыстання слоў, накшталт какетка, дзялок, сляпец, страсць, трус (у сэнсе баязлівец). Тая небясспрэчная акалічнасць, што яны трапілі ў савецкія нарматыўныя слоўнікі, не пазбаўляе іх чужамоўнага гучання, ды й пры жаданні ім зусім няцяжка падшукаць беларускія адпаведнікі. Ёсць у зборніку й іншыя хібы: вятры ў аднайменным *вершы размашыста ляцяць* па ціхаму небу — яўна, як пісаў адзін неблагі паэт, "в сторону восточную". У вершы "Зорка" закаханы лірычны герой уздымаецца над зямлёй, самазабыўна "закрыўшы вочы". Але закрываюць вочы чалавеку адзін раз у жыцці, а звычайна ён іх заплюшчвае...

Зямны шлях наўслед сонцу вымушана пераходзіць ў палёт, калі сонца знаходзіцца ў зеніце, проста над галавой — любое гарызантальнае перамяшчэнне аддаліла б ад мэты. Крок убок — і шлях яшчэ болей здоўжыцца. Самы час развінуцца крылам.

**Міхась СКОБЛА**

*А. БАДАК. За ценем самотнага сонца. Вершы і песні. "Мастацкая літаратура", 1995.*

долю пакінутага дзіцяці.

Народныя песні не маюць аўтараў, але ў большасці яны спяваюцца ад імя жанчыны: напэўна, і складаліся жанчынамі. Аднастайнасць працы прымушала сялянак уносіць у будзённасць элементы святочнасці, абрадавасці, чароўнага дзеяння, бо зробленае без душы не прыносіла плёну. Пралі, ткалі, жалі — усё пад песню. А як жа яшчэ можна было выліць душэўны боль з-за нешчаслівага кахання ці няўдалага замужжа, дзе, як не ў песні, пажаліцца на злосную мужаву радню, на свой смутак па роднай дамоўцы і бесклапотнай маладосці? Паэзія Ніны Гарагляд ад гэтакай жа па-народнаму здаровай прагі вызваляць душу ад пакут праз песню. Вершы ўзнікаюць міжвольна, як дыханне, як само жыццё:

**Мае вершы — быццам слёзы.**
**Знікнуць. Раптам наплывуць.**

Лірычная гераіня твораў Ніны Гарагляд аптымістычна глядзіць на цяперашняе *наша* бядотнае існаванне, бо жывіцца духоўнасцю, якая кансерватыўна захоўваецца народам. І як бы ні стараліся русіфікатары, паланізатары і яшчэ невядома хто, беларус *падсвядома,* нават не жадаючы гэтага, застаецца сам сабою са сваёй працавітасцю, талерантнасцю, гасціннасцю і невынішчальнай мяккай гаворкаю.

**Калі адчую, што слабею,**
**Што слоў для песні не стае,**
**Тады ў зялёны нерат грэблі**
**Я гуслі пакладу свае.**

**І хай сумуюць рукі-голле,**
**Я зманнай волі ім не дам.**
**А да людзей пайду. У поле.**
**І навучуся песні там.**

Мае нататкі — не спроба крытычнай ацэнкі творчасці Ніны Гарагляд, а чытацкі водгук на добрую падзею — з'яўленне яшчэ адной кнігі паэзіі, пра якую дбайна парупіліся выдавец Георгій Тамашэвіч, рэдактар Алесь Каско, мастак Васіль Ількіў. Фінансаваў гэтае выданне Камянецкі райвыканкам (на жаль, фундатарам-камерсантам, прынамсі, берасцейскім, пакуль бракуе густу, і яны падтрымліваюць шэрае і нецікавае). Хочацца *пажадаць усім нам,* чытачам, пісьменнікам і выдаўцам, каб добрыя кніжкі хутчэй і часцей з'яўляліся на свет.

**Зінаіда ДУДЗЮК**

*г. Брэст*

# НА САМЫ РОЗНЫ ГУСТ...

У пятым нумары часопіса "Мастацтва" матэрыялы, разлічаныя на самы розны чытацкі густ. Вось толькі некаторыя з іх: "Пралетарскі інтэрнацыяналізм у мастацтве" С Бенядзіктава, "Канцэпцыя першасная, шырокая свядомасць другасная" В. Скорабагатава, "Новая рэчаіснасць", альбо "магічны рэалізм" Я. Шунейкі, "З нататнікаў" А. Камю, "Гартаючы мінулага старонкі" В. Брылон, "Прыйшоў час для свабоднай творчасці..." Л. Таіравай, "Хто сказаў "гаў", альбо Ад фатографа да кампактдыска" Д. Падбярэзскага, "У добры шлях, "Дон-Кіхот"!" Н. Кульган, "Містэрыяльныя вытокі тэатра" Г. Алісейчык, "Ці патрэбны опіум?" У. Мальцава, "Алхімія цела" В. Буйвала, "Надзея і фатальнасць" А. Эроціча, "Карбонка" Г. Багданавай, "Ручнік — дарога да чысціні і святла" В. Дзёмкінай, "Крытэрый адбору — самаацэнка" А. Законнікавай...

# А ЦЯПЕР І КНІГА

Валянцін Барысевіч — родам са Стаўбцоўшчыны. Служыў у арміі, скончыў завочна сельскагаспадарчы тэхнікум, факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў на мінскіх заводах, раённых газетах, у рэдакцыі часопіса "Беларуская думка". Цяпер В. Барысевіч — рэдактар аддзела эканомікі і сацыяльных праблем рэдакцыі газеты "Чырвоная змена". А да ўсяго — любіць літаратуру, сам піша.

"Няверная душа" — першая кніга прозы В. Барысевіча, якая стала майскім зборнікам "Бібліятэкі часопіса "Маладосць". Змест яе склалі аднайменная аповесць і апавяданні "Цяжкі грэх", "Тэлеграма", "Гранаты". Для твораў характэрна пільная ўвага аўтара да ўнутранага свету нашых сучаснікаў. Так званыя маральна-этычныя праблемы В. Барысевіч вырашае, як правіла, на прыкладзе сітуацый у нечым звычайных (для прыкладу, у аповесці "Няверная душа" прасочваецца жыццёвая драма маладой сям'і), але дае ім сваё вытлумачэнне, разумеючы, наколькі складаныя ўзаемаадносіны і стасункі між людзьмі і як уважліва неабходна ставіцца да іх, каб па-сапраўднаму зразумець чалавека.

# ВАСІЛЮ БАНДАРЧЫКУ — 75

Васіль Бандарчык належыць да той кагорты нацыянальных даследчыкаў, хто ўважліва ставіцца да гісторыі духоўнай культуры беларускага народа. Член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, ён асаблівых поспехаў дасягнуў у галіне этнаграфіі. Шырокае прызнанне атрымалі такія яго манаграфіі, як "Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст." (1964), "Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст." (1970), "Гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі" (1972), "Развіццё беларускай этнаграфіі за гады савецкай улады" (1979)...

Плённа працуе В. Бандарчык і на шляху асэнсавання дзейнасці найбольш знакамітых беларускіх вучоных у гэтым кірунку. Прынамсі, у 1960 годзе выйшла напісаная ім разам з І. Чыгрынавым кніга "Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі". У 1961 годзе пабачыў свет нарыс жыцця і дзейнасці яшчэ аднаго выдатнага навукоўца — "Еўдакій Раманавіч Раманаў". 1966 годам пазначана кніга В. Бандарчыка "А. К. Сержпутоўскі" (разам з А. Фядосікам). Сумесна з Л. Малаш ён выдаў у 1973 годзе працу "Беларуская этнаграфія і фальклор у працах славянскіх вучоных эпохі рамантызму".

В. Бандарчык мэтанакіравана даследуе таксама гісторыю матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, вераванні беларусаў, вусна-паэтычную творчасць... Ён аўтар шэрагу значных публікацый у перыёдыцы, аўтар прадмоў. У прыватнасці, энцыклапедыя "Этнаграфія Беларусі" (1989) адкрываецца яго аднайменным артыкулам.

З днём нараджэння, шаноўны Васіль Кірылавіч! Доўгіх вам год жыцця на карысць роднай Бацькаўшчыны!

# ГЭТЫ НЕЧАКАНЫ... ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

А паўстае ён са старонак кнігі Івана Навуменкі "Змітрок Бядуля", выпушчанай выдавецтвам "Навука і тэхніка". Аўтар упершыню аналізуе творчасць гэтага слыннага пісьменніка з таго пункту гледжання, на які дагэтуль даследчыкі ўвагі не звярталі. Прынамсі, І. Навуменка паказвае, як сувязь з імпрэсіянізмам, а таксама з міфалогіяй, біблейскімі матывамі садзейнічала фарміраванню своеасаблівага светаадчування З. Бядулі. Працуючы ў літаратуры з такімі карыфеямі, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, ён не толькі "не згубіўся", а і застаўся яркай творчай індывідуальнасцю, здолеўшы значна ўзбагаціць беларускую літаратуру ў жанрава-стылявых адносінах, напісаў шэраг яркіх твораў, значнасць якіх не губляецца з часам.

# ВЫДАЛІ КНІГУ ЗЕМЛЯКІ

"Вось ужо больш за сорак гадоў пад вострае пяро Аляксандра Капусціна трапляюць розныя абармоты і ліхадзеі, лайдакі і бюракраты", — адзначаецца ў анатацыі, якая адкрывае новы зборнік гумару і сатыры гэтага пісьменніка "Усміхнуўся месяц ясны". А выпушчана кніжка на радзіме Аляксандра Пятровіча ў Жлобіне тыражом дзве тысячы экземпляраў. Рэдагаваў яе рэдактар мясцовай газеты "Новы дзень" Пётр Шутаў. Увесь ганарар за продаж кнігі будзе пераведзены на завяршэнне ўзвядзення ў Чырвоным Беразе Жлобінскага раёна помніка дзецям — ахвярам вайны.

Мікалай ШУКАНАЎ

# АТРЫМАЎСЯ ТЭМАТЫЧНЫМ

шосты нумар часопіса "Пралеска": увесь ён заняты працягам публікацыі праекта "Праграмы выхавання і навучання ў яслях-садзе", што, як мы паведамлялі раней, таксама называецца "Пралеска". Важнасць і адметнасць гэтай праграмы найперш у тым, што яна мае ярка выражаны нацыянальны накірунак і вельмі шматгранная па сваёй сутнасці. Як бачна і з гэтай публікацыі, немалая ўвага ўдзелена знаёмству дзетак з творамі выяўленчага мастацтва, літаратуры, музыкі і г.д. Даюцца метадычныя распрацоўкі, прыводзяцца канкрэтныя творы.

Паэзія

Васіль САХАРЧУК



# ДУША АД РОСПАЧЫ БАЛІЦЬ...

## ПАЛЁТ

### УСПАМІН ПРА КАРАЛІШЧАВІЧЫ

*Палескай ластаўцы*
*Жэні Янішчыц*
*і ўсім беларускім творцам,*
*чыё жыццё завершана ў палёце*

I

Рэй ад зары і да зары.
Шчырую творчы дух.
Усе, як даўнія сябры,
паселі ў шчыльны круг.

Пашчасціла! — што і казаць...
Няма хвілін святлей,
чым на самоце ўспамінаць
той паэтычны рэй.

Яго паэмай я пачаў
і тут жа ўпаў у грэх
за тое, што жыццё падаў
як лёсаносны бег.

А як дыханне перавёў,
ператварыўся ў слых,
зірнуў з надзеяй на майстроў,
пасля — на маладых.

І майстар змрочны і сівы
мне абвясціў прысуд:
"Хлапец, не маеш галавы
чытаць такое тут.

Радкам бракуе пачуцця.
Ты — бег,
а мы — застой?
Я філасофіі жыцця
не ведаю такой!"

За ім і іншыя майстры
імпэту паддалі.
Так мак таўклі, бы камары,
што ледзь не затаўклі.

Я мужна крытыку цярпеў
з пакутаю ў вачах
і адназначна зразумеў,
што гэта поўны крах.

Ратуючы ад небыцця,
бы сонейка ў акне,
Палесся мілае дзіця
зірнула на мяне.

"Вось хто ацэніць наймудрэй..." —
падумаў я ў цішы,
і найсвятлейшая з надзей
успыхнула ў душы.

З усмешкай,
што не перадаць,
падвоіла тугу:
"І я жыцця як бег прыняць
ніколі не змагу..."

2

Я ўсё бягу,
хоць знаю сам,
не цяжка зразумець:
найлепшым дочкам і сынам
адведзена ляцець.

Ляцець праз тысячы згрызот,
праз тысячы нягод.
Ляцець і доўжыць радавод
і свой любіць народ.

Ляцець з пятлі,
ляцець з сухот,
ляцець на брук,
за дрот.
Ляцець у лесвічны пралёт,
ляцець на слізкі лёд...

Але жыруе абармот,
і тоіцца сексот...
А ты куды ляціш,
народ,
вады набраўшы ў рот?!.

## МУРАШ

Вось чалавек, а вось мураш.
Вось цар, а вось чарвяк.
Маўчыць вышэйшы арбітраж —
хто цар, яму няўзнак.

Чарвяк не можа без цара,
а цар — без чарвяка,
і ў адначас "далоў!" і "ўра!"
злятае з языка.

Аднак уладу заслужыў
і званне мудраца
той, хто ва ўсім адданы быў
другому да канца.

Таму царуе той заўжды
ў жыццёвай барацьбе,
хто свет ратуе ад бяды
і заадно — сябе...

...Там, дзе канчаецца шаша
і тлее буралом,
я наступіў на мураша,
і ў сэрцы грымнуў гром.

Дасюль гляджу, бы на міраж,
не верачы вачам:
ляжыць раструшчаны мураш,
а побач з ім — я сам.

## ТРЫ СЛЯЗЫ

Шэсць сутак у маім акне
стаяў туман густы.
На сёмыя пад ранак мне
прысніліся браты.

Той, што памёр, з магілы ўстаў,
той, што жыве, памёр.
А над зямлёй арган іграў
у ззянні слёз і зор.

Той, што з зямлі ўстаў,
малады,
мне прашаптаў:
"Павер,
каб ты са мною быў тады,
я жыў бы і цяпер".

Той, што зямлёй стаў,
у журбе
прамовіў мне без слоў:
"Каб я часцей званіў табе,
то жыў бы сто гадоў".

"Жыві хоць ты!" —
і ў неба з нас
упалі тры слязы.
"Жыць буду вечна!" —
у адказ
я крыкнуў тры разы.

Я між братоў сваіх жыву,
нібы між двух агнёў,
і сон той дзіўны ў галаву
прыходзіць зноў і зноў.

## РАКА

Сказаў філосаф:
"У жыцці,
як ні хацеў, не змог
я два разы ў раку ўвайсці,
і брод мой перасох".

Ману пасеяў ён, відаць...
Даю сячы руку —
ён так, па-мойму, мог сказаць
пра час, а не раку.

Рака азвалася:
"О, не,
не пахне тут маной,
бо ён яшчэ зраўняў мяне
з жанчынаю сваёй.

Заходзь у плынь маю і пяць,
і дваццаць пяць разоў —
я буду воблік свой мяняць,
а ты — і пагатоў".

І ад ракі падняўся дым
да неба ручайком.
Я ў плынь яе ўвайшоў старым
і выйшаў юнаком.

## РУКІ

Здымалі страшнае кіно:
стаяў памост на пляцы Волі.
Шумеў натоўп, і ўсе ў адно
былі з'яднаны, як ніколі.

Кіно было пра даўні час,
калі за кражу секлі рукі.
Сем тысяч злодзеяў за раз
на пляц прывезлі для навукі.

Кат у чырвоным кантушы
быў заклапочаны без меры,
таму стараўся ад душы
і працы ўволю даў сякеры.

Яна ўзлятала ўверх на ўзмах,
ляцела ўніз да рук ахвяры,
і застываў, бы маска, жах
у пакаранага на твары.

Яе лязо — працяг рукі,
і рукі ў гэтую хвіліну
сціскалі пальцы ў кулакі
і мякка падалі ў карзіну.

Лёс пад адну дахоўку звёў
шмат розных рук яе рукамі.
Няшмат было без мазалёў,
але найболей з мазалямі.

І хтось сказаў:
"Каб наш Савет
прыняў папраўку да закона,
я здолеў бы злачынны свет —
без рук хадзілі б сем мільёнаў..."

Але калі сякера зноў
упала долу для навукі,
ён, здрыгануўшыся, замоўк
і крыжам склаў за спінай рукі.

## РАБ

*Лепш адзін раз запаліць маленькую свечку,*
*чым усё жыццё праклінаць цемру.*
*КАНФУЦЫЙ*

Раб мог усё, бо майстрам быў —
такім, якіх няма.
І славу майстра заслужыў
за век свой недарма.

"Ідзі. Ты вольны, —
гаспадар
сказаў яму. —
Навек
даю табе я волю ў дар.
Ты — вольны чалавек".

І раб пайшоў з яго варот
у ноч пад ззянне зор,
каб жыць на волі,
а праз год
вярнуўся зноў у двор.

"Мой гаспадар,
душа мая
ад роспачы баліць, —
прамовіў раб. —
Не знаю я,
што з воляй мне рабіць".

"Ты мой не выканаў загад, —
пачуў ён у адказ. —
Калі прыму цябе назад,
Бог пакарае нас".

Заплакаў раб,
і яму ў тон
пачуўся плач здалёк,
і абярнуўся раптам ён
у кволы ручаёк...

...О, каб усіх такіх рабоў
Бог зліў у ручайкі,
цяклі б яны між берагоў
вадой адной ракі.

Рабы ж на тое і рабы,
каб рваць вярыгі зла,
але жывуць яны, нібы
ім змрок мілей святла...

## МАНКУРТ

Ён страціў памяць.
Санцапёк
чужых ідэй, чужое мовы
так яго розум звёў убок,
што ўсё забыў ён да асновы.

"Няўжо, —
матуля падышла, —
не назавеш м я н е сваёю?
Мой родненькі, з якога зла
такое сталася з табою?!"

"Няўжо, —
спыталася дачка, —
не назавеш м я н е сваёю?" —
і, як на кветцы матылька,
пагладзіла яго рукою.

"Няўжо с в а ё й не назавеш?" —
спытала мова
і з тугою
дала яму трагічны верш,
напісаны яго крывёю.

"Няўжо с в а ё й не назавеш? —
Радзіма падняла далоні. —
А п о м н і с я! —
бо я — найперш!
Вось сімвал твой — мой герб Пагоні".

Ён герб усклаў на галаву,
а верша і не заўважае:
"Я вас сваімі назаву,
як хоць адну мой цар прызнае".

Нікога цар з іх не прызнаў,
бо й сам з дзяцінства быў бяспомны,
і хтось з прыдворных загадаў
паставіць ім за гэта помнік.

Стаіць у скуры двайніка
цар на пяску, бы ў цэнтры Рыма.
А долу —
маці і дачка.
А ў небе —
мова і Радзіма.

Проза

Ніна МАЕЎСКАЯ

# САША



АПАВЯДАННЕ

Вясна прыхарошыла горад. Але ўсе адно ён — пустыня. Пустыня, у якой я шукаю ап'яняльна залёны аазіс, забрыдаючы пешкі да самай ускраіны, вяртаючыся невядома куды і навошта. Так, гэта — тут. Вось і той самы дом. А можа... Нешта змянілася ў яго абліччы. І веснічкі не тыя — дашчаныя, на гумавых пасках замест завесак, што, упусціўшы ці выпусціўшы каго, доўга ўзрушана пагойдваліся ў абодва бакі, не могучы супакоіцца. І Сашы было тут зручна — хадзіла туды-сюды. Весніцы цяпер былі строгія, звараныя з рабрыстых арматурных прантоў, няхай сабе не з адмысловымі ўзорамі, але моцныя, шчыльна прыгнаныя. А дом? Раней я на яго неяк асабліва не звяртала ўвагі. Відаць, гэта так! — не было яшчэ гэтай настальгіі па моцным, як крэпасць, упэўненым доме, як цяпер называюць катэджы, што прымушае людзей праўдамі і няпраўдамі будаваць іх на лапіках зямлі, балотцах і пустках. Аднак і дом быў крыху падноўлены: яшчэ не пацямнела смольная шалёўка. Можа, тут новы гаспадар, ці той самы — акрыяў духам, пасвятлела, мусіць, у ваччу. Так, жыццё мяняецца проста ўвачавідкі. І не трэба вякі, каб заўважыць гэта. Прайшло ж толькі... А хіба гэтага замала? Прайшло амаль чвэрць (о, як мне хочацца думаць, што толькі чвэрць) майго жыцця. Незваротнага. І, раздумаўшыся, можа, не гэтак пражытага, як хацелася, а па загадзе начальнікаў, указцы зверху. Мае ж асабістыя памкненні і жаданні так і залеглі на дно душы цяжкім пластам, як сапрапелі на дно возера. Каму яны зараз патрэбны, каштоўнасці чалавечай душы? А час не вярнуць, не пераняць ні на тралейбусе, ні на машыне, на якой я цяпер езджу. І чырвоны, шматпавярховы дом адрэзаў і засланіў тую вулачку, па якой я кожнае раніцы бегла — хутчэй, з усіх ног, каб толькі не спазніцца на заняткі, бегла міма вось гэтага — падноўленага цяпер — дома...

Зірнула ў двор на высокі ганак, нібы нехта павінен мне выйсці насустрач, прывітаць. Але, там сядзеў малады сабака. Белая пушыстая манішка ззяла белатою. Вушы пры такой грудзіне, здалося, павінны быць тырчком, насцярожаныя і чуйныя, што ловяць кожны шолах, а яны рахмана віселі. Але сабака пазіраў на мяне крышку звысоку, ледзь прымружанымі, усмешлівымі вачыма, якія, здаецца, падцікоўвалі: ну, ну, падыдзі бліжэй, падыдзі... А па сваёй даўняй недарэчнай звычцы прывячаць кожнага сабаку ледзь не сказала яму: "Дружок, я ведала тваю маці", — нібы тая мая знаёмая сучка і была ягонай маці. Мусіць, усё ж ён нешта прачытаў у маіх вачах, бо — павярнуў галаву, неўразумела вырачыўся. Сабака здаўся мне смешным — збянтэжаны, з выпнутымі грудзьмі, ажно вецер варушыў шоўкавую манішку, і аблавухі, да таго ж адно вуха спадала коса і ледзь не закрывала вока.

"Пазнала цябе па вушах. У яе таксама яны былі мяккія, з кудзеркамі. У яе яскрава адчувалася парода, угадваліся рысы добрапрыстойных сетэраў: пастава, вушы, пукаты лоб, што выдаваў істоту разумную, неардынарную. А ты — такі смешны. І хто ж табе пакінуў у спадчыну гэтае белае жабо, з якім ты проста няўклюда-лёкай? І хвост, відаць абаранкам... Але — не сумуй. Хто з нас цяпер чыстакроўны, хто ведае, якога ён роду і племені! У гэтым вавілонскім стоўпатварэнні мы забыліся кожны на сваю адметнасць, згубілі свой фасон, перанялі чужыя нораvы і звычкі. Нехта, відаць, хто вышэй нас, выводзіў новую пароду дварнякоў, злых і куслівых..."

Па гэтым завулку рана-раненька я з усіх ног імчала на тралейбус. Бывала, яшчэ месяц на небе, а я — бягу. О, як гэта ненатуральна — амаль што поначы бегчы з усіх ног па цёмным завулку, азіраючыся, як злодзей. Канешне, і сабаку гэта здасца падазроным. Можа, таму ён і ўлег тае раніцы за мною. Я ж толькі грукацела па схопленай начным марозікам зямлі у італьянскіх ботах, непрыстасаваных хадзіць зусім па гэткай калдобістай вуліцы, якая восенню ператвараецца ў непралазнае балота.

Але я любіла гэты завулак, мне падабалася яго прыватнае жыццё, з някідкімі простымі кветкамі і высокімі дрэвамі, што зазямлілі яго і звязалі з небам; з катамі і сабакамі, з вераб'ямі за аканіцамі. Гэта быў маленькі зялёны аазіс, да якога, як пясчаныя дзюны, падступалі шэрыя, доўгія каробкі шматпавярховак, дзе і ластаўцы ням дзе гняздзечка прычапіць. Здавалася, што пустыня насоўваецца, падступаецца да гэтага астраўка і непазбежна задушыць яго. Дзюны-дамы паўсталі ўжо наўкруг, заціснулі, адгарадзілі завулак ад гарадской мітусні, ад гарадскіх скразнякоў, таму вясною так дурманна цвілі тут вішні, жывыя агароджы з плюшчу хавалі патаемнае, прыцягальнае жыццё паблізу зямлі, на якую ў маі можна было ступіць босаю нагою, адчуць яе жывую прахалоду і цяпло. Гэта было ліхаманкавае цвіценне, буйнае, пеністае. Яно пералівалася цераз край, п'яніла. Так і хацелася затрымаць крок, або наогул сесці і сядзець на лавачцы каля плюшчавага плота, як на фоне кіліма. Але раніцой гэтага нельга было сабе дазволіць, трэба было бегчы ў канец вулачкі, дзе некалі быў невялічкі скверык, а цяпер сярод дрэў закруцілася тралейбуснае кальцо.

Да прыпынку тралейбуса было метраў трыста. І кожнае раніцы я адольвала гэтую трохсотметроўку бягом: вучылася тады ў вышэйшай партыйнай школе. Гэта толькі наіўным маладым хлопцам ды людзям недасведчаным здавалася, што ў гэтай школе рыхтавалі будучых кіраўнікоў. Так яно павінна было быць. Але ў кожнага кія два канцы. І тут былі тыя, хто рыхтаваўся на павышэнне, а большасць проста "кінулі" на перавыхаванне. І, дзякаваць Богу, што такі быў час, раней за тыя ж грахі заслалі б многіх з нас не ў цёплыя аўдыторыі з мяккімі дыванамі, а туды, дзе ад холаду зуб на зуб не трапляе і сядзець мулка.

Можа, у тым і заключалася маё перавыхаванне, каб я, саракагадовая жанчына, на італьянскіх платформах бегла на злом галавы па завулку, не высыпалася, не выпраўляла ў школу дзіця (бо заняткі у сярэдняй школе пачыналіся пазней, чым у маёй — вышэйшай, якая да таго ж была на другім канцы горада), каб трымцела мая душа, рваліся без таго слабыя нервы, што там, каля ўваходу ў аўдыторыю, чакае мяне дэкан, зноў запіша ў свой "кандуідзік", каб потым было пра што гаварыць на партыйным сходзе. Здавалася, гэтаму сівому чалавеку не было іншага клопату, як цікаваць за мною зранку. Бывала, прыбягу задыханая — дзякуй Богу, няма яго на калідоры, ціхенька адчыню заднія дзверы, прайду на дыбачках, гоп на сядзенне, хуценька дастану канспект, азірнуся — а ён сядзіць побач, нібы спецыяльна пакінуў адно месца для мяне, як сілок для птушкі.

На той час прыяцелька мая, Вера, вярнулася з камандзіроўкі: яна выкладала рускую мову ў Хартумскім універсітэце. За кубкам кавы, якую яна прывезла (о, здаецца, і зараз я чую яе дзівосны пах!), я паскардзілася на сваю ранішнюю бегатню. Яна расказала, што і ў яе студэнтка адна часта спазнялася. Вера аднойчы пагаварыла з ёю. Дзяўчына расказала, што ў яе складанасці з-за прычоскі: адымае многа часу. Прычоска сапраўды была складаная, з мноствам касцяных грабенчыкаў і заколак. "Дык вы, калі бачыце, што спазняецеся, — прабяжыцеся", — параіла мая Вера, мусіць, з майго ды і свайго вопыту. "Што вы, — абурылася дзяўчына, — у нас жанчыне на вуліцы нельга паскараць крок, не тое, што бегчы. Людзі падумаюць, што я звіхнулася". У нас жа гэта нармальна. Заўсёды, калі я бегла завулкам, ніхто не звяртаў увагі, толькі недзе на дрэве ў суседнім садзе па-старэчы рыпліва і захліпіста смяялася сарока. Можа, я будзіла яе, ці ў яе былі свае сарочыя смешныя справы, але мне заўсёды здавалася, што яна проста смяецца з мяне: бяжыць, як шалёная! У такія гады ўжо трэба быць паважнаю і памяркоўнаю. Мне і самой было няёмка і я, колькі ўжо разоў, намервалася навесці парадак у сваім жыцці: класціся раней спаць і раней уставаць, раніцою быць сабранаю, не зазіраць у рукапісы, не перачытваць свае начныя думкі. Але ўсё паўтаралася, бо калі жанчыне (ды і мужчыне-пісьменніку) працаваць, калі не ўначы! А потым не адарваць галавы ад падушкі.

Таму і прыходзілася бегчы. Аднойчы, калі гупала ботамі па завулку, за мною ўлёг сабака. І як на тое, нага мая падвярнулася і я з усяго маху грымнулася на дарогу. Сабака, які таксама набраў хуткасць, не змог спыніцца і кубарам паляцеў цераз мяне. Ашаломлены, ён стаў на ногі і няўцямна пазіраў, што ж здарылася. Як я потым зразумела, улёг ён за мною з простай цікавасці: за кім я бягу?

Ён стаяў і назіраў, як я пакутую ад болю, спрабуючы ўстаць на ногі. Мне ўжо было не да сабакі, бо была ўпэўнена, што зламала нагу. Сядзела на дарозе, сабака таксама сеў, не зводзячы з мяне позірку. І позірк гэты быў заклапочаны і спагадлівы. Ён нават коратка павіскваў, нібы яму таксама было балюча.

"Ну, што табе?" — сказала нарэшце я, нібы гэта была не жывёліна, а чалавек. Я расцірала нагу, а ён сачыў за маімі рухамі, крышку падаўшыся ўперад і пацягваючы носам халаднаватае паветра, нібы нюхам спрабаваў даведацца, што са мною. Потым, нібы адчуўшы сябе вінаватым, устаў, падтуліў хвост і паплёўся прэч. Але далёка не адыходзіўся: угнуўшы галаву, бы шукаючы нешта ці беручы след на дарозе, зіркаў на мяне. Я паднялася, ступіла раз-другі. Абрадавалася — мусіць, усё ж не пералом. Але ісці далей не рашылася. Села на лаўку. Сабака сеў насупраць, абвіўшы ногі махрыстым хвастом — так жанчыны ахінаюцца шаляноўкамі. Цяпер і разгледзела яго. Сабака быў вельмі прыгожы, дзіўнага, амаль чырвонага колеру. Да таго ж у ім яўна адчувалася парода, статнасць, пастава і розум. Паспець у час на заняткі не было надзеі. Але я ўсё-такі наважылася ісці, хоць на другую гадзіну: не вяртацца ж дадому. Хто без даведкі ўрача паверыць мне, што гэта не прагул? Няўжо ж не змагу дайсці?!

Нейкую хвіліну я яшчэ сядзела, пазіраючы на сабаку. Адзначыла, што ён шыракагруды. О, ды гэта сучка! Па жываце, як два рады гузікаў, добра такі пазначыліся саскі. Яна не адыходзіла ад мяне. Сачыла за кожным маім рухам. Асабліва захвалявалася, калі я расшпіліла сумку, — зноў пацягнула носам паветра. Толькі тады я здагадалася, што, нягледзячы на ўсе сабачыя годнасці і добрыя якасці, гэта звычайны дварняк, валацужнік, якога зранку яшчэ ніхто не карміў, не кінуў нават кавалка хлеба.

"Ты, як і я, не снедала? Я таксама не паспела. Давай з'ядзім бутэрброд".

Яна павесялела, занепакоілася, ажно прыпаднялася, зазіраючы ў сумку. Я разламала скібку, падзяліла скрылікі каўбасы, утаптала пальцам іх у масла, каб не зваліліся.

"На", — падала ёй. Яна хапанула хлеб з маслам ледзь не з рукою. "Ну ты, памалу, не адкусі". Гэта ёй было на адзін глыток. Яна нават не жавала. Глытнуўшы, зірнула павільгатнелымі вачыма — можа, то была ўдзячнасць, потым адвяла іх, быццам не хацела бачыць, як я жую свой кавалак, лічыла непрыстойным, саромелася ці баялася, што не вытрымае і адбярэ. Але яда мне не лезла. Гэта ўсё лухта, што можна "зажаваць" непрыемнасці, палепшыць такім чынам настрой. Настрой быў нікуды не варты, нічога не лезла ў рот.

"На", — я працягнула недаедак. Цяпер яна ўжо не схапіла, а ўзяла далікатна ў зубы, ашчэрыўшы іх, вострыя, частыя, скрывіўшы тонкія далікатныя губы на доўгай вострай мордачцы. Манерна, бы перадражніваючы мяне, пачала памалу жаваць. Проста смех з яе. Але мне не да смеху, бо трэба неяк ісці.

"Ну, мне пара, бывай", — сказала я. І яна паднялася, махнула махрастым хвастом. Зрабіла некалькі крокаў за мною. Потым спынілася, назірала, як я чыкільгаю па вуліцы да тралейбуса.

●

На гэтай вулачцы была маленькая крамка, звычайная сельская крамка з немудроным таварам: запалкі, соль, сякія-такія крупы, пернікі ды баранкі. Здаецца, і перайшла яна за гарадскую рысу, але тавару ў ёй не большала. Затое заўсёды быў цёплы, а то нават і гарачы хлеб. І па дарозе з заняткаў я засёды купляла духмяны бохан. Дрэнна было толькі тое, што часта трэба было крышку чакаць — у гэты час тут быў перапынак. І мінут на пяць, дзесяць я прысаджвалася на лаўку насупраць крамы, каля зялёнай коўдры плюшчу, што шчыльна заплёў плот.

І заўсёды, штурхнуўшы весніцы, выходзіў той самы сабака. Віляў развесістым хвастом, вітаўся са мною, як са старой знаёмай, запытальна пагляdaў на рукі, а то ў сумку зазіраў, чакаў пачастунку. На што часта чуў: "Няма, няма яшчэ нічога, хочаш, пачакай акрайчык". І сабака сядзеў перада мною. Задумлівы, засяроджаны. У галаве яго, мусіць, снавалі нейкія думкі, бо тонкая гладкая скура на адкрытым ілбе бралася зморшчынамі.

Можа, у яго штосьці балела, ці хто яго пакрыўдзіў, але ж — сабака не скажа. Усё адно я запыталася: "Што з табою, чаго сумны?.." Ён толькі заміргаў вільготнымі, бы ад слёз, вачыма.

Крамка не адчынялася. Прадаўшчыца не вельмі строга пільнавалася часу. Даводзілася сядзець, чакаць. Сабака таксама сядзеў — чакаў цёплага акрайчыка.

"Саша, Саша!" — пачулася з двара. Я азірнулася, але з-за сцяны дзікага вінаграду не было відно ні таго, хто клікаў якуюсьці Сашу, ні самое яе. Сабака ж занепакоіўся, на мордзе яго і ў вачах з'явілася нават незадавальненне, быццам голас гэты перашкаджаў яму думаць ці парушыў спакой. "Дзе ты там? Зноў збегла недзе, Саша! Цю-цю, на..." Мне ўсё стала зразумела. Я ўсміхнулася. "Значыць, гэта цябе завуць Саша?"

Сабака зірнуў мне ў твар. Вочы яго прасілі прабачэння, верхняя губа вузкай мордачкі прыўзнялася па краях, нібы таксама ва ўсмешцы. Маўляў, імя не выбіраюць.

"Саша", — паўтарыла я. І ўсміхнулася. Чамусьці мне стала прыемна і цёпла на душы, што яе завуць так вось проста і ласкава — Саша.

"Цябе клічуць, ідзі..."

*(Працяг на стар. 14-15)*

Тэатр

# НАВУЧАЕМСЯ МОВЕ АНЁЛАВАЙ...

***Ён, паводле яго самога, прыехаў на Беларусь, маючы на галаве два капелюшы: прафесара еўрапейскай культуры Кінгстан-універсітэта, што ў Лондане, і дырэктара Еўрапейскага фонду мастацтваў свайго ўласнага імя — спадара Рычарда ДЭМАРКА. Ягоныя візіты найшчыльна былі звязаны з міжнародным інстытутам па радыеэкалогіі імя А. Сахарава; першай і асноўчай іх мэтаю спадар Дэмарка абвясціў гэтак званае навядзенне мастоў — між навукай і культурай, між пэўнымі, складанымі радыеэкалагічнымі доследамі на нашым "чарнобыльскім тле" рупліўцаў-сахараўцаў і мастацтвам Беларусі, якое займела непараўнальна трагічны досвед, адлюстроўваючы, адбіваючы, асэнсоўваючы чарнобыльскую трагедыю ўласнага народа. Прымеркаваць гэты матэрыял выпала якраз да часу, калі тры беларускія тэатры распачынаюць свой чынны ўдзел у Эдынбургскім фестывалі мастацтваў — спрыяннем і клопатам няўрымслівага прафесара, якому ў сёлетнім ліпені зраўнялася 60 гадоў. Пасля некалькіх сустрэч з ім ў мяне засталіся запісы, сёе-тое дадало несупыннае ліставанне. З кавалкаў, выняткаў, заўваг завочным чынам утварылася натуральная гутарка, у якой, не буду хаваць, адказы часам пераймалі пытанні.***

**ЖАНА ЛАШКЕВІЧ**

## АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ТЭАТР

**— Прафесар, а вы маглі б ацаніць дзейнасць нашага недзяржаўнага тэатра ў звязку з запатрабаваннямі вашай краіны, — Вялікабрытанія славіцца мастацкімі традыцыямі?**

— Альтэрнатыўны тэатр, — дзякаваць Богу, я ў ім не першы раз, — цудоўны прыклад беларускага Адраджэння. Быў бы шчаслівы прывесці сюды сваіх сяброў, каб яны адмовіліся ад сваёй спяпярэдлівасці ды забабонаў у дачыненні да былых савецкіх рэспублік. Мае ўхвалы вам — за тое, што вы агаралі, здужалі тое, што так лёгка магло быць не створана. Разумею, наколькі вы былі адны, адны-адзінюткія, разумею, як было вам цяжка. Заходнім бізнесоўцам, з якімі, прынамсі, кантактую я, не ўдалося стварыць нічога падобнага. Мушу падзяліцца сваімі захапленнямі з брытанскімі газетамі, асноўнаю тэмаю мусіць стацца адраджэнне мастацтва праз адраджэнне чалавека. Вы — існасны цэнтр Еўропы! Я маю на ўвазе вашу Беларусь, зразумела. Не ўсходняй — аб'яднанай Еўропы. Вы не ўяўляеце, які выклік будзе кінуты на Эдынбургскім фестывалі Еўропе з боку краіны, пра якую пэўна ніхто нічога не ведае! Альтэрнатыўны тэатр, як утварэнне, дзе спалучаецца прадпрымальніцтва і мастацтва, больш за каго ўразіў бы майго знанага сябрука Джазэфа Бойса: менавіта ён выказаў думку, што мастацтва даражэйшае за грошы. Тэатральныя ідэі, падмацаваныя поспехамі беларускага прадпрымальніцтва, вымагаюць і ўвагі, і павагі, і пільнасці: у вашым выпадку, здаецца, грошы ўжо зразумелі, як няшмат яны каштуюць без высакароднасці мастацтва... Утварэнне такой структуры, як Альтэрнатыўны тэатр — гэта... бліжэй і бліжэй да старту ў новае стагоддзе. Я пачаў актыўна працаваць у падобным кірунку з 1963 года, але ніколі не думаў, што мае шчаслівыя мары ўвасобяцца за сотні кіламетраў ад мяне самога ды так удала: у цуды трэба верыць. Яны надараюцца! Праўда, дзякуючы цяжкай працы... Я бачу, што кожны з вас працуе шмат і працуе цяжка; бачу, як шмат людзей і сем'яў залежыць ад вашага поспеху ды ўмельства. Балазе, я не бачыў у вас беспрацоўных, якія спяць на вуліцах, — да вам Божа ісці сваім шляхам, — не губляючы работы...

## КРЫНІЦА ЭНЕРГІІ НАРОДА

**— Прафесар, ваш сябра Бойс меркаваў, што мастацтва — гэта крыніца энергіі народа. Меркаваў, напэўна, пакуль быў вельмі малады?**

— У Мінску я заўважыў, наколькі колішні малады Бойс меў рацыю. Нават у Мінску гэтыя крыніцы — паўнюткія, хоць і здаюцца незаўважнымі. Мастацтва — ці не самае галоўнае ў жыцці! Тое галоўнае, што дае сігнал пра жыццё новым пакаленням. Я вас запэўніваю — нават Расію ведаюць па рэвалюцыі (маецца на ўвазе кастрычніцкая 1917 года. — **Ж. Л.**) усё менш і менш. Перад ёю — Дастаеўскі, Талстой, Шагал... Я быў проста ўражаны, што мае любімыя мастакі Шагал ды Малевіч — і родам, і радаводам, і крыніцамі сваёй мастакоўскай энергіі — з Беларусі. Я, здаецца, мог бы заглыбіцца ў іх, наездзіўшыся па Мінскім метро, — а што ты смяешся, лонданскае метро — гэта пекла, пушчанае ва ўжытак у мінулым стагоддзі, а Нью-Йоркскае — пекла у сучасным увасабленні. Разумееш, каб Бойс быў жывы, ён бы адразу ўхапіў — на што ў вас тут трэба звярнуць пільную ўвагу, каб выявіць народную душу!

**— "Мастацтва роўнае грошам", — я не магу не працытаваць Бойса яшчэ раз...**

— Вы малюеце на вашых грошах жывёл: Бойс быў бы шчаслівы пазнаёміцца з вамі. Ён калісьці спазнаў Расію праз тое, што яго збілі над стэпам, — гэта было падчас другой сусветнай вайны, калі мастак мусіў ваяваць, і ваяваў у Люфтвафэ, на баку вашых ворагаў. Яго знайшоў татарын і ўратаваў яму жыццё. І там, нібыта на ўскрайку Еўропы, Бойс сустрэў жывёліну, якая, відаць, прэтэндуе на сімвал Беларусі — зайца. Паводле Бойса, гэта — самая цудоўная жывёліна, гэта — далікатны і прыдатны сімвал новай Еўропы. Бо заяц не ведае межаў і скача куды хоча. Бойс быў самым выбітным мастаком нашага стагоддзя. Чаму? Таму, што зрабіўся першым мастаком наступнага стагоддзя. Ён бы вызначыў наш шлях вельмі проста: калі вы хочаце ўведаць цану капіталу, вы мусіце ведаць цану мастацтва. Мастацтва роўнае грошам, — асабліва грошам, дзе ўжо прачытваецца сімвал новай Еўропы, вольнай... скакаць, куды хоча яе здаровы розум. А ў вас ён ёсць. Разам з мастакоўскім вар'яваннем, вар'яцтвам. Беларусам яшчэ адкрываць і адкрываць сябе...

## ЯК ВАЖНА СЯБРАВАЦЬ

**— Спадар Дэмарка, мы тут разважалі пра халодную вайну, — дарэчы, наш агульны сябра (падзякуем яму за тое, што зрабіў сябрамі і нас з вамі) крытык Джон Элсам нават кнігу сваю назваў — "Тэатр халоднай вайны", — ці ж не адкінула яна нас углыб непаразумення? На руінах прайгранай халоднай вайны Беларусь яшчэ доўга не адбудуе тэатра, вартага Еўропы. Вартага перадусім стаўленнем да сваіх творцаў...**

— Мастацтва і сяброўства робяць людзей анёламі. Мова анёлаў — гэта мова мастацтва. Калі мы не навучымся гэтай мове, дык зробімся... дурнямі, робатамі; рабамі. Калі мову мастацтва, мову культуры забараняюць, мы хуценька прыходзім да выродстваў тайнай паліцыі, таталітарызму, антыдэмакратыі і ўсяго, што вы мелі за апошнія пяцьдзесят гадоў, але ж і мы не ўсё з пералічанага абмінулі. Слухай, слухай, бо я, між усім, перажыў і вялікую вайну, — мабыць, твае бацькі дзецьмі таксама перажылі яе не на каліфарнійскіх пляжах. Я ўжо сутыкаўся з тым, што ў вас людзі мастацтва неяк недаацэньваюць сябе, сваёй значнасці, сваёй адметнасці. А праз гэта — недаацэньваюць усё, на што здатныя і ў мастацтве, і для мастацтва. Мяркую, што ў даным выпадку мастацтва роўнае радзіме, — ты не будзеш гэта аспрэчваць? І добра, што не будзеш. Мая думка лічыцца ў міжнародных мастацкіх колах незалежнаю. На мяне ніхто не ўплывае. (Гэта даводзіць хоць бы тое, што я першы прадставіў пасля вайны ў сябе на Эдынгбургскіх фестывалях мастацтва Польшчы. Адразу пасля палякаў выступалі лепшыя нямецкія акцёры: я зрабіў гэтак знарок, каб усе пераканаліся, на якім узроўні Польшча можа весці дыялог з Германіяй!) Я прадстаўляў у Эдынбурзе румын, аўстрыйцаў, французаў; Боснія, Сербія, Харватыя — героі новых часоў у Эдынбурзе. Я проста не магу даць веры, што менавіта мне пашчасціла адкрываць сцэнічны вобраз Беларусі для англамоўнага свету. Калі ты і твае сябры дапамогуць мне ў гэтым, нам удасца зрабіць куды болей, — куды болей, як удалося б, да прыкладу, вашаму ўраду, калі б ён займаўся гэтым. Наўрад ці вашаму ўраду ўдалося б стварыць такі вобраз Беларусі, як гэта ўдаецца вашаму мастацтву. Дарэчы, я ніколі не меў аніякага спадзявання і на свой урад: кожны раз, калі я прапаноўваў чарговую ідэю, а менавіта — кантактавання і паразумення, прадстаўнікі ўрада... баяліся. Мо таму, што ідэя кожны раз была новаю? Збаяліся яны і мастацтва, роўнага грошам — і фармулёўкі, і яе практычнага ўвасаблення. А я ўжо прадставіў на фестывалях у Эдынбурзе паўтары тысячы твораў мастацтва праз выставы, галерэі, я прывозіў і праектаваў спектаклі, балеты, сольныя выступленні музыкаў і да т. п. Мы правялі 14 міжнародных канферэнцый па тэматыцы сучаснага еўрапейскага мастацтва! У нас аб'ядноўваліся галовы ўрада, навукоўцы, творцы, студэнты, палітыкі — тысячы людзей, якія ўпэўніліся, што мастацтва — не забава, не адпачынак, не гандаль, а да такой ступені сур'ёзная частка нашага жыцця, што нават бізнес мусіць стаяць не напрыканцы стварэння твора, а напачатку. Каб не глядзеў на яго звысоку. Каб спазнаў, якім цяжкім бывае шлях да дасканаласці.

## НАВАТ ГОРШ ЗА КАМУНІЗМ

**— Вашы кампліменты Мінку я прымаю з доляй асцярожнай разважлівасці: мы, беларусы, мяркуем, што наш горад надта далёкі ад дасканаласці.**

— Магчыма, я не маю рацыі, але хацеў бы давесці, што мадэль сучаснага горада — гэта зусім неабавязкова Парыж. Ці не кожны горад цяпер кіруецца культурай Дыснейлэнда: магазінамі, гандлярамі, таварамі... Падабенства амерыканскіх гарадоў — гэта нават горш за камунізм. Людзям прапануецца ўвесь комплекс, увесь набор нібыта каштоўнасцей, нібыта культуры. З разлікам на заможнасць і дабрабыт: маўляў, той, хто зарабляе, мусіць выкласці свае грошы. Якое недарэчнае выкарыстанне волі! Я дзякую Богу, што нават кабельнае тэлебачанне і відэа не адвучыла, не адвярнула людзей ад тэатра, не дало ім забыцца на сапраўдныя тэатральныя вартасці. Хіба ж будзеш ты так радавацца і смуткаваць перад экранам, як перад рампаю? Як чалавек сучасны я разумею, што тэлебачанне апанавала сучаснасць. Але гэта не значыць, што яно мусіць весці рэй, — так, як цяпер, — у будучыні. Не трэба ўспрымаць вобраз тэле, навязаны свету Амерыкай, як адзіна магчымы. Амерыканцы на сваім тэле стварылі жах, які імітуе свет. Я ўвогуле аддаю перавагу Еўропе, але ўжо — толькі аб'яднанай. Гэта значыць — толькі з вамі. Я, магчыма, дзівак, але перакананы, што ніякі еўрапеец не зможа пачувацца паўнавартасна, калі ўведае, колькі яго абмінула з-за вымушанага ўдзелу Беларусі ў халоднай вайне. Дарэчы, рэктар Кінгстан-універсітэта, доктар Роберт Сміт прыязджаў у Мінск у шасцідзесятыя гады — ягоны візіт быў тады вельмі важным, спраўным. Але праз столькі гадоў ён не забыўся, як быў тады яшчэ ўражаны горадам! Як толькі надарылася магчымасць працягваць і мацаваць сувязі з ім праз Сахараўскі інстытут, ён адразу ж зрабіў для працягвання і мацавання ўсё. Я думаю, што беларусы цяпер у вельмі неадназначным і адметным стане: вы можаце пазбегнуць шмат якіх памылак заходу. Я мяркую па ўзроўні вашага тэатральнага мастацтва: вы вартыя Еўропы ўжо даўно, і вы можаце зрабіць усё, каб падтрымліваць гэты ўзровень, гэтую мастацкую якасць і ў сябе, і ў нас, бо мастацтва — як узаемазлучаныя сасуды. Я мару прывезці да вас разам з сабою сваю каманду — бізнесоўцаў, студэнтаў школы мастацтваў, мастацтвазнаўцаў і нават палітыкаў, каб яны дапамаглі мне ацаніць вашы вартасці і абставіны, стасункі ды перспектывы. На жаль, мы спазніліся ажыццявіць гэтую ідэю, — яна вымагала ўвасаблення гадоў пятнаццаць таму, але лепш ужо пазней... Добра, зрэшты, што наш новы аб'яднаны свет — гэта і новая мова зносінаў будучага стагоддзя. Я вельмі задаволены, пабачыўшы ўсмешлівыя тварыкі вашых дзяцей на вуліцах, — дзяцей, якія не ведаюць Маркса і Леніна. Але ўжо ў Лондане я падумаў, што вашы дзеці надта добра ведаюць Чарнобыль... Што яшчэ мусяць уведаць яны, каб пазбегнуць войнаў і глупстваў?

Напраўду, што яшчэ? Мабыць, мову мастацтва. Таго, што робіць людзей анёламі, альбо, магчыма, нароўні з каханнем і пекнатою ўтварае вартасці чалавечага жыцця. Хто аспрэчыць, што мову мастацтва трэба вывучаць — якраз з дзяцінства?..



*На здымку Рычард ДЭМАРКА і Джон ЭЛСАМ*

# ПРАЗ ФРАНЦЫЮ — ДА КАЛОЖЫ

"Што дзень наступны нам рыхтуе?" — з хваляваннем задае сабе гэтае пытанне ледзь не кожны чалавек у нашы няпростыя часы.

Што казаць, такое пытанне паўстала і перад артыстамі Гродзенскай гарадской капэлы, і перад іншымі людзьмі, неабыякавымі да паездкі гэтага калектыву ў Францыю. З нецярплівасцю чакалі яе праваслаўныя вернікі Гродна, ды і ўсе жыхары горада, зацікаўленыя ў аднаўленні помнікаў культуры краіны. Таму што ўмовы паездкі былі звязаны з накіраваннем заробленых сродкаў на аднаўленне Каложскай царквы. Невыпадкова ўдзельнікам вандроўкі быў і святар Каложскай царквы айцец Анатоль. Былі падрыхтаваны дзве гастрольныя праграмы з улікам розных залаў, кантынгентаў слухачоў, іх веравызнання.

У Францыі ўвесь клопат па арганізацыі канцэртнай дзейнасці і жыццезабеспячэнні артыстаў узяла на сябе фірма Blanchon. Жыхары Францыі мелі магчымасць пазнаёміцца з майстэрствам Гродзенскай капэлы ў сямі гарадах краіны (Парыж, Лімож, Абазін, Клермон-Феран, Ле Пуі ан Вале, Ангулеш, Пуацье) выключна ў каталіцкіх храмах. Кожны канцэрт складаўся з двух аддзяленняў. У першым гучала праваслаўная музыка Рахманінава, Чайкоўскага, Часнакова, Архангельскага, Бандарэнкі, твор з каталіцкай музыкі (Науяліс, "Caligaverunt"), два хоры Свірыдава з цыкла "Пушкінскі вянок".

У другім аддзяленні, акрамя акапэльнага харавога выканання, была прапанавана музыка з арганным суправаджэннем (Моцарт, "Laudate Dominum", Кальдара, "Stabat Mater", Гуно, "Аве верум") і з камерным аркестрам (Моцарт, "Аве верум"; Бах-Гуно "Аве Марыя"; Даніцэці, "Аве Марыя", Равенскі, "Магутны Божа").

Канцэрты паказалі вельмі высокі ўзровень выканання, пра што сведчылі адухоўленыя твары слухачоў, доўгія апладысменты, цёплыя водгукі ў друку, вусныя выказванні спецыялістаў.

Публіка з пачуццём вялікай радасці вітала кіраўнікоў калектыву А. Бандарэнку (мастацкі кіраўнік, кампазітар), дырыжораў Л. Іконнікаву, У. Борматава, салістаў М. Гаравую, У. Гаравога, І. Дзмітровіч, Л. Дзюбіну, Ф. Куніцкага, Н. Парфілаву, выканаўцу на аргане Б. Тэрмена.

Агульна кажучы, капэла годна выканала сваю місію. . І ўсё ж арганізацыя з боку гаспадароў не ва ўсім удалася.

У выніку недастатковай рэкламы на канцэртах было мала людзей. Толькі ў Ліможы сабралася адносна вялікая колькасць слухачоў (больш за 200 чалавек). Незразумела, чаму ніводны канцэрт не адбыўся ў праваслаўнай царкве. Не садзейнічаў таксама колькасці слухачоў і позні час пачатку канцэртаў (21.00). Чаго ж казаць? Усё добра быць не можа. Тым не менш, пасля заканчэння турнэ нас запэўнілі ў тым, што Каложская царква будзе адноўлена.

І ўсё ж на фірму "Бланшон" спадзявайся, але варушыся і сам. Трэба ўразумець, што ўласныя праблемы належыць вырашаць уласнымі сродкамі і ўласнымі рукамі. Тым болей, што Гродзенская гарадская капэла паказала сябе добра, зрабіла высакародную справу, дастойна прадставіўшы беларускае музычнае мастацтва ў найцудоўнай краіне Заходняй Еўропы.

**А. ПЕСКІН**

# ВЫСАКАРОДНАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

## МІНСКІ ФОТАФОРУМ: ПАЧАТАК АБО КАНЕЦ?



**Вызначэнне "Беларуская школа фатаграфіі" нарадзілася ў Расіі. Фатографы-прафесіяналы і аматары з сумам і задавальненнем успамінаюць, як 10—15 гадоў назад жыццё, перапоўненае падзеямі, літаральна віравала. Фотавыставы, семінары, фоташколы, клубы, паездкі, серыя "Фотаграфік", якая адкрыла шмат імёнаў, стварылі ўмовы для нараджэння феномена — беларускай фоташколы.**

**Першы з'езд фотамастакоў Беларусі, што адбыўся ў 1990 годзе, супаў з пераменамі ў эканоміцы і грамадскім жыцці краіны. Бяздзейнасць элітарнага Саюза паставіла кропку на спробах рэарганізаваць ранейшыя формы работы і прывяла да працяглага застою ў фатаграфіі рэспублікі. Дакладней сказаць, у яе выставачным кірунку.**

**Актыў старэйшага фотаклуба Беларусі "Мінск", на чале з яго старшынёй Юрыем Васільевым, у пачатку леташняга года вырашыў правесці фотафорум — выстаўку, якаю сабрала б пад адным сцягам фатографаў розных накірункаў, поглядаў і ўзросту, каб абмеркаваць агульныя праблемы. Гэтая падзея планавалася на верасень 1994 года.**

**Прыём работ (1237!) і фармаванне экспазіцыі (усяго 273 фатаграфіі 66 аўтараў) закончыліся ў тэрмін. Для размяшчэння выставы патрабавалася вялікая зала і сродкі. Міністэрства культуры на зварот арганізатараў з просьбай памагчы адказала маўчаннем. Пошукі грошай прывялі да таго, што Фотафорум-94 падрос на год і ўсё больш рызыкаваў не спраўдзіцца ніколі.**

**Па волі лёсу пра гатовую экспазіцыю даведаўся дырэктар СП "Белэкспафільм" (афіцыйны прадстаўнік "Fugi film" у Беларусі) Аляксандр Чанцоў.**

**Заплаціўшы за выставачную залу ў Палацы мастацтваў, пра якую марыла дырэкцыя выставы, фірма пачала рэалізоўваць уласную культурную праграму.**

**Прэзентацыя выставы зрабіла ўражанне вялікай падзеі. Юрый Васільеў назваў яе "правакацыяй". Высакароднай правакацыяй, якая дазволіла ўпершыню за апошнія шэсць гадоў сустрэцца творчым сапернікам, каб на гэты раз не ўпусціць шанц, падараваны лёсам, а цвяроза, адкрыта і крытычна вырашыць: сабрацца або разысціся ўвогуле.**

**Пра вартасці і недахопы прадстаўленай экспазіцыі будуць гаварыць мастацтвазнаўцы і крытыкі. Але ім трэба памятаць, што перад мінскім фотафорумам стаялі не зусім характэрныя для творчай выставы задачы. Паказаўшы амаль усіх аўтараў, што працуюць у рэспубліцы, іх узровень, маштаб, патэнцыял, выявіўшы разнастайнасць накірункаў у сучаснай беларускай фатаграфіі, ён, галоўным чынам, закліканы ўскалыхнуць, актывізаваць і заявіць усім: творчыя сілы ў фатаграфіі ёсць. Яны гатовыя прадстаўляць рэспубліку на высокім мастацкім узроўні. Дзе б там ні было. Не сакрэт, што гэтыя спробы будуць спалучацца з вырашэннем пытання пра саюз як форму праяўлення, пра членства і г. д. Бясспрэчна, будзе сутыкненне думак, але як бы там ні было, "дах", пад якім вырашацца шмат якія калятворчыя праблемы, — неабходны.**

**Тое, што фотабізнес бярэ ўдзел у лёсе творчай фатаграфіі, натхняе ды дае спадзеў. У Беларусі ўжо ёсць прыклады спонсарства, матэрыяльнай падтрымкі асобных аўтараў і цэлых мерапрыемстваў.**

**Жыццё само падказвае новыя формы супрацоўніцтва. Творчая арганізацыя фотамастакоў магла б знайсці падтрымку ў асяродку фотабізнесу рэспублікі, які развіваецца. Магла б — бо гэта абяцае і падзеі, і нават культурныя здзяйсненні.**

Людміла ЕЎТУШЭНКА

*Работа Зоі Мігуновай "Партрэт".*

Сумоўе

# "ЦЯПЕЛЬЦА" МАІ ЛЬВОВІЧ

Мая Львовіч — чалавек на Беларусі досыць вядомы. І таму, што напісала паэтычны цыкл "Страцім-лебедзь", прысвечаны класіку нашай нацыянальнай літаратуры Максіму Багдановічу, і таму, што неаднаразова наведвалася ў рэспубліку, дзе мае шмат даўніх і добрых сяброў. А да ўсяго — плённа працуе на ніве перакладу. Гэта дзякуючы М. Львовіч украінскія чытачы змаглі прачытаць на сваёй роднай мове такія кнігі, як "Я з вогненнай вёскі..." Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, "Завеі, снежань" Івана Мележа, "Золак, убачаны здалёк" Янкі Брыля... Колькасць жа паэтаў, перакладзеных ёю, — не адзін дзесятак.

Любоў М. Львовіч да беларускай зямлі, можна сказаць, спадчынная. Бацькі яе перад тым, як пераехаць у Адэсу, дзе нарадзілася будучая паэтэса і перакладчыца, жылі на Беларусі. Так што і беларуская мова для М. Львовіч па сутнасці не чужая. А што гэта і на самой справе так, можна лішні раз упэўніцца, пазнаёміўшыся з чарговай кнігай паэзіі М. Львовіч, выпушчанай нядаўна ў Харкаве выдавецтвам "Прапор". Зборнік унікальны, а як для сённяшняга часу, дык і рэдкі. Дзве назвы мае ён — "Цяпельца" і "Вогнік" і адпаведна паралельна ў двух варыянтах прадстаўлены творы — на беларускай мове і на ўкраінскай. І што немалаважна, дык тое, што М. Львовіч абышлася без паслуг перакладчыка, хоць, прызнацца, праца зроблена вялікая. У кніжку ўвайшло каля 80 твораў, прытым, за рэдкім выключэннем, яны новыя. Значыць, неабходна было не толькі напісаць іх, а і парупіцца, каб своечасова і гэтаксама па-майстэрску пераўвасобіць па-беларуску.

А ў выніку атрымалася ўражлівая і ўсхваляваная паэтычная споведзь, як сказана ў анатацыі, "пра маці, сына, друга, мову, зямлю. Паэзія трывогі, надзеі, любові". І, хочацца дадаць, з"явілася сапраўднае прызнанне ў любові да Беларусі, зямля якой, як бачна з вершаў, для М. Львовіч асабліва дарагая і блізкая. І гэта адчуваецца з першага верша, які, як на маю думку, варта прывесці ў абодвух варыянтах, каб лепей адчуць, наколькі паэтэса дакладна адчувае дзве моўныя стыхіі.

Спачатку ідзе беларускамоўны варыянт:

**Мне сніцца сон.**
**Мы век былі ў разлуцы,**
**І цьмянае аблічча паўстае.**
**Змарнелае, счарнелае ігрушы?**
**Усохлае, пажоўклае**
**бярозы?**
**Чыесь яшчэ мо зболеныя рысы?**
**Мне сніцца сон.**
**Мне сон аб Беларусі.**
**Сон аб табе.**

А вось як гучаць гэтыя радкі па-ўкраінску.

**Сон мені сниться. Вік були в розлуці,**
**І тьмяне в сні обліччя повстае.**
**Змарнілої, скаліченої груші?**
**Усохлої, пожовклої**
**берези?**
**Чиїсь іще мо віболені риси**
**Мені ввижаються?**
**Сню Беларусь я.**
**Я сню тебе.**

Да каго гэты зваротак, чытач, больш-менш блізка знаёмы з беларускай літаратурай, а канкрэтней з нашым творчым асяроддзем, лёгка здагадацца. Тым больш, што ў адным з наступных вершаў ёсць і больш прывязаныя, так сказаць, да самой "дакументальнай асновы" развагі: "Астрашыцкі Гарадок і Прылукі. // Твой выток і твой грудок. // Ад пачатку толькі крок да разлукі. // Толькі хвіля. І ўжо смерк, // І знікае голас, смех, І дазвання". Гэтаксама не так складана адчуць адрасатаў іншых прысвячэнняў. Для прыкладу вось гэтага: "Ёсць Беларусь, і ёсць у нас Адэса. // І мы з табою двойчы землякі. // Твой брат застаўся ў Быкіўнянскім лесе. // Ля Кіева застаўся навякі". Ды і ў асобных выпадках М. Львовіч сама называе прозвішчы тых, каму адрасуе твор.

Аднак, думаецца, справа зусім не ў гэтых прысвячэннях, хоць, несумненна, яны ў творчасці паэтэсы дазваляюць зразумець многае. Куды важней, наколькі ў вершах М. Львовіч прысутнічае сама тэма Беларусі і як аўтару ўдаецца, праз, здавалася б, асабістае, а магчыма, і прыватнае, перайсці да значных абагульненняў, адчуваючы сам беларускі дух, а праз яго разумеючы, спасцігаючы і нанава адкрываючы (каторы раз!) беларускую душу. І пры гэтым заўсёды адштурхоўваючыся ад фактаў асабістай біяграфіі, бо, калі лепей разабрацца, усё ў гэтым свеце самым цесным чынам звязана і нават перакрыжавана.

Асабліва, калі звязана з падзеямі, якія ламалі, а то і перайначвалі людскія лёсы:

**Вясна дзевяцьсот трыццаць трэцяя.**
**Горад Адэса.**
**Я прыйшла. Я на зямлі.**
**Меўся быць маім горадам**
**Гомель.**
**Нарадзіла мяне гора. Ды прыйшла.**
**А яны голадам —**
**у зямлю сышлі.**

1933-ці год — год нараджэння М. Львовіч, але ж гэта і той страшны год, які нёс з сабой голад мільёнам людзей. Толькі некалькі радкоў у вершы, але як шмат сказана імі! Шмат, бо перш чым з'явіліся яны, была неймаверна цяжкая праца душы, што так многа пакутавала, выслухоўваючы расказы пра той страшны год. Быццам сама прайшла праз тое галоднае пекла.

І як само сабою зразумелае — наступны верш. Таксама не такі і вялікі, ды надзіва напоўнены думкай. І гэтаксама — пра страшнае, жудаснае:

**Пралеска белая, барвяны грыб —**
**такія Курапаты напрадвесні,**
**Як глянеш — жудасна.**
**Найначай кроў гарыць. На снезе.**
**А курапатамі ў народзе завецца**
**белапралескавае пялёсце.**
**Стралялі ў трыццаць сёмым.**
**Пралілося — барвянае.**
**Што ні прадвесне,**

**Пралеска белая, барвяны грыб.**
**Барвяныя на белым снезе росы.**
**То наша кроў гарыць.**
**То наша кроў на целе Беларусі.**

Ёсць у кнізе і іншыя вершы, у якіх М. Львовіч адштурхоўваецца ад уласна пеpажытага. Скажам, зведанага ў Казахстане, дзе ёй давялося апынуцца ў час вайны. І, як гэта ўвогуле характэрна для паэтэсы, ёй часам дастаткова аднаго штрыха, каб дакладна перадаць той унутраны трагізм людзей, якія былі пазбаўлены роднага котлішча.

Зноў жа — усяго тры радкі. Самая што ні ёсць проза будняў (а таму і адпаведная структура верша) і — боль, боль, боль... Яго нельга не адчуць:

**У Алзе дзед Айзік па-свойму,**
**мовай ідыш, гутарыў з коньмі.**
**Усю соль яе,**
**усе тонкасці адчувалі конікі.**
**Са Сваім НЯШЧАСНЫМ**
**ЖАРГОНАМ дзед мой ішоў —**
**да коней.**

Па-свойму ўдаецца М. Львовіч дакрануцца да тых старонак беларускай гісторыі, якія яшчэ нядаўна заставаліся сумнавядомымі "белымі плямамі". З гэтага шэрагу — верш, у якім ажывае воблік Палуты Бадуновай, што, як вядома, уваходзіла ва ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі.

І, вядома ж, не мінула кнігу прысутнасць Чарнобыля.

Такое яно, "Цяпельца" М. Львовіч. Саграваe, абуджаючы лепшыя пачуцці і згадкі. Запалена яно чалавекам адкрытым і па-сапраўднаму ўлюбёным у Беларусь.

А. АН-ЕВІЧ

# МОЙ ПОГЛЯД НА ДЭПУТАТА

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

лічу, неабходна ставіцца да ўчарашніх і сённяшніх камуністаў. У іх было амаль тры чвэрткі стагоддзя, каб паказаць, на што яны здатныя. Да чаго прыйшлі, усім добра вядома. Што ж датычыць былых камуністаў-функцыянераў, дык ледзь не кожнаму з іх павінен быць пастаўлены надзейны шлагбаум на шляху да заняцця адказнай дзяржаўнай пасады. Яны дзесяцігоддзямі займаліся разбурэннем беларускага нацыянальна-культурнага жыцця **і дасягнулі ў гэтым небывалага для іх калег з іншых саюзных рэспублік "поспеху". Цяпер гісторыя дала нам шанц — толькі не апошні, а чарговы — на месцы дашчэнту разбуранага нацыянальнага дома ўзвесці новы. І, зразумела, кіраваць ходам гэтай стваральнай працы не могуць тыя, хто займаў высокія дзяржаўныя і партыйныя пасады, калі мэтанакіравана вялася дэнацыяналізацыя нашай эканомікі, культуры і быту.**

Калі не цалкам перагарадзіць, дык усё ж варта праз вельмі густое сіта прапускаць у новы Вярхоўны Савет дэпутатаў папярэдняга склікання. Больш як на "тройку" нельга ацаніць іх працу ў парламенце. **У тым, што сёння Беларусь па многіх паказчыках сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця знаходзіцца на апошніх месцах сярод краін СНД, немалая віна і дэпутатаў. У якасці ўзнагароды можна толькі тым з іх даць дарогу ў новы Вярхоўны Савет, хто за час працы ў ім навучыўся гаварыць па-беларуску, бо такія людзі вельмі патрэбныя, каб нарэшце нармалізаваць моўны рэжым у час правядзення сесій.** Нейкую скідку пры новых выбарах можна даць і тым былым дэпутатам, хто не пабудаваў для сябе і сваіх дзяцей дыхтоўнага катэджа, не набыў дарагога сучаснай маркі аўтамабіля. Мае прапановы па істотным абмежаванні прыходу ўчарашніх дэпутатаў у склад новага Вярхоўнага Савета грунтуюцца яшчэ і на тым, што ў нас цяпер вельмі вялікі лік кандыдатаў на адзін дэпутацкі мандат. Чаму ж пераважна з іх не выбіраць новы склад Вярхоўнага Савета? Апора на свежыя сілы часта прыносіла карысць.

Нам асабліва ўважліва і крытычна трэба паставіцца да такой недарэчнасці, як дэпутацкая недатыкальнасць, бо, як вядома, многія былыя абраннікі ўчынілі столькі парушэнняў заканадаўчых норм, што проста жах бярэ, а сельскія, раённыя (гарадскія), абласныя і рэспубліканскія Саветы ледзь не кожнага з іх бралі пад сваю надзейную абарону. У такіх выпадках не абараняць, а караць трэба дэпутата, **прычым у два-тры разы больш жорстка, чым радавога члена нашага грамадства. Практыка выпрошвання ў Саветаў усіх рангаў згоды на прыцягненне да судовай ці адміністрацыйнай адказнасці іх дэпутатаў, як нішто іншае, садзейнічае росту рознага роду крымінальных учынкаў сярод тых, хто, наадварот, павінен быў паказваць астатнім прыклад сумленных адносін да ўсталяваных у грамадстве законаў і правілаў.** Далей. Нельга, каб у такой беднай краіне, як наша, дэпутат атрымліваў заработную плату ў два-тры разы больш высокую, чым у сярэднім па народнай гаспадарцы. **У радавога дэпутата Вярхоўнага Савета аклад павінен быць на ўзроўні кандыдата навук, старшыні пастаяннай камісіі — доктара навук. Разумным было б забараніць дэпутату на працягу ўсяго тэрміну выканання сваіх абавязкаў займацца пабудовай катэджа для сябе ці дзяцей, на што раней часта незаконна выкарыстоўваліся дзяржаўныя сродкі.** Трэба было б, каб дэпутат штогод адзін раз рабіў грунтоўную справаздачу перад выбаршчыкамі і атрымліваў ад іх адзнаку па пяцібальнай сістэме, аб чым затым дакладваў Вярхоўнаму Савету. Трэба пастарацца зрабіць так, каб у абранай у дэпутаты асобы абавязкі пераважалі над правамі, клопаты — над прывілеямі. Тады ў дэпутаты пойдуць толькі самыя добрасумленныя людзі.

Майстэрня

# АЛХІМІЯ ЗНАКА



Прамая прабіваецца праз празрыстую прызму прасторы. Дыяганаль дыхае дзікай дынамікай — дзіда! Нямыя нябёсы, няма нічога — нонсенс? Кінутыя ў куток, кулдыбаюць кулістыя крывасці. Цені цікуюць цішком — цёплая цемра, цуд!..

Графічная лексіка аркушаў не перакладаецца на строгую мову акадэмічнага аналізу. Дзёрзкая абстракцыя замешана на знаёмых хрэстаматыйных вобразах. Каложа, Сынкавічы, Нясвіж, Верхні горад, Няміга... Адзін крок да банальнасці, да паўтарэння. Паслухаем аўтара, Рыгора СІТНІЦУ: "Імправізацыя з рытмікай, графічны джаз — вось мая спроба парушыць акадэмічныя схемы. На пачатку 90-х гадоў у маёй творчасці адбыўся рэзкі паварот. Узнікла жаданне асэнсаваць пэўную сваю канцэпцыю, якая б грунтавалася на традыцыі непаўторных 20-х гадоў. Аб'яднаць аб'ектывізм Я. Драздовіча і канструктывізм К. Малевіча ды А. Родчанкі. Дарэчы, апошні — беларус, ягоны род паходзіць са смаленска-магілёўскага памежжа. Так зліліся дзве супрацьлеглыя манеры — супрэматычная кампазіцыя і гіперрэалістычнае выкананне".

Гіперрэалізм малюнкаў Р. Сітніцы не халодны, не раўнадушны, як прынята ў рамках гэтага стылю. Замучаны рэстаўрацыяй Верхні горад сталіцы з ранамі зандажоў на мурах выклікае спачуванне і трывогу. Безаблічная сетка агароджы аднастайным канцылярскім почыркам запаўняе белае поле аркуша. Але які вобраз! "Я прыглядаюся да кожнай цагліны, шукаю на ёй цёплы дотык рук дойліда. Аб'ект набывае рысы знака. Напрыклад, бохан хлеба. Зірніце, задумайцеся, — гэта ж планета з кратэрамі. Хачу ўзняць канкрэтны вобраз да планетарнага".

Дазволім сабе небяспечнае параўнанне з класікай. "Здача Брэды" пэндзля Дзіега Веласкеса — перамога не толькі іспанскай зброі, але й іспанскага жывапісу. Успомнім, што другая традыцыйная назва гэтага ўзору кампазіцыі — "Дзіды". Разам з выразнейшымі партрэтамі ваяроў нечаканае і непараўнальна вобразнае гучанне набывае суровая рытміка дзідаў. У рысунку Р. Сітніцы "Рубон!" вобраз нараджаецца па тых жа законах, толькі ўжо на памежжы абстракцыі. Знішчальныя калючкі ашалелай масай рвуць кампазіцыю, нашае і варожае рыцарства патанае ў нечалавечай стыхіі вайны.

Як жа адбылася рэвалюцыя ў творчасці графіка? Безумоўна, як той казаў, саспела рэвалюцыйная сітуацыя. Выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1982), Р. Сітніца развіваўся, па ўласным прызнанні, пад уплывам свайго педагога Уладзіміра Савіча. Кубістычныя матывы пачалі крышталізавацца пазней. Ад першых малюнкаў і літаграфій да прарыву ў цяперашняе дзесяцігоддзе — дыстанцыя ў некалькі светлавых год. І вось у поўны рост устаў у беларускім мастацтве арыгінальнейшы графік. "А атрымалася неяк выпадкова, — прызнаецца Рыгор. — Я трапіў на Кракаўскае трыенале графікі. Сярод іншага быў уражаны творамі японцаў, дзе пры ўсёй прыгажосці камп'ютэр робіць амаль усё. Мая рэакцыя была адваротнай. Зразумеў тады, што ніякая машына не ўратуе. І вырашыў працаваць у самай прымітыўнай тэхніцы — алоўка".

Асляпляльная сіла фрагментарнай кампазіцыі адкрываецца ў нізках "Шпацыр уздоўж паркана" і "Станцыя метро "Няміга". Амплітуда вобразаў шырокая: ад захаплення банальным куточкам вясковай вуліцы на роднай Петрыкаўшчыне да трагічнага сутыкнення сівой мінуўшчыны і падчас легкадумнага сёння будаўніцтва сталічнай падземкі. Сапраўды, трэба моцна любіць аловак, каб гэты сентымент перадаўся й гледачу.

Рыгору Сітніцу — 37 год. Узрост здзяйснення. Будзем спадзявацца сустракаць ягоныя новыя творы — пульсуючыя цэнтры любой выставы.





**Валеры БУЙВАЛ**

*На здымках: мастак Рыгор Сітніца і яго работы з серыі "Верхні горад".*
*Фота А. МАЦЮША*

# "СОНЦА" Ў ВІЦЕБСКУ

## ЗАЦЕМКІ НЕАБЫЯКАВАГА ВІДАВОЧЦЫ

Надвор'е і кошт лютаўскіх чыгуначных білетаў ад Мінска да Віцебска не адбілі жаданне ў групы мастакоў, мастацтвазнаўцаў і студэнтаў наведаць старажытны беларускі горад над Дзвіной. Была сярод нас і дырэктар сталічнай галерэі сучаснага мастацтва. Вандроўка была задумана яшчэ ў мінулым годзе і за гэты час не адбылося нічога такога, што прымусіла б нас адмовіцца ад свайго плана. Падставы ж для паездкі былі вельмі значныя.

Сцены віцебскіх дамоў, на вялікі жаль, не захавалі слядоў авангардысцкіх эксперыментаў 20-х гадоў. Даўно сцёрты кругі, квадраты, трохкутнікі, што складалі калісьці запамінальныя супрэматычныя "фіеры". Адкалупленыя народам кавалкі элементарных роспісаў каштавалі б сёння, напэўна, даражэй за рэшткі берлінскай сцяны. Гісторыя сваёй лютасцю пазбавіла нас магчымасці быць сведкамі вар'яцкай "утылізацыі-распродажу". Здавалася б, натуральная з'ява — мастацтва павінна своечасова пераходзіць у іншы статус — музейны; стаць прадметам бестэрміновага даследавання, асэнсаваным штуршком для практыкі будучага, а не спекуляцый. "Вялікія утопіі", не прызнаныя на месцы свайго нараджэння, не стаўшыя бачнай часткай культуры, штучна выштурхоўваемыя з ланцуга пераемнасцей — танны грунт бясконцай правінцыйнай міфа-дэмагогіі. Высокаму сцвярджальнаму духу патрэбны адлаведны вобраз архітэктуры, адкрытае акрэсленне сваіх прэтэнзій і мэт.



...У мінулым 1994 годзе свет адзначыў 75-годдзе БАЎХАЎЗа, падвёў пэўныя вынікі яго ўплыву на культуру XX стагоддзя. Буйныя і малыя выданні ў розных краінах прысвяцілі гэтай з'яве багата радкоў. Прайшло і для нас таксама 75 год, як у лютым 1920 года ў Віцебску па ініцыятыве Казіміра Малевіча ўтварылася аб'яднанне УНОВІС (Сцвярджальнікі новага мастацтва). Германскае і віцебскае аб'яднанні мелі ў сваёй аснове шмат блізкага, але, на вялікі жаль, у нашай краіне вынікі гэтай гадавіны не такія радасныя. Таталітарная культура не спрыяла шырокаму развіццю мастацкіх прагрэсіўных ідэй, дэклараваных авангардам, не дазволіла творча развіць наватарскі погляд на асэнсаванне традыцый. Сённяшняе замілаванне "дасягненнямі" савецкай культуры, выдраных з агульнага кантэксту, выглядае самарэкламай, спробай вярнуць так і нерэалізаванае манапольнае права кіраваць сучаснай культурай дзеля асабістага дабрабыту і нездаровых амбіцый. Але не трэба вельмі шматузроўневага аналізу, каб пераканацца, што тыя краіны, якія не пагрэбавалі эстэтычнымі навацыямі ўсходнееўрапейскага авангарда, стварылі сваімі сіламі з яго дапамогай сапраўдныя і даступныя культурныя каштоўнасці. Вядомы прафесар архітэктуры сіднейскага універсітэта, наведаўшы Мінск, ніяк не мог зразумець пасля знаёмства з архітэктурай 20-х гадоў А. Лаўрова, чаму на Беларусі нічога не пабудавана ў стылі Nouveau, а сілікатная цэгла так шырока выкарыстоўваецца для будаўніцтва на вёсцы, разбураючы традыцыі экалагічнага жылля, назапашаныя архітэктурай к канцу XX стагоддзя. Наша культура была доўгі час абмежавана не толькі ў зваротных сувязях, але і штучна пазбаўлялася магчымасцей развіваць натуральнае, уласнае.

...Наша экспедыцыя, падрыхтаваная па ініцыятыве Галерэі сучаснага мастацтва "У Пушкіна" і колам яе мастацтвазнаўцаў, хацела ўбачыць горад у яго звычайны дзень, не фестывальны, падобны на той, калі ўтварыўся сусветнавядомы УНОВІС. Загадзя была падрыхтавана афіша, прадуманы сцэнарый. Прыйшлося, праўда, уносіць карэктывы з-за немагчымасці выкарыстоўваць памяшканне самой галерэі. Напярэдадні нашага прыезду нічога не сведчыла аб падрыхтоўцы нейкіх афіцыйных мерапрыемстваў. Вакзал сустрэў нас ранішняй лютаўскай цемрай і вільгаццю. Даволі шмат людзей манеўравала па мокрым пероне, абвешаныя клункамі незвычайных памераў і колькасцю гранічнай з логікай сапрамату. Для нашых вакзалаў гэта стала звыкла і ніхто на тое не звяртае аніякай увагі. Мастак з "сонцам" у руках толькі выклікаў раздражненне: "...ідзі ты са сваім сонцам...", "...на вакзале сонца не павінна быць!". Думаю, што віцебскі вакзал прынцыпова не змяніў свой вобраз у параўнанні з часам прыезду Казіміра Малевіча. Шкада, што тагачасныя мастакі амаль не пакінулі пісьмовых запісаў аб сваіх назіраннях.

...Каля 7 гадзін раніцы мы былі недалёка ад ратушы. На будаўнічых платах пачалі сустракацца плакаты з паведамленнем аб юбілейнай мастацкай акцыі. Адчувалася, што некаму не падабаецца назва галерэі — арганізатара святкавання. Амаль на кожнай напярэдадні расклеенай афішы, метадычна быў абарваны лагатып галерэі. Бой ратушнага гадзінніка абудзіў гарадскіх сабак, вярнуў ад сумных роздумаў да галоўнай мэты паездкі — адзначэнню гадавіны сцвярджэння Новага мастацтва.

На працягу дня кожны з нас выконваў свой асабісты план, але так сталася, што шмат часу, не пакідаючы працы, шпацыравалі адной кампаніяй. Калектыўна намаляваная эмблема УНОВІСа (чорны квадрат, заключаны ў кола) нейкі час лунала над паспешлівым натоўпам. Слухаючы і аналізуючы пытанні і рэплікі адносна сімвала, высветлілася, што гэты "квадрат" тут малавядомы — часцей яго прымалі за знак нейкага палітычнага альбо рэлігійнага руху. Сярод дня мастакам і мастацтвазнаўцам было прапанавана за пяць хвілін пакінуць вуліцу Праўды (што засталася ў гісторыі беларускага авангарда як Бухарынская).

...Усе ўдзельнікі мелі чыстыя аркушы паперы, дзе можна было занатоўваць свае назіранні, словы прахожых, рабіць малюнкі і г. д. Вялікая нагрузка выпала і на фотаапаратуру.

А 17-ай гадзіне ў святочна аздобленай зале ратушы пачаўся заключны этап нашага дня. Запоўненыя старонкі былі прадстаўлены гледачам і сабраны ў адзін сшытак, які атрымаў назву "Фармат". Вокладка для гэтага рукапіснага выдання была падрыхтавана загадзя ў Мінску. Нулявы нумар, на наша задавальненне, не аказаўся выключна сталічным — у яго ўвайшоў малюнак віцебскага мастака А. Пушкіна і старонка рэжысёра А. Грышкевіча.

На вячэрнім "АРТУНОДЫСКУСе" са змястоўнымі дакладамі выступілі крытыкі Я. Шунейка і П. Васілеўскі. Яны зрабілі аналітычны агляд мастацкага жыцця рэспублікі пасля ўтварэння УНОВІСа, акрэслілі месца гэтага аб'яднання ў станаўленні сучаснай культуры. Шмат спадзяванняў было выказана на перспектывы творчых працэсаў, не падпарадкаваных штучнай каардынацыі, было прапанавана весці цывілізаваны дыялог паміж рознымі поглядамі на шляхі развіцця мастацтва.

Найбольш яркай старонкай вечара была прэм'ера оперы-хэпенінга "ПЕРАМОГА НАД СОНЦАМ" у двух "дзеймах", падрыхтаванай спецыяльна для Віцебска да святкавання 75-годдзя сцвярджэння Новага мастацтва на Беларусі. Хэпінгіанты (І. Кашкурэвіч, У. Зленка, А. Логінаў, І. Зелянкова) знайшлі адпаведную часу выразную форму трансфармацыі феномена 20-х гадоў. Опера стала кульмінацыяй усёй нашай праграмы. Вобразы, панаваўшыя на маленькай непрыстасаванай сцэне, былі надзвычай выразнымі, максімальна насычаныя энергіяй, сабранай удзельнікамі на працягу ўсёй падрыхтоўкі да прэм'еры. Аўтарамі не ставілася мэта аднаўлення аднайменнай пастаноўкі А. Кручоных, што адбылася ў Віцебску ў лютым 1920 года. Пошук новых кантэкстаў, уласцівых эстэтыцы пост-мадэрна, наўмысна падкрэсліваўся. "Перамога" была больш чым пераканаўчая. Рукапіс сцэнарыя оперы-хэпінінга быў урачыста перададзены "Фармату". Пасля прэм'еры са сваімі меркаваннямі выступалі ўсе жадаючыя.

...Блізіўся час вяртання ў Мінск...

**Міхал БАРАЗНА**

**АД РЭДАКЦЫІ.** Так і просіцца дадаць, прачытаўшы незакончаную апошнюю фразу зацемак, што Віцебск і пасля гэтай падзеі застаўся з усё тымі ж амбіцыямі і незразумелай фанабэрыяй, з вялізнымі і падчас неабгрунтаванымі прэтэнзіямі да Мінска. Думаецца, ніхто не збіраецца адбіраць у Віцебска права на многія славутыя імёны, скасоўваць фестывалі і пленэры, ніхто не зачыняе мастацка-графічны факультэт педінстытута, не замінае культурнаму жыццю горада. Наадварот, багатая толькі тая краіна, дзе развіваецца не толькі сталіца, але і правінцыі, тым больш, што само слова "правінцыя" нідзе ў свеце не выклікае такіх ганебных адценняў, як у нас. Таму Віцебск хочацца падтрымаць, дапамагчы і не толькі грашыма, але і ідэямі, асабістым удзелам. Мабыць, так і нарадзілася акцыя адзначэння гадавіны УНОВІСа, тым больш, што з боку віцебскай інтэлігенцыі ініцыятывы не было. На жаль, шараговыя віцебчукі свята гэта ўспрынялі з адназначнай абыякавасцю і непаразуменнем, выказанымі на вуліцах імі самімі ды рознымі міліцэйскімі чынамі. Што ж датычыць мастакоўскіх колаў горада славутага авангардыста, яны не столькі дапамаглі наладзіць акцыю, колькі дадалі сталічным гасцям няўтульнасці і адчування непажаданасці. Да святкавання "УНОВІСаўскага" юбілею ані віцебская, ані сталічная прэса так і не звярнулася за мінулыя з таго часу паўгода. Таму наша рэдакцыя (згадваючы гучнае святкаванне, напрыклад, юбілею БАЎХАЎЗа ў Германіі) палічыла магчымым і нават неабходным распавесці пра лютаўскія падзеі.

Чым будзе далей жыць Віцебск, пакажуць бліжэйшыя пленэры. Хочацца спадзявацца, што яны, хай сабе пазначаныя Віцебскам, па сутнасці будуць усё ж агульнанацыянальнымі, агульнабеларускімі.

*На здымку: удзельнікі віцебскай акцыі — А. Пушкін, І. Кашкурэвіч, П. Васілеўскі, А. Логінаў.*
*Здымак М. БАРАЗНЫ*

# САША

(Працяг. Пачатак на стар.9)

Саша матанула хвастом, павольна і неахвотна ўстала, схіліўшы галаву, штурханула галавою весніцы, якія потым доўга яшчэ матляліся туды-сюды, як маятнік.

Цяпер мы былі знаёмыя. Маю прыяцельку звалі Саша. Яна пайшла дадому, а я засталася. Але сядзець было халаднавата, і я пачала нервавацца, што марна губляю час, а ў мяне яшчэ не заканспектаваны "Капітал". На яго перапісванне далі месяц, а ён — скончыўся. І сціплы, нават нейкі сарамлівы выкладчык эканомікі неаднойчы падыходзіў да мяне і пытаўся, калі я здам канспект. Я выняла з сумкі салідны том, разгарнула...

З-за плота пачуўся незадаволены сіпаты голас. Чалавек у двары бубнеў раздражнёна, потым голас яго паграмчэў, наліўся моцаю злосці: "Не жарэш, сука, не наравіцца! Выхвараеш, будзеш есці".

У адказ Саша толькі сцішана заскуголіла, зусім-зусім ціха, затоена. Можа, ён выцяў яе нагою ці балюча тузануў за вуха. А можа, абраза, папрок гэтак балюча пеканула яе?

"Смачнага захацела? Не зарабіла..." І ў дадатак — крутыя салёныя словы. Я не магу іх паўтарыць, язык не здолее выгаварыць. Ведаю толькі, што словы тыя абражалі, ганьбілі яе "жаночую" годнасць.

Саша хуценька выбегла з двара, весніцы толькі рыпліва ўскрыкнулі, заматаліся. А яна (ці ад знявагі, ці ад яды яе гэтак занудзіла) тыцнулася носам у трыпутнік каля плота і дых яе перахапіла, ажно падцягло жывот. Яна давілася слінаю, нешта шукаючы каля плота, тыцкаючыся носам у траву, потым пабегла на другі бок, да крамы, дзе буялі дзьмухаўцы і шарэў, бы абдало яго дарожным пылам, палын. Лапы яе калаціліся, дрыжэлі. Урэшце яна аслабела апусцілася на траву, але працягвала нешта шукаць, і, здаецца, знайшла нейкія лекі і, лежачы, далікатна забірала ў рот і жавала вузкія перы пырніку. Я падышла да яе.

"Што з табою, Саша? Ты хварэеш?"

Яна зірнула на мяне, нібы не пазнавала. Вочы яе былі вільготныя, у іх іскрыліся слёзы. Яна плюснула вачыма, скідаючы іх налёт. Устала, атрэслася, агледзела сябе, як аглядае сябе прыгажуня, ці не змялася сукенка, прыўзняла звіслы плёткаю хвост, часанула ім па ветры, расправіла махры. І зноў сядзела, годна прыўзняўшы галаву. Я адчувала, яна харахорыцца, а самой, відаць, нядобрыцца.

На парозе крамы стаяла ўжо некалькі пакупнікоў. Мясцовыя, тутэйшыя з гэтых хат. Яны перагаворваліся між сабою, нават пасмейваліся. Мусіць жа, з мяне. Маўляў, стала і гаворыць з сабакам. Адна жанчына нават сказала голасна, адказваючы замест Сашы на маё пытанне:

"Ды што з ёю, з сучкаю, можа быць? Адмясіў учора Аркадзь".

І ўжо, не зважаючы на мяне, яны гаварылі між сабою пра Сашу, пра Аркадзя, яе гаспадара.

"А пабіў ён Сашу за тое, што ўвечары нейкія падшыванцы атрэсвалі яблыню, а яна нават не брахануla".

"А што з іх, з гэтых пародзістых? Сама лепш — добры злы дварняк".

"От, у Грышкі сабака... Нямецкая аўчарка. Я, бывала, да іх часцяком заходзіла, а зараз ужо і не хаджу. Баюся..."

"Мы б таксама якога ваўкадава ўзялі. А што ж, машына ў двары..."

"Цяперака ўсялякага народу тут ходзіць, гэта не раней".

"Так, добры сабака на ланцугу — спакайней".

"Чужы чалавек ідзе — чуеш... Толькі, канешне, не гэтыя догі, бульдогі. У іх хоць і морды страшныя, але яны дураслівыя".

"Іванавіч свайго сабаку застрэліў. А што з яго карысці. Прывык з хлапчукамі дурэць змалку, дык і потым, абы падлетка ўбачыць — дурэць. Нашто такі сабака".

"Глядзі, сядзіць дзень у дзень ля весніц, бы чакае каго. І ніколі не брахане".

"Я і Аркадзю гаварыла: вазьмі гэтую сваю Сашу на ланцуг, хай пасядзіць крыху, ды цкуй яе".

"Няможна, кажа, яна пародзістая — інтэлігентная, далікатная".

"Ат, з гэтымі інтэлігентамі! Што людзі, што сабакі — аднолькавыя".

Магазіншчыца адчыніла крамку. Жанчыны зайшлі гуртам і гэтак усе разам прыляпіліся да прылаўка. Тым самым даючы магазіншчыцы права самой выбраць, каго абслугоўваць першую. І тая, якой адпусцілі ўжо хлеба і цукру, не збіралася выходзіць з крамкі, толькі крыху пастаранілася. Нешта падобнае я назірала ў вясковых магазінах, якія былі асяродкам інфармацыі, згусткам навін, своеасаблівым парламентам, дзе ўздымаліся і падалі аўтарытэты мясцовых жыхароў. Няхай гэта чалавек, мужчына, жанчына ці нават сабака, як зараз. Яны працягвалі свае размовы. А гэтае, апошняе заключэнне пра інтэлігентаў і сабак проста шакіравала мяне. Я не магла зразумець схаваны падтэкст і праведзеныя паралелі, якія па законах фізікі непазбежна перакрыжоўваюцца ў бясконцасці. Я не магла зазірнуць туды, а вось гэтая жанчына, грубаватая і зласлівая, ведае тое скрыжаванне. Мусіць, у мяне таксама, як у Сашы, штосьці было не так з пародаю, бо я, стоячы ззаду, ніяк не магла дазнацца, хто з іх апошні. На мае пытанні яны толькі паціскалі плячамі і пазіралі адна на адну. Не магла я іх і расштурхаць, дастацца да прылаўка, узяць бохан хлеба і падацца канспектаваць "Капітал" Маркса.

Нешта і ў мяне было, мусіць, не так з пародаю, калі я не магла ніколі сказаць чалавеку "ты". Для гэтага мала было, як кажуць, пуд солі з'есці, для гэтага трэба было перайсці нейкую невідочную, глыбокую і вельмі небяспечную бездань. На гэтай зямлі лічаныя людзі, якім я магу сказаць "ты". Можа, таму заўсёды адчувалася супрацьстаянне. Здаецца, і жыла ў калектыве, а здаралася, і не раз, што яны аб'ядноўваліся і бэсцілі, і ганілі мяне гуртам, як вось гэтыя жанкі Сашу. Я шкадавала Сашу. Ёй, такой моднай пані, такой прыгожай і далікатнай, даводзіцца цярпець абразы і пабоі, жыць у бядоце, агінацца ў цёмныя халодныя ночы пад плотам, як бяздомнай, ці курчыцца ў цеснай будцы.

Я чакала, пакуль атаварацца жанчыны, паволі падступаючыся да прылаўка, слухаючы іх размовы. Узяла бохан хлеба і выйшла з магазіна. Саша стаяла каля ганка, чакала мяне. Я адшчыпнула акрайчык і працягнула ёй, пачаставала.

"Яна не будзе есці, — сказала мне ўсмешліва жанчына, што выйшла ўслед за мною. — Інтэлігентка".

Саша, можа, каб не пакрыўдзіць мяне, асцярожна, губамі ўзяла з рук хлеб. Але — сапраўды — есці не стала. Асцярожна паклала на траву. Вочы, узнятыя на мяне, пазіралі вінавата, просячы прабачэння.

"Ну, во бачыце... І нашто ён трымае гэтую сучку".

"Яна ж нікога не крыўдзіць". (Я хацела абараніць Сашу.)

"Не крыўдзіць, але і не абароніць".

Я крыху злавалася на гэтую жанчыну: якой, ад каго абароны яна чакае?

●

Да доктара я, канешне ж, адразу не пайшла. Думалася: пабаліць ды і перастане, абы палому не было. Ды не хацелася адпрошвацца з заняткаў. А нага разбрыняла. Боцікі — хоць разразай. Прыйшлося ўсё ж звярнуцца да доктара. І жанчына-хірург дакарала, нават сварылася на мяне, маўляў, так я лезу ў кіраўнікі, што гатова скакаць на адной назе! Не ведала яна, ды і я змоўчала, не стала яе пераконваць, што ніякай пасады мне не свеціць. Мяне проста "кінулі" на перавыхаванне. Наступіў такі час, што мы пачалі як бы прачынацца, хутчэй — прыходзіць у прытомнасць, азірацца, не пазнаючы і не прызнаючы свет, у які патрапілі, задавалі пытанні, спрачаліся з начальнікамі, а галоўнае — выказвалі свае думкі. І сярод тых, яшчэ спячых і пакорлівых, выглядалі чужымі і небяспечнымі, як тэрарысты. Але гаворка не пра тое. Нага мая доўга балела. І цяпер незалежна ад таго, быў у мяне дома хлеб ці не, я прысаджвалася на лаўку адпачыць.

●

Я сядзела на лаўцы. А побач, на зямлі — Саша. Здавалася, яна думала нейкую сваю нязвыкла для сабакі доўгую думу. Маршчынкі на яе гладкім ілбе то збіраліся ў раўчукі, можа, яна сілілася ўспомніць штосьці, нейкае іншае жыццё, ці пахі — дзіўныя, знаёмыя да болю пахі — бо ноздры яе трапяталі, а можа... Можа, нешта жахлівае — пабоі, напрыклад, бы час ад часу ўздрыгвала, бо наяве бачыла нешта страшнае ці перажывала яго.

"Ну, што ты задумалася?" — спытала я. І Саша ўзрыгнула. Мусіць, ёй стала няёмка, вочы яе, затуманеныя самотай, прасілі даравання. Яна падышла да мяне, ткнулася мордаю ў мае рукі, падставіла лабаціну пад далонь — прасіла пяшчоты. Трымаючы галаву на маіх каленях, знізу ўверх зірнула мне ў вочы. Мусіць, таксама пыталася: а як у цябе? А ў мяне таксама было кепска на душы. І галоўнае, пра гэта нельга было нікому расказаць. Хіба толькі ёй, Сашы, калі б яна разумела і магла мне паспачуваць. Ці выслухаць і не палічыць мяне вар'яткай. Усё, што я чытала, вучыла, усё болей расчароўвала мяне, сеяла недавер. І чым далей — тым болей. Я не ведала, як жыць, калі ты нічому не верыш. Калі не бачыш будучыні. Вялікай будучыні, светлай, для ўсіх людзей. Я так была выхавана — сваё, маленькае — не брала ў разлік. І цяжкія хмары расчаравання навісалі нада мною. Тое, што я чытала ў кніжках, павінна была завучваць і паўтараць на семінарскіх занятках і экзаменах, магло хіба што задаволіць бяздумнага чалавека. Не, мне было мала, што сказаў той ці іншы класік. Напрыклад, Энгельс сказаў, што чалавек стаў істотай разумнай, таму што стаў харчавацца мясной ежай. Гэта тэорыя выклікала ў мяне непрыняцце. Я здзекавалася з яго тэорыі. Пыталася ў выкладчыцы філасофіі: што ж будзе з намі? У краіне няма мяса, калі мы яго не будзем ужываць — значыць, дэградуем. І яна чырванела і не ведала, што сказаць, бо ніхто за дваццаць гадоў яе работы, штудзіравання класікаў марксізму-ленінізму не задаваў ёй такіх "дурных" пытанняў. І, канечне, яна думала, што я крыху ненармальная. Ды, пэўна, у мяне сапраўды нешта было з галавою, я ніяк не магла зразумець, а тым больш пераказаць артыкул ці прамову генеральнага сакратара. Можа, і з іншымі было так, бо мы пачалі ўслых пагаворваць: навошта гэта нам? А ў адказ чулі ад нашых выкладчыкаў: маўляў, гэта развіццё марксізму-ленінізму на сучасным этапе. Іншым словам, як этап, той час і нельга было назваць: мы панура пад прынукай гуртам брылі ў светлую будучыню. "Вожди" нашы былі старыя і нямоглыя... Яны, мусіць, забыліся, ці проста не ведалі дарогі, куды нас вялі. Мы ж бесклапотна пасмейваліся і расказвалі пра іх анекдоты. Тым не меней набліжаўся час, калі мы павінны былі дасягнуць мэты. Зіма-лета, зіма-лета і год васьмідзесяты, а есці, піць, абуваць і апранаць няма чаго, дэфіцыт. Але ўсе рабілі выгляд, што так і павінна быць. Толькі прафесар гісторыі, калі пытаўся фармуліроўку камунізму, дадзеную дваццаць чацвертым з'ездам, раздражняўся і наперад папярэджваў: "Толькі гаварыце мне да коскі, не ведаю, не ведаю я, адкуль пальюцца багацці патокам..."

І сумна мне было... Тое, што не было каўбасы і масла, ды і хлеба ўдосталь, было для мяне не страшна: гэта мы ў сваім жыцці праходзілі. Страшыла мяне іншае...

Я дастала з сумкі (Саша назірала за мною) танюсенькія кніжачкі "Воз-

## "ЧАС І МЕСЦА"



Аўтарская некамерцыйная канцэптуальная галерэя "Брама", якая спрабуе паяднаць розныя віды мастацтваў, і ў новай сваёй экспазіцыі апынулася на тонкай мяжы паміж паэзіяй і жывапісам. Выстава "Час і Месца" задумана як пластычны эквівалент паэтычнага слова.

Экспазіцыя нечакана ўзнеслася пад своды тэатра, каб прымусіць гледача хоць на імгненне расправіць плечы, закінуць галаву, удыхнуць Неба, адчуць самакаштоўнасць кожнай светлай плямы Жывапісу...

Самы час і месца гэта зрабіць.

Час і Месца — катэгорыі невычарпальныя. Калі цыкл паэтычных сустрэч дае вярбальнае выяўленне іх, то візуальны, пластычны вобраз гэтых катэгорый нараджае жывапіс трох мастакоў — Наталлі Залознай, Віктара Саўчанкі і Валерыя Песіна.

Як вядома, яшчэ ў сярэднявеччы хрысціянства патрабавала ад мастацтва мовы ўмоўнай. Ступень абагуленасці ў Наталлі Залознай дасягае мовы знакаў, якія нараджае трапяткое пачуццё архаікі. Знакі ўладараць у прасторы, абазначанай колерам, пазбаўленым плоці. Пластычнасць апераджае змест і пераважае над ім. Н. Залозная — майстар імправізацыі. Пры гэтым кола яе тэм дастаткова выразна азначана, як правіла, паміж пошукамі Духу і жыццём уласнай душы.

Колер яе работ раўнамерна, няспешна залівае вялікія плоскасці, дзе хістка і фрагментарна, як і ў памяці, выхопліваюцца вобразы дзяцінства, эпізоды падзей, абрысы рэчаў, абрыўкі фраз. Колер аскетычны і стрыманы, часам да супрацьлегласці белага і чорнага. Жаданне вызваліцца ад аб'ёмаў і матэрыяльных форм падштурхоўвае мастачку да ачышчэння ад кантрастнасці самой фарбы, жывапіснага мазка.

Але галоўны персанаж большасці яе палотнаў — прастора, рознычасовая, рознахарактарная, якая лёгка перакладаецца на мову гукаў, слоў, колеру. У гэтай прасторы свабодна цячэ час, абмінаючы астравы памяці, міфаў, вобразаў...

Час Віктара Саўчанкі быццам спыняецца, камянее, набывае плоскасць, на якой мінулае пакідае свае матэрыяльныя, асязальныя адзнакі.

Пластычныя матывы Валерыя Песіна ўзнікаюць і існуюць па-за часам і прасторай, яны нібы запаўняюць вечна нязлучнае між імі.

Ларыса ФІНКЕЛЬШТЭЙН

*Н. Залозная. Верш.*

## У СТУДЫІ "СКАРБОНКА"



Ва ўзорнай студыі "Скарбонка" Салігорскага цэнтра дзіцячай творчасці з задавальненнем займаюцца многія школьнікі горада. Тут яны вучацца ганчарнаму рамяству ў майстра народных промыслаў Мікалая Аляксеевіча Пратасені. Дзеці сваімі рукамі робяць прыгожы гліняны посуд, мудрагелістыя цацкі і свісцёлкі.

*На здымку: выхаванцы студыі Ангеліна Свірская і Алена Лаўрыновіч са сваімі вырабамі.*

*Фота Уладзіміра АМЯЛЬЧЭНІ, БЕЛІНФАРМ*

рождение", "Целіна"... Сёння прынесла гэтыя брашуркі наша выкладчыца і сказала: " У будучым — літаратура будзе толькі такая".

Я не магла не запярэчыць. Гэта было неверагодна, я не хацела гэтага. "Не, літаратура такой не будзе!" — цвёрда адказала я. Нібы паабяцала не дапусціць гэтага. І цяпер, перагортваючы старонкі, зноў паўтарыла гэтыя словы.

Саша навастрыла слых, запытальна зірнула на мяне.

"Ах, Саша, табе гэтага не зразумець. Табе не зразумець, як важна гэта для мяне".

Саша апусціла вочы, адвярнулася. Яна не хацела пазіраць на мяне, крыўдзілася. Я працягнула руку, каб пагладзіць яе гладкі пукаты лоб.

"Чакаеце? Яшчэ не адчынілі?"

Жанчына ў вязанай сіняй жакетцы села побач. Я неяк бачыла яе ў гэтай крамцы. Мясцовая, можа, ці не з суседняй хаты.

Я зірнула на гадзіннік.

"Яшчэ пяць хвілін", — адказала я. І змоўкла. Уткнулася ў свае кніжкі. Але жанчыне карцела гаварыць.

"Ой, яна калі захоча, тады і адчыняе. Яшчэ, можа, не паабедала. А ніякой там пісулькі не відно, на дзвярах?" — зноў запыталася яна.

Я зірнула:

"Не".

"Яна, бывае, пакідае".

Яна памаўчала.

"Нешта ўсё чытаеце?"

"Так. Трэба", — кіўнула я. Не гаварыць жа мне з ёю пра будучае літаратуры.

Размова ў нас не клеілася. І тады яна пераключылася на Сашу.

"Прадасць ён цябе", — прыгразіла з прыдыхам яна.

Саша ўздрыгнула. Устала, падціснула хвост і падалася ў двор.

Я толькі зірнула запытальна.

"Вунь пісулька вісіць", — жанчына кіўнула ў бок слупа, на якім сапраўды бялелася паперка. — А вам яшчэ не прапаноўваў?" — запытала яна. Я адмоўна хітнула галавою...

"Ён як зап'е, усё не прадае, за пляшку. А потым забірае. Ён без яе не можа".

"Імя дзіўнае даў..."

"Але. — Жанчына занепакоілася, зазірнула цераз плот. — Хаця б жа не пачуў, — паясніла. — Гэта ж жонку яго гэтак звалі — звалі, завуць, — як вам сказаць, — прыцішана, але з задавальненнем, што можна некаму расказаць пра суседа , — яна пайшла ад яго. Інтэлігентка, ці ні інжынерка, — са значэннем, адной ёй вядомым, сказала яна, але ў голасе яе адчувалася пагарда. — Усё ў кніжачкі ўткнуўшыся сядзела. А ён, вядома, просты. І вып'е, бывае, з сябрамі. Яна тады яго і блізка да сябе не падпускала. Сварыліся яны. І ў мяне аднойчы яна начавала. Кажу, уступі яму, пакарыся, а яна — духу гэтага, смуроду не выношу. У нас у сям'і гэтага не было. Каб хоць кілішачак браў, культурна, можа б, сцярпела. А гэта ж... — Вось яна і паехала. Некуда далёка. Бушаваў ён, як яна ад'язджала. Крычаў: "Сабаку імем тваім назаву, інтэлігентка..." Во, так і зрабіў. Цяпер вось гэтую катуе".

"Так, сучка, пародзістая, ёй догляд патрэбен".

"Ён і глядзіць яе. І любіць. І ў хату ўпускае. Але як нап'ецца... Бо і гэта інтэлігентка аказалася. Гарэлачнага духу не выносіць. З хаты просіцца. Ён тады ажно шалее, не выпускае, б'е яе. Даказвае нешта сваё, як некалі жонцы. А засне ён, п'яны, яна вые-вые ў хаце, як па нябожчыку. На вуліцу просіцца. А выскачыць, бывае, ванітуе нават. Гэта ж во жывёліна — а гэтак..."

Мы маўчалі. А што было гаварыць?

"Гэта ж, Божа мой, Божа, што робіцца, — пабедавала жанчына — народ співаецца. І што далей, то горай. У магазінах — нічога няма, а гарэлка — бяры, колькі хочаш".

Жанчына пайшла, зглядзеўшы, што адчыняецца крама. Я таксама паклала ў сумку кніжкі.

І тут з весніц выйшаў малады, але нейкі як хворы мужчына. Шчэць на яго няголеным твары парасла чамусьці няроўна, кусціста, як запушчанае поле.

"Дык, можа, купіце сабаку, га? Нядорага, за пляшку..."

"Што вы, такога сабаку за пляшку не прадаюць".

"Ну, за дзве, — здаўся ён. — Я сам завяду..."

"Аркадзь, не вяжыся да чалавека, ты ўсё адно забярэш". — Гэта быў голас тае мае субяседніцы. Яна адазвалася з парога крамы.

Аркадзь вылаяўся.

"Дык, цётка Наста, пазыч на пляшку. Ну, апошні раз". — Дзяцюк падаўся да крамы.

Купіла бохан хлеба, круп ды пернікаў і я. А, ідучы дадому, на слупе прачытала: "Прадаецца сабака, пародзісты. Танна..."

•

Пачаліся канікулы. І я нейкі час не сустракалася з Сашаю. Штосьці яшчэ замінала. Здаецца, я пачала ездзіць трамваем. Так прайшла зіма. А вясною я зноў абрала дарогу праз гэты аазіс. Так хацелася пабачыць, як цвітуць вішні, як яблыні ўкрываюць пялёсткамі грады. Хоць і зачынілі крамку, але я заўсёды прыпынялася, садзілася на лаўку каля залёнага плота, хоць на пару хвілін. Тут звычайна мяне чакала Саша. Я віталася з ёю, размаўляла. Яна зацікаўлена пазірала, і па яе вачах разумела, што ў яе на душы. Сцвярджаю, што ў сабак (можа, не ва ўсіх) ёсць душы.

А то нешта колькі дзён, нават не дзён, а тыдняў на вуліцы яна не паказвалася. Я ўжо думала — прадаў Аркадзь Сашу, аж аднойчы іду — яна сядзіць.

"Што ж цябе так доўга не было? Я ўжо думала благое".

Саша, канечне, маўчала. Але выгляд у яе быў загадкавы. У вачах свяціліся цяпло, супакоенасць. І нешта такое, чаго мне было не зразумець.

"Дзе ж ты была?" — папытала я.

Саша ўсміхнулася. Так-так, тонкая верхняя губа яе скрывілася, ажно паказаліся вострыя часценькія зубкі. Яна моўчкі ўстала, ступіла да весніц. Я думала, яна не хоча са мною размаўляць і хоча пайсці ў двор. Але яна толькі штурханула і прытрымала весніцы. На вуліцу, валюхаючыся, выбраліся два шчанючкі: чорненькі, як жук, відно што дварнячок, шустры і цікаўны, і пясочнага колеру, нягеглы, караткаогі, а той, што застаўся за варотцамі, не паспеўшы за братамі (які ён, я не зглядзела), заенчыў, заскавытаў, прасліва і назольна.

Мяне замілавалі Сашыны дзеці. Я прысела, пацягнулася да іх рукамі, пачала лашчыць, уміляцца. "Малайчына, Саша. Якія мілыя, дзіўныя твае дзеткі". Яны яшчэ дрэнна хадзілі, былі баязлівыя і кволыя.

Саша, мусіць, парашыла — даволі, а можа, занепакоілася, што гэтак я магу і ўзяць каторага. Яна моўчкі і дзелавіта, я нават не сцяміла, як гэта адбылося, спачатку аднаго, потым другога пакідала іх за шкірку ў двор. Сама таксама схавалася за весніцамі. Мусіць, павяла некуды ў глыб двара, дзе мелася іх карміць, або проста бавіць час разам з імі дзе-небудзь на сонцы.

Ідучы дадому, я па-жаночы зайздросціла Сашы. Адзіны сын мой павінен быў ісці ў армію. Дасюль я нават не уяўляла, як цяжка мне адрываць яго ад сэрца. І, ведаць не ведала, як пакутліва чакаць яго і баяцца, што раптам трапіць на тую далёкую, незразумелую вайну, якая забірала маладзенькіх хлапчукоў, што яшчэ не навучыліся простай абачлівасці, забірала і — не вяртала...

•

Клопаты адхінулі маю ўвагу ад Сашы. Я помніла, вядома, пра яе. Успамінала і расказвала ўсім пра яе, як пра сяброўку. Асабліва пра тое, як яна паказала мне сваіх дзетак. Але бачыць яе не бачыла. Часам мы чалавека ніяк не збяромся наведаць, а сабаку... Проста знаёмага сабаку. Ды і ў самое столькі ўсяго было. Спачатку — з работаю. Бо, як я і ведала, — пасады мне не толькі не далі, а наогул не было ніякай работы. І я чакала да новага года, калі адкрыецца новае выдавецтва. Уладкавацца туды было таксама няпроста. Але гэта размова асобная. Потым, не складаліся адносіны з людзьмі, з начальствам, я так і навучылася ліслівіць, дагаджаць. Ды і сама я стала іншая. Недаверлівая і замкнёная. Цяпер я не размаўляла з кожным сустрэчным сабакам. Нават баялася іх. Асабліва гайні...

Прайшло шмат часу. Неяк мы сустрэлі Сашу ў Севастопальскім лесапарку (болей чым дзіўная назва, калі ўлічыць, што ён на былой ускраіне Мінска). Яна шмыгала па кустах, бы нешта шукала. Мусіць, зноў лекі. Бо на той вулачцы Чайкоўскага, цяпер заасфальтаванай, — ні травіны, ні былінкі.

"Саша! Саша!" — паклікала я.

Яна ўздрыгнула, нейкі час яшчэ прыслухоўвалася, ці не здалося: знаёмы голас. Потым радасна затанцавала: хвост і ўсё тулава хадзілі, як у твісце. Аднак не кінулася да мяне, хоць я і прысела і працягнула насустрач рукі. Яна супакоіла сваё хваляванне, нясмела падышла, пачала абнюхваць, шукаць штосьці ў маіх руках. І я зразумела, што яна галодная.

"Адкуль ты ведаеш яе імя?" — спытаў мяне муж.

"Гэта мая знаёмка..."

"Я думаў, што ты пакінула гэтую звычку размаўляць з чужымі сабакамі на вуліцы".

"Так, але гэта зусім іншае. Ведаеш, я адчуваю, што ў яе нерэалізаваныя магчымасці. Гэтак бывае і ў людзей. Жыве, займаецца не сваёй справай. Не тым, што хоча і ўмее. А тым, што загадваюць, што змушаны рабіць за кавалак хлеба. Каб не памерці з голаду... Мы праўдамі і няпраўдамі трымаемся за гэты кавалак хлеба, а калі ён яшчэ і з маслам, дык гатовы глотку адзін аднаму перагрызці, прынароўліваемся і закладаем адзін аднаго".

"Гаварылі пра сабак, перайшлі на людзей. Гэта ў тваім стылі. Зараз скажаш, што ты не змагла рэалізавацца, і цябе ніхто не разумее". Ён пачынаў злавацца. Ён быў мужчына, і, здаецца, усё рабіў дзеля сям'і, каб жонка і дзеці былі задаволены. Многае ад яго не залежала. Але віну ён браў на сябе. Я паспрабавала яго супакоіць. Шчырае слова, клялася я, што я нічога не хацела тым сказаць. Мне проста падабаецца гэты сабака. Зірні, які ён прыгожы. Гэта сапраўдны сетэр.

"Адно я бачу, што збродлівы, нячэсаны, нямыты".

Так, прыгожая Сашына прычоска была ўскудлачана. У кудзерах вушэй відаць было рэп'е. І вока — ці падбітае, ці прастуджанае — закарэла. А пра хвост няма чаго і гаварыць. Ён парадзеў, поўсць вісела зліплымі космамі.

Саша была дзікаватая, загнаная і, відаць, галодная. Я пашкадавала, што не мела нічога з сабою. Нават кавалка хлеба.

Прыйшоўшы дадому, я зрабіла бутэрброд і пайшла зноў у парк. Клікала Сашу, але яе нідзе не было.

•

У гэтым лесапарку я гуляла часта адна. Надвячоркам шпацыравала па дарожках з мужам. Потым, праз гадоў пяць, — з унукам, коцячы перад сабою яго у калясачцы. Праўда, той-сёй мне не раіў гэтага рабіць: час неспакойны, развялося ўсялякай набрыдзі. У горадзе з'явілася ўсё тое, пра што мы сціпла маўчалі: наркаманы, гвалтаўнікі.

А "чарніла" тут пілі, здаецца, пад кожным кустом. Калі ж пачалася барацьба з п'янствам, я на свае вочы бачыла, як нарад міліцыі, чалавек дваццаць, прачосвалі парк. Яны ішлі ланцугом ад Лагойскага тракта, зазіраючы пад кожны куст, як некалі карнікі ў час вайны па нашых лясах. Па горадзе хадзілі чуткі, што з'явіўся насільнік, ён душыць жанчын. А, можа, яны цікавалі яго?

Неяк летнім надвячоркам я пасадзіла ўнука ў калясачку і, як заўсёды, пакаціла перад сабою ў парк. Я нічога і нікога не баялася. Бо, здавалася, была абаронена і ўзростам сваім, і гэтай малечай, што кугакала ў калясачцы. У мяне і думкі не было, што нехта можа пакрыўдзіць жанчыну з дзіцём. Хто можа дакрануцца да святога, замахнуцца на анёла?

Надвячорак злёгку падсініў паветра, накінуў тонкія, далікатныя вуалькі на кусты бружмелю і дзікай яблыні. Абамлелыя ад дзённай спёкі дрэвы маўчалі, толькі дзе-нідзе ўздрыгвала галінка — то дужэла звялая лістота. Сквер... Толькі зараз, здаецца, я разгадала этымалогію гэтага слова, якое прыйшло да нас з рускай мовы і азначала, калі ўдумацца, нешта накшталт брыдоты, агіды, словам, нешта паганае і гадкае. Няўжо яшчэ з даўніх часоў такія мясціны займелі дрэнную рэпутацыю? Можа, заўсёды тут хаваліся насільнікі і душыцелі?

Сквер быў ціхі. Удзень ён больш людны: праходжваюцца старыя, маці з малымі. Вось якраз і пайшла папераддзе яшчэ такая, як я, жанчына з калясачкаю, а ззаду, крышку воддаль, мусіць, яе сабака абнюхвала кустоўе.

Сцішанасць панавала ў прыродзе, спакой, чаканне і палёгка пасля спякотнага дня. Прыцемак яшчэ не засціў зроку. Ды і вербы, што, скрыўленыя, стаялі ў неверагодных паставах, ад смагі заўчасна апусцілі долу лістоту і прасвечваліся навылёт. Тут, у прагале святла пад імі, я ўбачыла, як нейкі чалавек, зняўшы з пляча сумку і адкінуўшы яе ўбок, каб не замінала, прыгнуўшыся, прабіраўся наперад, як звер, што некага высочвае. Спачатку мне падумалася — ці мала што? — чалавек шукае зацішнае месца, каб справіць сваю пільную патрэбу. Я адвярнулася, маўляў, не назіраю. Але раптам, нават не ведаю чым, мусіць, скураю, адчула на сабе яго востры хцівы позірк; здаецца, я ўбачыла нават нейкі звярыны бляск у ягоных вачах. Прыгнуўшыся пад дрэвамі, хаваючыся за кустамі, ён краўся, высочваў... мяне. Ураз парабіліся драўлянымі ногі, але я не спыніла і не паскорыла хады. Бегчы я проста не магла на непаслухмяных нагах. Добра, што голас не страціла, і сама, дасюль не разумею чаму, раптам крыкнула ў той далёкі час, да тае чацвераногае свае прыяцелькі:

"Саша! Саша! Хутчэй сюды!"

І, можа, каб ён зразумеў, што Саша не хто іншы, як сабака, дадала: "Цю-цю, цю-цю..." Клікала яе і свістам, упершыню, не ведаю як склаліся ў свісток мае таксама драўляныя вусны.

"Са-ша! Са-ша..." — клікала я.

Бакавым зрокам змеціла, як той звер, што падкрадваўся, высочваў мяне, прыпыніўся, настаўрыўся, скочыў убок, да куста, куды кінуў сваю сумку, і вопраметцю кінуўся між дрэў і кустоўя да Лагойскага тракту. Я таксама сцяжынаю падалася да дарогі, дзе быў трамвайны прыпынак. Так стаяла некалькі пасажыраў, сярод іх танклявы, драбнатвары, на від нават субтыльны малады чалавек гадоў дваццаці з сумкаю-планшэтам цераз плячо. Я пазірала здалёк на яго, а ён — на мяне. Яму не стаялася на месцы і ён нервова бегаў туды-сюды па платформе. Я падумала: ён бачыць, што ніякага сабакі са мною няма, што я падманула яго, і мне чамусьці стала няёмка (Ах, гэтыя інтэлігенцкія штучкі!), а можа, боязна?

Але быў ціхі, летні надвячорак, яшчэ светлы, толькі-толькі згушчаўся прыцемак. І на трамвайным прыпынку стаялі людзі. Вось падбег трамвай, і хлапец хуценька, як заяц, першы ўскочыў у яго.

А я пацішу пакаціла вуліцаю каляску з унукам да свайго дома. І думала пра Сашу: дзе яна, і што з ёю? Таму і стаю зараз перад гэткім домам. Гаспадар яго, той самы Аркадзь, а, можа, нехта іншы, пэўна, займеў сваю справу. Каля гаража, што высунуў лыч на вуліцу, стаяў вясёленькі шапік. Я не стала разглядаць яго рознакаляровыя вітрыны, мусіць жа, тут тое, што паўсюдна, але міжволі падумала, як добра, што ёсць кавалачак сваёй зямлі. Вось і шапік побач з домам паставіў, а воддаль, яшчэ без вокан, узвышаўся гмах цаглянай двухпавярхоўкі. Мусіць, таксама яго.

Я пазірала на ганак дома, дзе сядзеў сабака. Ён таксама прыкмеціў мяне. Падазрона прымружыў насмешлівыя, як мне здалося спачатку, вочы. Вось раптам яны ні з таго ні з сяго — я ж нават за клямку не ўзялася, толькі прыпынілася — успыхнулі злосцю. І сабака ўсчаў брэх: злы, залівісты, звонкі. Надрываўся, захлёбваўся, рваў рыскала, і яно грымела па асфальтавай дарожцы. Але я нічога яму не сказала, бо цяпер часцей маўчу і не размаўляю з кожным сабакам, дварняк ён ці пародзісты.

Перадрук

**Расійскі земскі рух самадзейна ўзнік і зарэгістраваны ў лістападзе 1993 года. Яго задача — актыўна ўключаць шырокія пласты народа ў дзяржаўнае будаўніцтва, садзейнічаць пабудове мясцовага самакіравання. За паўтара года РЗР адкрыў аддзяленні ў некалькіх рэгіёнах краіны, рэгулярна выдае часопіс "Земскі веснік", двойчы збіраў агульныя з'езды РЗР, а таксама нарады па прыватных пытаннях: сёлета ў красавіку — Нараду садоўнікаў і агароднікаў, у чэрвені — Усерасійскі земскі з'езд настаўнікаў (апошні такі збіраўся ў Расіі ў 1911 годзе). Земскі рух выступае за стварэнне земскай школы, чыё ўладкаванне, навучальныя праграмы і дзейнасць вызначаліся б спалучэннем намаганняў і дзяржавы, і мясцовага народнага самакіравання.**

**На з'ездзе настаўнікаў з прамовай-развагамі выступіў Аляксандр Ісаевіч Салжаніцын. Ён з вялікай трывогай і заклапочанасцю гаварыў аб тым, што, па сутнасці, сёння ў Расіі адсутнічае руская нацыянальная школа, што ў яе стварэнні і станаўленні можа адыграць станоўчую ролю расійскае земства. Што ж тады гаварыць нам, беларусам! Мы сёння не маем не толькі беларускай нацыянальнай школы, але і школы з беларускай мовай навучання.**

**З надзеяй на тое, што многія думкі і развагі рускага пісьменніка будуць цікавыя і карысныя і нашаму чытачу, перадрукоўваем выступленне А. Салжаніцына, змешчанае ў N 27 "АИФа" за г. г.**

# ЦІ ПАТРЭБНЫ "МАЛЫЯ" СПРАВЫ?

## ВЫСТУПЛЕННЕ АЛЯКСАНДРА САЛЖАНІЦЫНА НА УСЕРАСІЙСКІМ ЗЕМСКІМ З'ЕЗДЗЕ НАСТАЎНІКАЎ

**110 гадоў назад, і 100 гадоў назад, і 90 гадоў назад — увесь чэхаўскі перыяд адбывалася ў Расіі напружаная грамадская спрэчка, у Чэхава шмат разоў адлюстраваная, так званая спрэчка аб "тэорыі малых спраў". Гэтая назва дадзена іранічна рэвалюцыйнымі дэмакратамі, праціўнікамі тады інтэлігенцыі працалюбівай, непасрэдна звязанай са справай.** З каго складалася гэтая інтэлігенцыя? З земскіх настаўнікаў, з земскіх урачоў, з аграномаў, якія стваралі агранамічныя пункты высокага класа, і з кааператараў — шматлікіх і разнастайных кааператараў, што ажыўлялі ўсё народнае жыццё. Рэвалюцыйныя дэмакраты дакаралі іх: гэта ўсё нікчэмна дробныя справы, вы здраджваеце інтарэсам народа, а інтарэсы народа ў тым, каб перавярнуць уладу, перавярнуць усё ў краіне радыкальна, і тады ўсё стане само сабою на месца. Трата часу і сіл — займацца канкрэтнымі справамі, думаць пра канкрэтных людзей, трэба адразу ратаваць усю краіну і ўсё чалавецтва. І рэвалюцыйныя дэмакраты перамаглі. Свайго дамагліся, і рэвалюцыя адбылася. І тады самы левы край рэвалюцыйных дэмакратаў — бальшавікі — з ашалеласцю і насалодай пачалі знішчаць земства пад корань, земскія школы — пад корань, земскія бальніцы — прэч. Таксама ўсе агранамічныя пункты і асабліва кааперацыю, таму што ў кааперацыі яны бачылі сабе сапернікаў, свайму ўжо відочнаму калгасна-прымусоваму ладу жыцця. Так яны ўсяго дамагліся, і вось цяпер, праз 100 гадоў, мы з вамі ля струхлелых ночваў. Мы пачынаем зноў усё з пачатку, праз 90, 100, 110 гадоў — дзякуй.

### БЛІЖЭЙШЫЯ ЦЯЖКАСЦІ РАСІЙСКАГА ЗЕМСТВА

Аднак і сёння нам пагражаюць падобныя небяспекі, нашы вушы і вочы залепліваюць палітыкай і палітычнымі разлікамі, часам радыкальнымі, часам нерадыкальнымі. Вось пра тыя ж выбары, пра якія мы нават з гэтай трыбуны чуем, — іронія. Выбары, да якіх тры чвэрці народа нават не запрашаюцца. Якія гэта выбары, да якога часу мы будзем пра іх чуць? **Дзяржаўная Дума за паўтара года існавання, а ўлічваючы летні перыяд — ужо амаль лічы што за два, да гэтага часу не выпусціла ў свет закона аб самакіраванні, народным самакіраванні.** Чым гэта можна вытлумачыць? Ці поўнай пагардай да народных інтарэсаў, ці карыслівасцю, разлікам, таму што гэтыя палітычныя функцыянеры разумеюць, што ў земстве, у народным самакіраванні яны набудуць вельмі моцных канкурэнтаў, і тады — чаго яны самі варты?

Сёння надзвычай цяжка нам з вамі паверыць, што вось, не падтрыманыя нікім, не падтрыманыя ні ўладай, ні фінансамі, ні прасветленым рухам мас, мы можам дабратворнымі павольнымі, ціхімі намаганнямі, як пчолы адбудоўваюць соты, ячэйка за ячэйкай, адбудоўваць лад народнага жыцця. А між тым толькі так яно і можа адбыцца. Толькі знізу і толькі цярплівымі намаганнямі. І так яно і павінна быць, і трэба, каб ішло. Вельмі характэрна, што гэты з'езд — сапраўды, з гонарам і радасцю чытаеш такую назву — Усерасійскі земскі з'езд настаўнікаў, — ён скліканы таксама намаганнямі знізу, скліканы намаганнямі асобных людзей і груп людзей, а не ўрадам. Урад не мае патрэбы ў настаўніцкім з'ездзе, якая там адукацыя? — ніхто не памятае пра адукацыю.

Акрамя таго, што не створана першая аснова для земства — закона пра самакіраванне няма, няма і другой асновы — рэгіянальных бюджэтаў. Тут сёння гаварылі: не дай Бог дапусціць, каб ПТУ пайшлі на рэгіянальныя бюджэты. Не было б у тым аніякай бяды, калі б самі рэгіёны былі абаронены ад цэнтра. Ужо ж колькі гадоў гаворыцца: ну і падзяліце ж нарэшце, што ваша і што наша, каб рэгіёны ведалі свае грошы. Не, не, прынясіце ўсю на талерачцы, — аддайце, — а пасля прыходзьце, на калені станавіцеся і прасіце, мы вам што-небудзь дадзім. Ды пры такім парадку, вядома, рэгіёнам аддаць навучальныя ўстановы цалкам нельга. Але калі рэгіёны будуць цвёрда ведаць, што іх, і кожная мясцовасць будзе ведаць свой бюджэт, нічога страшнага няма ў дэцэнтралізацыі. Нічога страшнага, наадварот, трэба аддаваць. **Народнае самакіраванне будзе расці толькі і толькі знізу, і не чакайце ніякіх даброт, што пасыплюцца зверху: вось у тым, што гэтыя два законы не прыняты, мы бачым не проста неспагадлівасць сённяшняй палітычнай сістэмы, нячуласць да народных патрэб, але, я б сказаў, глыбокую разбэшчанасць яе.**

Узнікае пытанне, а ці рэальна мы сёння кажам: "стварыць земскую школу", калі няма яшчэ земства? У многіх пытаннях сёння гэтак, не ведаеш, з якога канца пачаць, не ведаеш, як правільна. Так, здавалася б, спачатку б земства стварыць, але нам яго не даюць стварыць, — а толькі пасля земскую школу. Аднак у розных раёнах пойдзе па-рознаму, па збегу абставін той мясцовасці, і дзе можна стварыць земскую школу раней за фармальнае земства, трэба яе стварыць. А ў іншым месцы створыцца спачатку земства.

### МАГЧЫМАСЦІ ЗЕМСКАЙ ШКОЛЫ

У 1914 г. у Расіі было 40 тысяч земскіх школ, толькі земскіх, гэта не лічачы царкоўнапрыходскіх, народных вучылішчаў, гарадскіх вучылішчаў, гімназій, рэальных вучылішчаў, а сёння 67 тысяч усяго, усіх школ. Не нашмат мы сягнулі за стагоддзе, калі наогул сягнулі.

У ранейшым земстве, аднак, у земскай школе ранейшай, усё-такі цэнтралізацыя адукацыі была моцная тады — былі такія суадносіны: навучальная база стваралася земствам і падбор настаўнікаў, утрыманне настаўнікаў, а праграмы ўсе — міністэрствам народнай асветы. Ці правільна гэта? Увогуле я лічу, што правільна, у прынцыпе, дзяржава наша, вялікая Расія, павінна мець цвёрдую вертыкаль урадавую. Але меней за ўсё, бадай, у адукацыі, у асвеце, не настолькі. Трэба спалучаць цяпер у земскай школе, разумна спалучаць агульнарасійскія патрабаванні і патрабаванні мясцовыя. І ў гэтай сувязі сапраўды органы народнай асветы павінны змяніць свой накірунак і, можа быць, падпарадкаванне. Уласна кажучы, райана як выключна дырэктыўны орган, што спускае ўсім школам інструкцыі, можа быць, і непатрэбны, а трэба, каб райана натуральна зліваўся з земскай творчасцю гэтак жа, як самі земскія настаўнікі зліваюцца з грамадскім рухам у сябе ў раёне і ў сваім акружэнні.

### ПАЗАПАЛІТЫЧНАСЦЬ І ПАЗАПАРТЫЙНАСЦЬ ЗЕМСТВАЎ

Мы ўсё паўтараем і гаворым, і сёння пра гэта нагадвалася, што **земства павінна быць: пазапалітычным, пазапартыйным і пазанацыянальным.** Цалкам слушна, менавіта так. Аднак не забудзем, што дарэвалюцыйнае земства на першым, напрыклад, пункце не утрымалася. Дарэвалюцыйнае земства, галоўным чынам праз свой "трэці элемент", гэта значыць наёмных службоўцаў, куды ішлі і сасланыя па абласцях так званыя "палітычныя неблаганадзейныя", земства пачало цягнуць у палітыку таксама. І ў 1914—1916 гг. гэта згубна сказалася на Расіі. Земгор, гэта значыць аб'яднанне ўсіх земстваў, стаў у часе вайны актыўна служыць рэвалюцыі таксама. Падобная небяспека ёсць і цяпер. Вось сёння ў нас земства яшчэ не пачата, можна сказаць, будаўніцтвам, і сёння да нас ніхто не ідзе. Але пачні земства дзейнічаць, пачні земства рэальныя справы рабіць — гэтыя палітычныя функцыянеры паваляць сюды, каб апалчыць яго, сказіць, узначаліць і накіраваць. Гэтая небяспека ёсць.

### АБ РУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЕ

Цяпер адносна пазанацыянальнага земства. Так, вядома, народнае самакіраванне ў дадзенай мясцовасці павінна быць пазанацыянальным. Ніякіх адрозненняў паміж нацыямі не павінна быць. У земства ўваходзіць усё насельніцтва дадзенай мясцовасці. А як жа быць у такім выпадку са школай? Якая павінна быць школа? Сёння ў праграме нашага з'езда стаіць пытанне аб школе рускай нацыянальнай. Ува ўсіх былых рэспубліках СССР і ўва ўсіх аўтаноміях цудоўна і даўно існуюць школы нацыянальныя. Ствараюць нацыянальныя школы эстонцы, чувашы, татары, узбекі, казахі, ні перад кім не апраўдваючыся — і справядліва, і яны маюць рацыю, і вельмі добра. Але калі толькі рускі скажа "руская нацыянальная школа" — уздымаецца страшэнны шум, небяспека ледзь не фашызму. **Чаму, чаму рускі народ, адзіны з народаў СССР, пазбаўлены права на самавызначэнне, і на ўз'яднанне, чаму? Калі ўсім можна, чаму нам нельга?** Гэта проста недарэчна і смешна, саромецца тут няма чаго. Трэба адрозніваць словы "расійскі" і "рускі" і ніколі іх не блытаць. Расійская ў нас — дзяржава, шматнацыянальная і шматверная. **Расійскія ў нас усе органы ўрадавыя, дзяржаўныя — усё гэта расійскае. Але культура, выбачайце, у нас руская, і ніяк культуру расійскай зрабіць нельга, гэта бяссэнсіца. І не можа быць наогул інтэрнацыянальнай культуры, бо кожны народ расце ўва ўсё чалавецтва, па словах Дастаеўскага, толькі са сваёй культуры.** Інтэрнацыянальная — гэта бяссэнсіца, таму што "інтэр" — гэта "паміж", між нацыямі, ніякай нацыі, наогул ніякай. І нас забілі гэтым інтэрнацыяналізмам, нам дыхаць не даюць, не дай Бог сказаць "рускае нацыянальнае". Так, павінна школа расці з рускай культуры, з рускай традыцыі, з рускай гісторыі, з роднай мовы, з краязнаўства, якое ў нас затаптана з нянавісцю, — з усяго гэтага можа вырасці толькі руская нацыянальная школа. Гэта не азначае, што ў гэтую школу ў дадзенай мясцовасці не будуць прымаць этнічна нярускіх, — ды калі ласка. Калі ласка, прыходзьце і вучыцеся на здароўе. Ды я, напрыклад, у Казахстане выкладаў некалькі гадоў, дык там былі "рускія" класы і "казахскія". Але ўся казахская эліта, і ўсе ссыльныя немцы, і ўсе карэйцы, і каго там ні было — усе аддавалі ў рускі клас. Так што гэта не этнічны адбор, не, гэта выбар культуры, і кожны мае права сабе выбраць.

### ВЫКЛАДАННЕ РЭЛІГІІ

Аднак тут, і ўжо слушна закранулі, нельга, каб не ўстала пытанне аб выкладанні рэлігіі. Будзе яна выкладацца ці не? і — якая рэлігія? Што маральная арыентацыя ў школе павінна быць — у гэтым няма сумневу. Нагадаю, больш за тое, што па пакце ААН аб правах чалавека, цытую: "Бацькі маюць права даваць дзецям рэлігійнае выхаванне". Адмовіць у гэтым нельга. І можна чакаць, што ў рускай нацыянальнай школе — ну не паўсюдна, вядома, зусім не павальна ў наш атэістычны век, але многія бацькі захочуць, каб іхнія дзеці вывучалі праваслаўе. І яно павінна быць унесена ў расклад. І вось як тут быць? Менавіта па атэістычнасці нашага веку, а ў некаторых рэгіёнах па рознапляменнасці і рознавернасці рабіць абавязковым навучанне праваслаўю нельга. Але можна зрабіць факультатыўнай адмову ад яго. Хто хоча адмовіцца па пэўных акалічнасцях — адмоўся. А ў якіх мясцовасцях могуць, маюць рэальную магчымасць зрабіць і выкладанне іншай рэлігіі — калі ласка.

### НАША КУЛЬТУРНАЯ БУДУЧЫНЯ

130 гадоў назад, у 1867 годзе, ужо тады павінен быў Ушынскі надрукаваць артыкул "Аб неабходнасці зрабіць рускія школы рускімі". Ужо тады, 130 гадоў назад, стаяла гэтае пытанне. А сёння, калі рускі народ у глыбокім духоўным заняпадзе, руская школа, вядома, можа быць і павінна быць апораю нашай у нацыянальным адраджэнні. **І выхаванне духоўнае, і выхаванне разумовае, выхаванне эстэтычнае павінна весціся на нацыянальным грунце.** Вядома, без шавінізму і без ксенафобіі. У тым і цяжкасць, у тым і мастацтва, а гэта можна — каб дзеці нашы, засвойваючы рускія культурныя і гістарычныя карані, з пэўнага ўзросту, ці нават паслядоўна ўвесь час вучыліся ўзаемадзеянню з іншымі культурамі і ўзаемадачыненням з імі. Гэта і ёсць той самы лозунг Дастаеўскага аб усечалавечнасці рускага народа. **Калі мы не створым рускай нацыянальнай школы, дык і будучая інтэлігенцыя, як інтэлігенцыя сённяшняя, не будзе звязана з рускімі нацыянальнымі традыцыямі.** Ці інакш: калі над Расіяй выбухне ваенная навальніца, а яна яшчэ якая выбухне ў XXI стагоддзі, дык няўжо народ пойдзе ваяваць за правы камерцыйнай рэкламы і банкаў?

Вось бальшавікі насіліся з інтэрнацыяналізмам, а як пачалася вайна з Германіяй, інтэрнацыяналізм схавалі, цалкам і начыста, і адразу — Аляксандр Неўскі, Дзмітрый Данскі, Сувораў, Кутузаў, святыні рускія! — і перамаглі толькі на гэтым, ніякага інтэрнацыяналізму, заткнуўся ён. А як перамаглі — тады, наадварот, рускае нацыянальнае прытушылі, а інтэрнацыяналізм выцягнулі зноў. І сусветную рэвалюцыю.

Я ўжо доўга судакранаюся — параўнальна доўга — з земскім рухам і адчуваю веру ў яго і надзею на яго. Я ўпэўнены, што ўсё дабратворнае не зверху зваліцца нам, а залежыць ад нас саміх.

*Масква,*
*26 чэрвеня 1995 г.*


ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ — ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ,** ***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**
**Віктар ШНІП,** ***намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі -- ***332-461***
намеснікі галоўнага рэдактара -- ***332-525, 331-985***
аддзелы:
публіцыстыкі -- ***332-525***
пісьмаў і грамадскай думкі -- ***331-985***
літаратурнага жыцця -- ***332-462***
крытыкі і бібліяграфіі -- ***332-204***
паэзіі і прозы -- ***332-204***
музыкі -- ***332-153***
тэатра, кіно і тэлебачання -- ***332-153***
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- ***332-462***
навін -- ***332-462***
мастацкага афармлення -- ***332-204***
фотакарэспандэнт -- ***332-462***
бухгалтэрыя -- ***268-640***

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7172.
Нумар падпісаны 3. 8.1995 г.
ЗАКАЗ 2917
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12